30 лістапада 2018 | № 44 (607)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА •ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144




**Дызель-папулізм супраць ЕС**

стар. 20

**4 АБЫЯКАВАСЦЬ І АПАТЫЯ ЯК ГАРАНТЫ БЯСПЕКІ І НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Беларуская дзяржава — гэта група асоб, якія займаюцца адміністрацыйным бізнесам



**5 ЧЫМ АБЕРНЕЦЦА ВАЕННАЕ СТАНОВІШЧА ВА УКРАІНЕ ДЛЯ БЕЛАРУСІ**

Паколькі Беларусь з'яўляецца найбліжэйшым саюзнікам Расіі, некаторыя непакояцца, што Беларусь могуць уцягнуць ва ўкраінска-расійскі канфлікт

**7—18 Літаратурная Беларусь**

**23 ГЕНІЮШ І УРУБЛЕЎСКАЯ: ПЕРАКРЫЖАВАННІ ЛЁСАЎ**

Шмат прозвішчаў людзей, якія прайшлі ГУЛАГ, прыгадвае Геніюш ў сваёй кнізе ўспамінаў. Сярод іх — Яўгенія Урублеўская, якая перадавала «ксівы» тым, каму яны былі адрасаваныя

# Казкі мінулага стагоддзя

**Тэма выбараў запускае безліч непрыемных для кіраўніка Беларусі спекуляцый**



Сяргей ПУЛЬША

Днямі расійскі апазіцыянер Ілля Панамароў, як напісаў украінскі «Обозреватель», «раскрыў планы Пуціна па Беларусі».

Невядома, канешне, адкуль Панамароў ведае пра планы Пуціна, аднак, на яго думку, кіраўнік Расіі плануе адрадзіць Саюзную дзяржаву з Беларуссю. Для рэалізацыі гэтага плана Пуціну неабходна адхіліць ад улады Лукашэнку.

Панамароў нагадаў, што Расія прызначыла ў Беларусь паслом з пашыранымі паўнамоцтвамі Міхаіла Бабіча. «Бабіч у Расіі вядомы тым, што ён сілавік і спецыяліст па самых брудных і гвалтоўных выбарах, якія праходзілі ў расійскіх рэгіёнах. Такі сабе спецпаліттэхнолаг. Хутчэй за ўсё, гэта сведчыць, што Крэмль будзе актыўна гуляць на гэтых (беларускіх. — аўт.) выбарах», — растлумачыў ён.

«Калі ў іх атрымаецца прыбраць Лукашэнку, тады яны паспрабуюць аднавіць ідэю саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі — «СССР–2.0», каб можна было вывесці Пуціна на выбары прэзідэнта гэтай аб'яднанай дзяржавы», — кажа расійскі палітык.

Паводле меркавання Панамарова, гэта дазволіць Пуціну, па-першае, падвысіць свой рэйтынг за кошт, дэ-факта, далучэння Беларусі да Расіі, а па-другое, стаць кіраўніком «Саюзнай дзяржавы», прычым, без абмежавання канстытуцыйных тэрмінаў.

Што ж, версія, як кажуць, не пазбаўленая вытанчанасці. Адна бяда — рэалізаваць яе можна было ў мінулым стагоддзі, калі працэс фармавання «Саюзнай дзяржавы» ішоў напоўніцу, і ўсе былі поўныя энтузіязму з гэтай нагоды. Зараз — іншы час.

Па-першае, «змяніць Лукашэнку». Адразу ўзнікае пытанне: якім чынам? Працэс «кіруемых выбараў» у Беларусі адладжаны значна лепей, чым у Расіі. Можна нават сказаць, што гэта Расія ўзяла на ўзбраенне «беларускую мадэль». І ў такіх варунках разлічваць на тое, што беларускі Цэнтрвыбаркам выдасць лічбы, адрозныя ад прагназуемых, — смеху варта. Расія прапануе старшыні беларускага ЦВК столькі грошай, што яна «здасць» свайго патрона? Наўрад ці. Бяспека грашыма не вымяраецца.

Па-другое, нават калі Расія «здыме» Лукашэнку, праблемы толькі пачынаюцца. Трэба напісаць Канстытуцыю «Саюзнай дзяржавы». Трэба стварыць не толькі агульную пасаду прэзідэнта, але і агульны парламент. Трэба, каб гэтая Канстытуцыя была ўхваленая народамі абедзвюх дзяржаў, то бок — праведзены рэферэндум. А ўжо потым — выбары прэзідэнта, парламента і гэтак далей.

З рэферэндумам, нават пры кіраваным выбарчым працэсе, узнікнуць надзвычайныя складанасці. Напрыклад, паводле беларускага заканадаўства, на рэферэндум нельга выносіць пытанне, якое можа выклікаць парушэнне тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь (а «Саюзная дзяржава» — менавіта такое пытанне). То бок, спачатку беларусам давядзецца змяніць Выбарчы кодэкс.

Вынікі рэферэндуму — пасля захопу Расіяй Крыму і дзеянняў на Данбасе, а зараз і ў Азоўскім моры, — наўрад ці прадказальныя. У сярэдзіне 2016 года, паводле звестак НІСЭПД, толькі 52% апытаных падтрымалі б уваходжанне Беларусі ў склад Расіі. Гэта большасць, канешне, але непераканаўчая. І яшчэ горш: калі б быў выбар, куды ісці, — у Еўрасаюз ці Расію, Расію б выбралі толькі 42%.




**Працэс «кіруемых выбараў» у Беларусі адладжаны значна лепей, чым у Расіі. Можна нават сказаць, што гэта Расія ўзяла на ўзбраенне «беларускую мадэль»**

Дапусцім усё ж, што і рэферэндум прайшоў. Тады ў нас пачынаюцца выбары кіраўніка Саюзнай дзяржавы. Хто-небудзь можа даць гарантыю, што на іх не высуне сваю кандыдатуру «адхілены» Расіяй Лукашэнка?

Расійскі аналаг Аляксандра Рыгоравіча — Павел Грудзінін — на нядаўніх выбарах кіраўніка Расіі заняў другое месца і склаў даволі сур'ёзную альтэрнатыву Пуціну. Што ж тычыцца Лукашэнкі, то, згодна з апытаннямі расійскага ВЦИОМ ад 2017 года, да яго «з павагай і сімпатыяй» ставяцца 27% расіян. А 54% сказалі, што «мне не ва ўсім падабаецца Лукашэнка, але я паважаю выбар народа Беларусі».

Перамога Пуціна на выбарах кіраўніка Саюзнай дзяржавы — зусім не гарантаваная.

Але самы галоўны складнік, які перашкаджае стварэнню «СССР 2.0», — гэта грошы. На ўсе выкладзеныя вышэй дзеянні (без гарантаванага станоўчага выніку) трэба процьма грошай. І яшчэ больш спатрэбіцца пасля рэалізацыі такога сцэнару, бо давядзецца аб'яднаўваць грашовыя сістэмы, і Расія займее яшчэ 6 датацыйных рэгіёнаў, якія трэба карміць.

А ў іх не хапае грошай на сваіх пенсіянераў, інакш бы яны не праводзілі пенсійную рэформу і не падымалі пенсійны ўзрост. Што, дарэчы, і абваліла рэйтынг даверу да Пуціна — зараз, паводле дадзеных таго ж ВЦИОМ, яму давяраюць толькі 37,5% расіян. Лукашэнка па прызнанні адстае ад кіраўніка Расіі ўсяго на 10% — прычым, на яго, Пуціна, тэрыторыі!

Так што версія Панамарова — усяго толькі версія. Крамлю лепш пакінуць усё, як ёсць, чым займець сабе яшчэ адзін галаўны боль. А значыць, лёс Беларусі ўсё ж будзе вырашацца беларусамі.

# Зміцера Паліенку чакае новы суд

НЧ

**Былога палітвязня Зміцера Паліенку чакае новы суд. Верагоднай прычынай стала яго адмова наведваць прызначаныя пасля вызвалення лекцыі ў мясцовым РАУС.**

Паліенку затрымалі 26 лістапада. З РАУС Заводскага раёна яго адвезлі ў гарадскі аддзел міліцыі, дзе склалі два пратаколы па артыкуле 23.4 КоАП (непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі).

Актывіст распавядаў «Новаму Часу», што яму кожны дзень трэба хадзіць у РУУС на лекцыі да таго часу, пакуль ён афіцыйна не працаўладкуецца і не прынясе ў міліцыю дакументы пра гэта: «Лекцыі ў РУУС ніяк не паспрыяюць майму працаўладкаванню, але, калі я не з'яўлюся на іх, на мяне складуць пратакол за непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі, які прадугледжвае арышт альбо штраф. Я лічу, што такім чынам мяне вырашылі кантраляваць: за мной не могуць пакінуць нагляд, бо ў мяне не такі цяжкі артыкул».

Былы палітвязень тлумачыў, што на лекцыі ў РАУС ён прынцыпова не ходзіць, бо лічыць, што гэта прымусам да афіцыйнага працаўладкавання.

Суд прызначаны на 6 снежня ў 11:00 у судзе Заводскага раёна Мінска.

# У Пскове беларусаў вярбуюць у расійскую армію

Марыя ВАЙТОВІЧ

**Блогер Эдуард Пальчыс паведаміў, што ў Пскове вярбуюць беларусаў на службу ў расійскую армію.**

«Увага: тэрмінова патрабуюцца ў пункт адбору на ваенную службу па кантракце ў ВС Расійскай Федэрацыі грамадзяне, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», — так пачынаецца e-mail, які рассылаў пункт адбору на ваенную службу па кантракце РФ па Пскоўскай вобласці.

Уладкавацца можна кіроўцам, стралком, артылерыстам. Кантрактнікам абяцаюць заробак ад 300 да 1000 долараў, поўнае забеспячэнне, службовае жытло.

«Грамадзяне, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь» — фармулёўка абцякальная. Гаворка можа ісці пра расіян, якія атабарыліся ў нашай краіне. Але і грамадзяне Беларусі пад гэтае апісанне падыходзяць. Ці законна ўладкоўвацца на такую працу, і ці не будзе такая служба па кантракце ў войску суседняй краіны лічыцца наёмніцтвам?

«Гаворка ідзе пра ваенную службу па кантракце ва ўзброеных сілах Расійскай Федэрацыі, — распавядаюць «Еўрарадыё» ў пункце адбору. — Разглядаем кандыдатаў ва ўзросце ад 18 да 40 гадоў. Вакансіі размічаныя на тых, хто праходзіў ваенную службу па прызыве. Калі грамадзянін не служыў, у яго павінна быць закончаная вышэйшая або сярэдняя прафесійная адукацыя. Службу можна праходзіць і ў Пскове, і ў Пскоўскай вобласці, і за яе межамі. Геаграфія шырокая, як і наша краіна».

Ці могуць паслаць кантрактніка ў «гарачую кропку»? «Па жаданні. Каб туды трапіць, трэба заключыць кантракт. Цяпер проста так абы-каго не адпраўляюць», — адказваюць у Расіі.

«Вы ўжо не першыя, хто тэлефануе [з Беларусі]. Не ведаю, хто канкрэтна адпраўляў інфармацыю, можа быць, сервер. Замежныя грамадзяне, якія выказалі жаданне праходзіць ваенную службу па кантракце ва ўзброеных сілах РФ, могуць заключыць адзіны кантракт на пяць гадоў. Кандыдату павінна быць ад 18 да 30 гадоў. У Баранавічах, дарэчы, ёсць наша воінская мотастралковая часць. Нават там патрабаваліся вадзіцелі», — кажуць у пункце адбору.

Ці не будзе гэта наёмніцтвам? Па меркаванні рускіх, наёмніцтва трактуецца як «удзел на тэрыторыі замежнай дзяржавы ва ўзброеных канфліктах, ваенных дзеяннях асобы, якая не ўваходзіць у склад узброеных сіл ваюючых бакоў». Так што на службу ў войску замежных дзяржаў — не распаўсюджваецца.

У Мінабароны Беларусі «Еўрарадыё» адказваюць, што бачылі вярбовачны ліст, пра які ідзе гаворка. Начальнік упраўлення інфармацыі Уладзімір Макараў раіць нам уважліва чытаць «паведамленні, якія распаўсюджваюцца невядома кім», і ў выпадку сумневаў звяртацца па каментары ў кампетэнтныя органы Расійскай Федэрацыі.

«У гэтым так званым звароце асабіста я ўбачыў некалькі супярэчнасцяў, якія не адпавядаюць расійскім федэральным законам, — кажа Уладзімір Мацвеевіч, хоць і не тлумачыць, пра якія менавіта супярэчнасці ідзе гаворка. — Што тычыцца нашага заканадаўства, грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія праходзяць ваенную службу ва Узброеных сілах Рэспублікі Беларусь, не могуць служыць у іншых арміях. І не служаць. Вось і ўсё. Што тычыцца тых, хто наогул не праходзіў ваенную службу, глядзіце «Закон аб вайсковым абавязку і воінскай службе». У ім выразна вызначана, дзе беларусам трэба праходзіць вайсковую службу, або тэрміновую ваенную службу, або ў рэзерве і гэтак далей. Дакладна не ў замежнай арміі. Нават не ў арміі брацкай Расіі».

**Паводле euroradio.fm**

# У Беларусі выкананыя два смяротныя прысуды

**Каардынатару кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэю Палуду 27 лістапада стала вядома, што выкананы смяротны прысуд Сямёну Бережному, які быў асуджаны да смяротнага пакарання Магілёўскім абласным судом 21 ліпеня 2017 года. Пра гэта яму паведамілі сваякі Бережнога.**

Камітэт ААН па правах чалавека зарэгістраваў зварот Сямёна Бережнога, і накіраваў Беларусі запыт аб прыняцці часовых мер аб прыпыненні выканання смяротнага пакарання да высвятлення Камітэтам канчатковага рашэння. Праваабаронцы спадзяваліся, што Беларуссю ўсё ж будуць прыняты часовыя меры да разгляду звароту, але беларускія ўлады не адрэагавалі на запыт КПЧ ААН. Аналагічны зварот быў зарэгістраваны КПЧ ААН і ў дачыненні да Ігара Гершанкова.

Калі стала вядома пра пакаранне смерцю Бережнога, маці Ігара Гершанкова паведаміла Андрэю Палуду, што ўжо месяц не атрымлівала ад вязня лістоў. Яна спадзявалася на хуткае спатканне з сынам, якое павінна было адбыцца неўзабаве. Але ёй таксама паведамілі: Гершанкоў расстраляны.

Нагадаем, па прысудзе Магілёўскага аблсуда 21 ліпеня Ігар Гершанкоў і яго жонка Тацццяна абвінавачваліся ў здзяйсненні забойстваў і падрыхтоўцы да здзяйснення забойстваў, выкраданні чалавека і падрыхтоўцы да выкрадання, а таксама ў махлярстве, разбоі, вымагальніцтве, крадзяжы або знішчэнні дакументаў. Тацццяну Гершанкову дадаткова абвінавацілі ў незаконным абароце наркотыкаў. Судом было ўстаноўлена, што злачынная група агулам зарабіла на махінацыях з чужым жыллём больш за 2 мільярды недэмінаваных рублёў.

Ігар Гершанкоў быў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Да гэтага ж быў асуджаны Сямён Бережной. Тацццяне Гершанковай суд прысудзіў 24 гады турмы з канфіскацыяй маёмасці, а Барысу Калеснікаву — 22 гады і 1 месяц калоніі строгага рэжыму.

20 снежня 2017 года Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі вынесла рашэнне па апеляцыйных скаргах двух фігурантаў так званай справы магілёўскіх «чорных рыэлтараў»: Ігара Гершанкова і Барыса Калеснікава: прысуд Магілёўскага абласнога суда ад 21 ліпеня пакінуць у сіле, а скаргі без задавальнення.

**Паводле spring96.org**

# Краіна для жыцця, у якой нешта пайшло не так

Святлана МЯЦЁЛКІНА

**Ёсць штосьці магічнае ў нашай афіцыйнай статыстыцы. Калі гартаеш справаздачы Белстата, міжволі пачынаеш адчуваць, што жывеш у краіне кантрастаў і эканамічных парадоксаў.**

З аднаго боку, лічбы кажуць пра небывалы росквіт і вясёлкавыя перспектывы нашай Сінявокай. У гэтай чароўнай краіне даходы растуць кожны месяц, беспрацоўе дасягнула гістарычнага мінімуму, а кошты практычна стаяць на месцы. Ну проста райская выспа пасярод бушуючага сусветнага акіяна.

Вось як парадаваў нас Белстат дадзенымі за кастрычнік. Прывядзём толькі загалоўкі:

- Беспрацоўе ў Беларусі дасягнула гістарычнага мінімуму — 0,3%.
- Рэкордна вырасла колькасць вакансій — 79,2 тысячы свабодных рабочых месцаў.
- Сярэднія заробкі беларусаў растуць на працягу чатырох месяцаў.
- Белстат зафіксаваў рэкордны рост рэальных даходаў беларусаў.
- У кастрычніку інфляцыя ў Беларусі склала 0,5%.

Увогуле, куды ні глянь — краіна для жыцця! І ўсё б вельмі добра, калі б не тая ж няўмольная статыстыка. Давайце зірнем яшчэ на некалькі дзіўных фактаў:

- У Беларусі больш за 3 мільёны чалавек не могуць дазволіць сабе мінімальны набор тавараў і паслуг.
- За год цэны на ялавічыну павялічыліся на 13%, на свініну — на 14%, на гародніну — на 33,5%.
- Фактычны ўзровень беспрацоўя ў адпаведнасці з крытэрамі Міжнароднай арганізацыі працы ў I квартале склаў 260,6 тысячы чалавек.
- Дапамога па беспрацоўі роўная 28,07 рубля.
- За апошнія тры гады засталіся без працоўных месцаў 230,5 тысячы чалавек.


Фота www.rbc.ua

Не-не, гэта не дадзеныя пра жыццё ў іншай, вельмі беднай і няшчаснай краіне! Парадокс заключаецца ў тым, што гэта ўсё пра адну і тую ж дзяржаву. І выключна афіцыйна.

Дык усё ж: выспа стабільнасці або карабель, які тоне ў бушуючым моры?

На наш погляд, ёсць адзін вельмі важны крытэр, па якім можна адразу вызначыць, наколькі добра жывецца і працуецца людзям у краіне. І гэта не заробкі і цэны, і нават не наяўнасць працоўных месцаў. Гэта колькасць людзей, якія пажадалі пакінуць краіну ў пошуках лепшага жыцця.

Па тых жа дадзеных, у 2017 годзе за мяжой працавалі больш за 80 тысяч беларусаў (годам раней — каля 60 тысяч, а ў 2015 годзе — амаль 40 тысяч). Пры гэтым эксперты ўпэўненыя, што не ўлічаных афіцыйнай статыстыкай на самай справе сотні тысяч чалавек. Расце і колькасць беларусаў, якія назаўжды пакінулі нашу краіну: у першым квартале колькасць эмігрантаў вырасла да 3198 чалавек у студзені-сакавіку.

І можна колькі заўгодна казаць пра рост дабрабыту, нізкія кошты і сацыяльныя ільготы, — ніякія іншыя лічбы не перакрыюць гэтага паказчыку. Таму што ў краіне для жыцця ў першую чаргу павінна хацецца жыць.

**gazetaby.com**
**Пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ананімам уваход забаронены

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Увага! 30 лістапада была апошняя магчымасць пакінуць свой унікальны каментар на нашым сайце novychas.by. Ад 1 снежня выказваць свае «ваў» і «фу» пад навінамі айчынных медыя можна будзе толькі, калі вы прывяжаце акаўнт да нумара тэлефона.**



Фота www.news.vse42.ru

Праўда, далёка не ўсе СМІ будуць рабіць ідэнтыфікацыю карыстальнікаў — тэхнічна складана, а карысці мала. Цяпер самыя бурныя батлы паміж каментатарамі вядуцца ў сацсетках. Таму многія, у тым ліку і «Новы Час», папросту закрываюць свае форумы. У чым сэнс уводзіць ідэнтыфікацыю каментараў — зразумець цяжка. Чыноўнікі тлумачаць усё дабрадзейнымі матывамі: маўляў, ананімы могуць абразіць, а чалавек нават і не ведае, на каго напісаць заяву ў міліцыю. Але ж і ў Facebook можна атрымаць абразлівы каментар ці паведамленне ад карыстальніка з фэйкавым імем, напрыклад, Дарт Вэйдар, — на каго скардзіцца тады?

Некаторыя бачаць у гэтым геапалітычныя патрэбы — многія каментары пішуцца прафесійнымі тролямі, якія хочуць сфармаваць у аўдыторыі пэўныя меркаванні. Але ж дасведчаныя мадэратары ўмеюць спрытна адсякаць такіх каментатараў і без забароны ананімнага каментавання. Дый ці трэба камусьці апрацоўваць чытачоў сайтаў, калі тыя ж сацсеткі для гэтага — значна больш прыдатная глеба? Не прыгадаеце, праз якое СМІ Расія ўмешвалася ў апошнія прэзідэнцкія выбары ў ЗША? Правільна, не прыгадаеце, бо паказанні сенату даваў не рэдактар буйнога амерыканскага СМІ, а кіраўнік Facebook Марк Цукерберг. Таму ёсць адчуванне, што гэтая забарона — выключна дзеля забароны. Альбо што беларускія чыноўнікі, як заўсёды, спрабуюць ускочыць у апошні вагон, не разумеючы, што форумам ужо ніколі не параўнацца з сацсеткамі ў сваёй папулярнасці.

Тым часам працягваецца эпапея «БЕЛТА» vs незалежныя журналісты». І чым далей разгортваюцца падзеі, тым больш зразумела, што гэта спланаваная атака супраць галоўнай рэдактаркі TUT.BY Марыны Золатавай. На гэты тыдні яшчэ з васьмі падазраваных журналістаў знялі абвінавачванні — праўда, перад гэтым яны мусілі заплаціць вялізныя штрафы. Такім чынам, з 15 рэдактараў і журналістаў, што праходзілі па «справе БЕЛТА», абвінавачанымі застаюцца ўсяго два чалавекі: сама Золатава і галоўная рэдактарка БелаПАН Ірына Леўшына. Самыя цяжкія абвінавачванні высунутыя Золатавай — за «бяздзейнасць службовай асобы» яна можа патрапіць за краты ажно на пяць гадоў. Відавочна, што напярэдадні парламенцкай і прэзідэнцкай кампаніі ўлады спрабуюць загасіць самы чытальны беларускі сайт. Заснавальнік TUT.BY Юры Зісер распавядаў журналістам, што Золатаву спрабуюць пазбавіць пасады ўжо даўно, яна добра намуляла вока чыноўнікам. Аднак каманда партала пакуль што гарой стаіць за сваю рэдактарку і стараецца адбіць атаку — так, у абарону Золаватай ужо выказалася даўнішняя сяброўка Зісера Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч ды іншыя вядомыя дзеячы.

Пакуль незалежныя журналісты рыхтуюцца да судоў, дзяржаўныя атрымліваюць узнагароды. Лукашэнка падпісаў указ, паводле якога 134 прадстаўнікі самых розных сфер — ад дэпутатаў да артыстаў — атрымалі

**90% беларускіх ромаў — праваслаўныя. Мітрапаліт, які мае свецкую ўзнагароду «Заслужаны міратворац», умудрыўся пакрыўдзіць частку сваёй паствы якраз напярэдадні Каляднага посту**

дзяржаўныя ўзнагароды. І пяцёра з гэтых шчаслівчыкаў — супрацоўнікі БЕЛТА. Не менш забаўнай выглядае і ўзнагарода ад АБСЕ Алене Купчынай — вядомай беларускай чыноўніцы, якая, служачы на розных пасадах, шмат гадоў спрабуе прывесці імідж Беларусі на міжнародным полі ў прыстойны выгляд. Зараз Купчына займае пасаду беларускага амбасадараў Аўстрыі і сталага прадстаўніка Беларусі пры АБСЕ. Узнагарода называецца «Белая стужка», і была ўручана Купчынай за «выбітны ўклад у прасоўванне гендарнай роўнасці і супрацьдзеянне гвалту ў дачыненні да жанчын». Можа быць, Алена Купчына такі ўгаварыла Лукашэнку пагадзіцца на публічна раскрытыкаваны ім закон пра хатні гвалт? Альбо паспрыяла адмене ганебнага спісу забароненых для жанчын прафесій, сярод якіх ёсць нават такія бяскрыўдныя, як прафесія вадалаза і машыніста метро? Не, закона дагэтуль няма, спіс дагэтуль ёсць, а нагода для ўзнагароды, як вынікае з паведамлення прэс-службы МЗС, — «акцэнтаванне ў рамках АБСЕ тэмы барацьбы з гвалтам у адносінах да жанчын, у прыватнасці актыўны ўдзел у пастаноўцы на пляцоўцы Арганізацыі 26 чэрвеня 2018 года дакументальнай п'есы «Сем». Што ж, калі беларускія чыноўнікі слаба праяўляюць сябе на палітычнай сцэне, хай хоць на тэатральнай папрацуюць.

Абы не на цыркавой арэне. Але гэтае месца хутка можа быць занятае кіраўніцтвам праваслаўнай царквы. Мітрапаліт Павел зноў апынуўся ў топе навінавых стужак — гэтым разам з заявай пра баптыстаў-сектантаў, якія абабіраюць людзей, як цыгане. Многія ўгледзелі ў яго словах распальванне нацыянальнай і рэлігійнай варожасці. Біскуп беларускага Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Леанід Міховіч выступіў з заклікам да талерантнасці і свабоды веравызнання, а таксама пажадаў дастатку ўсім народам, асабліва цыганам-баптыстам. Каментатары ацанілі гумар пратэстанцкага біскупа, а вось імідж праваслаўнага духавенства чарговы раз пацярпеў.

Пікантнасць сітуацыі і ў тым, што 90% беларускіх ромаў — праваслаўныя. А значыць, мітрапаліт, які, дарэчы, мае свецкую ўзнагароду «Заслужаны міратворац», умудрыўся пакрыўдзіць частку сваёй паствы якраз напярэдадні Каляднага посту.

Пакуль што ромы гэтую заяву не каментавалі, але, думаецца, што пасля такіх публічных абразаў перадкалядныя ахвяраванні ў цэрквах могуць істотна зменшыцца.

ГУРЫ ТЫДНЯ




## Вячка Целеш

**Рыжская Дума прызнала сузаснавальніка Таварыства беларускай культуры «Світанак» у Латвіі, кіраўніка аб'яднання беларусаў-мастакоў Балтыі «Маю гонар» Вячку Целеша чалавекам года.**

Мастак і выкладчык атрымаў прыз года ў намінацыі «За шматгадовы ўнёсак у адукацыю», узнагароду ўручыла старшыня Камітэту па адукацыі, культуры і спорту Рыжскай Думы Эйжэнія Алдэрманэ.

Целеш быў арганізатарам і дырэктарам першай беларускай школы ў Рызе, быў у Кансультацыйнай радзе пры ўсіх прэзідэнтах Латвіі, абараняў інтарэсы беларусаў. Яго высілкі адзначаныя найвышэйшай дзяржаўнай узнагароды Латвіі — ордэнам Трох Зорак.

Вячка Целеш нарадзіўся 25 верасня 1938 года ў Красным Сяле (цяпер пасёлак Краснасельскі Ваўкавыскага раёна) Гродзенскага ваяводства. Мастак, гісторык, пісьменнік, сябра Саюзу мастакоў Беларусі і Латвіі. Працуе ў розных жанрах станковага жывапісу і графікі. Аўтар партрэтаў і экслібрысаў беларускіх і латышскіх дзеячаў: Францішка Скарыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Уладзімера Караткевіча, Яніса Райніса.

Адзін з самых вядомых еўрапейскіх філакартыстаў: яго альбом «Гарады Беларусі на старых паштоўках» на беларускай і англійскай мовах прызнаны ўзорам дакументальнага фотамастацтва.



## Брыжыт Бардо

**Сусветна вядомая кінаакторка нечакана звярнулася з лістом да Аляксандра Лукашэнкі.**

«Мой фонд атрымлівае ўсё больш абураных паведамленняў пра тое, што ў Беларусі жывёлы, асабліва бяздомныя, падвяргаюцца жорсткаму абыходжанню і гінуць пакутлівай смерцю. Яны гінуць ад атручаных прынад, іх адстрэльваюць, часам у прысутнасці дзяцей, паводле ірацыянальных і нялюдскіх загадаў службовых асоб і спецыяльных службаў... Лёс бяздомных жывёл выклікае шок і хваляванне. Імідж вашай краіны сур'ёзна церпіць, і толькі прыняцце хутчэйшых радыкальных мер для змены сітуацыі можа спрыяць яго аднаўленню», — напісана ў лісце.

«Я малю вас прыняць меры для таго, каб сродкі, якія выдаткоўваюцца на адлоў і забойства, былі накіраваны на праграмы стэрылізацыі, на прытулкі-лячэбніцы для хворых жывёл або жывёл, якім шукаюць новых гаспадароў. Закон аб абароне жывёл, які прадугледжвае строгія санкцыі за жорсткае абыходжанне, павінен быць вынесены на галасаванне неадкладна. Галасы абаронцаў жывёл павінны быць пачутыя, і яны таксама павінны прыняць удзел у гуманнай місіі дзяржаўных органаў, адказных за лёсы бяздомных жывёл», — лічыць Брыджыт Бардо.

«Прадэманструйце сваю мужнасць, не падвядзіце мяне!» — піша кіназорка.



## Віталь Міхайлаў

**Упершыню пасля Жалязоўскага беларускі канькабежац дабег да золата.**

«Сенсацыйнае сола прынесла Міхайлаву першае «золата» Кубка свету» — такімі загалоўкамі паднеслі перамогу беларускага канькабежца на кубкавым этапе ў Японіі некаторыя замежныя СМІ.

Міхайлаў ледзь не з першага круга масавага старту ірвануў у атаку на п'едэстал. «У нас з суайчыннікам Аляксеем Кірпічнікавым быў гатовы план, — патлумачыў Віталь, — пастарацца збегчы ад натоўпу. Аляксей больш рэзка за мяне стартаваў, я кінуўся наўздагон. Дагнаў Аляксея, але ў яго не атрымалася «сесці» за мной у спіну, таму паехаў адзін. Як бачыце, план быў, але не да канца змаглі яго выканаць», — сказаў Міхайлаў.

«Я разумеў, што калі пелатон збярэцца з сіламі, то дастаць уцекача элементарна. Таму прыглядаў за канкурэнтамі, бачыў адлегласць, якая адлучала ад асноўнай групы, і трымаў сваю хуткасць. За чатыры кругі да канца зразумеў, што гурт не ў сілах мяне дастаць, канкурэнты змірылася з пройгрышам і павялі гульню за другое-трэцяе месцы. За два кругі да фінішу пачаў святкаваць перамогу, і публіка, знакамітыя атлеты мяне падтрымлівалі», — кажа Міхайлаў.

Апошні раз беларус — Ігар Жалязоўскі — атрымаў золата на Кубку свету ў 1993 годзе. Мы чакалі новых вынікаў чвэрць стагоддзя.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Абыякавасць і апатыя як гаранты бяспекі і незалежнасці

**Беларуская дзяржава — гэта група асоб, якія займаюцца адміністрацыйным бізнесам.**

16 лістапада на нарадзе па пытанні ўдасканалення сістэмы кіравання беларускай энергетыкай адзіны палітык (АП) дапусціў агаворку, якую на першы погляд можна прыняць за агаворку па Фрэйду: «Яе (энергасістэмы) стабільнасць — гэта вельмі важны элемент бяспекі і незалежнасці дзяржавы».

Спадзяюся, няма патрэбы тлумачыць ролю энергетычнай сістэмы ў нацыянальнай эканоміцы. Але пры чым тут дзяржава? Перш, чым паспрабаваць адказаць на гэта пытанне, неабходна разабрацца з тым, які сэнс варта ўкладаць у паняцце «дзяржава», і з тым, які сэнс у гэта паняцце ўкладае АП.

Колькі людзей, столькі і меркаванняў. Паводле аднаго з заснавальнікаў паліталогіі Макса Вебера (1864–1920), дзяржава — гэта «арганізацыя, якая працяглы час утрымлівае манаполію легітымнага гвалту ў рамках пэўнай тэрыторыі і якая ажыццяўляе рэгуляванне гаспадарчага жыцця на гэтай тэрыторыі».




У манаполіі беларускай дзяржавы на гвалт сумнявацца не даводзіцца. Зразумела, існуюць і пэўныя выключэнні. Перыядычна адбываюцца брутальныя затрыманні апазіцыйных актывістаў людзьмі ў цывільным і без прад'яўлення дакументаў. Але нешта мне падказвае, што гэта не бандыты, а супрацоўнікі сілавых структур, што маскіруюцца пад іх.

Што да рэгулявання гаспадарчага жыцця, дык беларуская дзяржава не толькі лічыць рэгуляванне ўсяго, што яшчэ ў стане варушыцца ў эканоміцы, сваім абавязкам, але і сама з'яўляецца галоўным гаспадарчым суб'ектам у краіне. У гэтым яна недалёка адышла ад свайго савецкага папярэдніка.

З дапамогай машыны часу перамесцімся бліжэй да сучаснасці, што дазволіць нам пазнаёміцца з меркаваннем амерыканскага эканаміста, нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта: «Дзяржава — гэта агенцтва па прадастаўленні паслуг «бяспека і правасуддзе» ў абмен на падаткі».

Тыя, каму пашанцавала кантактаваць з «беларускай дзяржавай для народа», што называецца, «жыўцом», больш недарэчнага вызначэння і ўявіць сабе не могуць. Гэта ў Амерыцы дзяржава, магчыма, і з'яўляецца крыніцай права, але мы жывем не ў Амерыцы, а ў геаграфічным цэнтры Еўропы. У нас суддзі ў сваіх рашэннях кіруюцца, у першую чаргу, справядлівасцю, і толькі потым ужо правам. У праве (законе), як неаднаразова тлумачыў АП, «усё не прапішаш». Акрамя таго, заўсёды варта памятаць пра тое, што СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ляжыць у аснове нашай ідэалогіі.

І з падаткамі гісторыя не пра нас. Мы не будзем ладзіць рэвалюцыю пад лозунгам: «Не падаткаў без прадстаўніцтва!», як гэта зрабілі амерыканскія каланісты ў канцы XVIII стагоддзя. Не адчуваем мы патрэбы ў прадстаўніцтве, што не перашкаджае нам рэгулярна галасаваць на выбарах усіх узроўняў. Але, зноў жа, выбары ў нас — і не выбары зусім, а экзамены, на вынікі якіх тыя, хто галасуе, вось ужо чвэрць стагоддзя ніяк паўплываць не могуць.

Каб разумець прыроду беларускай дзяржавы, бессэнсоўна звяртацца да мысляроў Захаду. У сваіх працах яны апісвалі дзяржавы, чыя цывілізацыйная ідэнтычнасць фармавалася пад уплывам рымскага права, грэчаскай філасофіі і хрысціянскай рэлігіі ў яе заходняй трактоўцы. Канчаткова ж свой выгляд дзяржавы ў Заходняй Еўропе прынялі ў працэсе Рэнесансу, Рэфармацыі і Асветніцтва.

У сучаснай беларускай дзяржавы іншы генезіс (паходжанне). Вось ужо амаль тры стагоддзі яна фармуецца пад уплывам «нашай Расіі», таму ў пошуках адпаведнага вызначэння паняцця «дзяржава», нам варта разгарнуцца на 180 градусаў і працытаваць расійскага эканаміста Алега Грыгор'ева: «Дзяржава — не ёсць інструмент кіруючага класа, яна і ёсць той самы кіруючы клас».

Пагадзіцеся, не проста цяплей, а горача!

## $ 10 мільярдаў — сума салідная

Вернемся да цытаты АП ад 16 лістапада: «Яе (энергасістэмы) стабільнасць — гэта вельмі важны элемент бяспекі і незалежнасці дзяржавы». Усё правільна. Усё лагічна. Агаворка па Фрэйду тут і побач не стаяла.

Беларуская дзяржава — гэта група асоб, якія займаюцца адміністрацыйным бізнесам дзеля дасягнення сваіх мэтаў. Ніякіх іншых мэтаў у дзяржавы такога тыпу няма і быць не можа. Групу гэтых асоб стан эканомікі ў цэлым і яе энергасістэмы ў прыватнасці, безумоўна, хвалюе, бо наўпрост уплывае на ўзровень персанальных даходаў і на магчымасць заставацца на чале адміністрацыйнага бізнесу.

Асноўная пагроза стабільнасці беларускай энергасістэмы была выразна пазначаная АП у Пасланні–2018, і звязаная яна з будаўніцтвам АЭС, самым маштабным ($10 мільярдаў) праектам у гісторыі Беларусі. Цытую: «Працуюць сотні навукоўцаў, тысячы спецыялістаў у сістэме Мінэнерга і Мінбудархітэктуры, а мне дагэтуль выразна ніхто не далажыў, як станцыя будзе ўбудаваная ў эканоміку краіны».

З дня гэтага неверагоднага прызнання прайшло паўгода. Ці дадалося выразнасці? Калі меркаваць па прэс-рэлізу лістападаўскай нарады, ураду яшчэ толькі трэба будзе распрацаваць «выразны і рэалістычны план пашырэння напрамкаў выкарыстання электраэнергіі ў прамысловасці, аграрнай сферы, транспарце, IT-сектары, ЖКГ, побыце і іншых галінах».

Такую задачу АП нарэшце ўсё ж паставіў, і гэта не можа не радаваць. Будаўніцтва АЭС ажыццяўляецца на крэдытныя грошы. $10 мільярдаў для беларускіх падаткаплацельшчыкаў — сума салідная паводле якіх-заўгодна мерак. Не група ж асобаў будзе расплачвацца са сваёй кішэні за непрадуманае рашэнне!

## Беларусь — не Паўночная Карэя

Да тэмы незалежнасці ў бягучым годзе ў сваіх выступах АП звяртаўся неаднаразова. Але наколькі залежнасць пагражае незалежнасці? Дзіўнае і несур'ёзнае на першы погляд пытанне, на ўзроўні каламбуру. Аднак не ўсё так проста.

Возьмем, напрыклад, Сінгапур. У 2017 годзе з ВУП на душу насельніцтва ў $ 89 276.25 ён займаў трэцяе месца ў сусветным рэйтынгу (па парытэце пакупніцкай здольнасці). Беларусь з $ 17 836.89 і 72-м месцам і побач не стаяла. Па долі экспарту да ВУП Сінгапур саступаў толькі Ганконгу — 187.64% і 219.62% адпаведна. У Беларусі гэты паказчык у мінулым годзе быў роўны 57,2%.

Але чым вышэй доля экспарту да ВУП, тым больш значная і залежнасць эканомікі ад знешніх фактараў. Адсюль выснова: хочаш быць незалежным, узвядзі «жалезную заслону» і варыся ва ўласным соку. Паўночная Карэя так і зрабіла. Яна з'яўляецца бясспрэчным сусветным лідарам па ступені незалежнасці. Аднак няма ліха без дабра, як і дабра без ліха, імя якому «голад».

Пасля распаду СССР, галоўнага спонсара паўночнакарэйскай самабытнасці, краіна рэгулярна балансуе на мяжы галадамору. Але з працягнутай рукой яе правадыр па свеце не ходзіць. Наяўнасць ядзернай зброі і балістычных ракет дазваляе яму атрымліваць міжнародную дапамогу шляхам шантажу.

Ці можна лічыць Паўночную Карэю незалежнай (самастойнай) дзяржавай? Адказ на гэта пытанне неадназначны. «Самастойная дзяржава, — тлумачыць расійскі паліттэхнолаг Цімафей Сяргейцаў, — гэта тая, якая можа рэалізоўваць палітыку, накіраваную на карысць сваёй тэрыторыі і насельніцтва. У гэтым сэнсе, калі ў вас мэты зыходзяць са свайго насельніцтва, са сваёй тэрыторыі, — вы самастойныя, вы можаце лавіраваць, уступаць у тыя ці іншыя ўзаемадзеянні. Але калі вы пачынаеце праводзіць пэўную палітыку, якая свае асноўныя мэтавыя сэнсы мае вонкі, — тады вы тэрыторыя пад пратэктаратам...»

Чыім-небудзь пратэктаратам тэрыторыя Паўночнай Карэі, безумоўна, не з'яўляецца, аднак маюцца вялікія сумневы ў тым, што Кім Чэн Ын праводзіць палітыку ў інтарэсах насельніцтва, што не перашкаджае насельніцтву быць лаяльным ужо да трэцяга прадстаўніка сямейства Кімаў.

Беларусь — не Паўночная Карэя. Адбіваецца ўплыў Еўропы, таму сваё права на ўладу група асоб (дзяржава) увесь час павінна апраўдваць праз сацыяльныя выплаты. Але сваіх грошай у дзяржавы няма. Яна раздае тое, што забірае ў насельніцтва ў выглядзе падаткаў або ў выглядзе рэсурсаў натуральнага паходжання. Такую палітыку прынята называць «патэрналізмам». У яе аснове ляжыць сацыяльны кантракт «лаяльнасць у абмен на рост даходаў».

Але патэрналізм — задавальненне не з танных, і таму ва ўмовах скарачэння «кармавой базы» лаяльнасць усё часцей даводзіцца замяняць на абыякавасць і апатыю, што дасягаецца шляхам падрыву магчымасці супрацоўніцтва грамадзян паміж сабой. Нічога новага і арыгінальнага ў гэтым няма. Максіму «падзяляй — і ўладар» не АП прыдумаў. Яе актыўна эксплуатавалі яшчэ кіраўнікі Старажытнага Рыма.

У атамізаваным грамадстве ва ўмовах татальнага недаверу розныя сацыяльныя групы, «саслоўі» і «карпарацыі» ўступаюць у барацьбу з дзяржавай і адна з адной не за свабоду і роўнасць магчымасцяў, а за кавалкі пірага са стала дзяржаўнага патэрналізму. Так званыя «канструктыўныя структуры грамадзянскай супольнасці» (БРСМ, ФПБ і падобныя да іх) выключэннем з агульнага правіла не з'яўляюцца. Тым больш, што на двары снежань — час актыўнай працы над Бюджэтам–2019.

Частка рэгіёнаў Украіны пераведзеная на ваеннае становішча. Такое рашэнне прыняло ўкраінскае кіраўніцтва ў сувязі з агрэсіўнымі дзеяннямі Расіі супраць украінскіх караблёў у Азоўскім моры. Ваеннае становішча ўведзенае на 30 дзён, і ў яго трапіла памежная з Беларуссю Чарнігаўская вобласць.



**Наўрад ці будуць жорсткія захады на беларуска-ўкраінскай мяжы. Мажліва, узмоцняць пашпартны кантроль, мажліва, больш пільна пачнуць даглядаць, але наўрад ці будуць перашкоды для перасоўвання людзей**

# Чым абернецца ваеннае становішча ва Украіне для Беларусі

Сяргей ПУЛЬША

У сувязі з тым, што Беларусь з'яўляецца найбліжэйшым саюзнікам (у тым ліку і вайсковым) Расіі, хтосьці мяркуе, што Беларусь могуць уцягнуць ва ўкраінска-расійскі канфлікт. «Панове, маем выключна сур'ёзную сітуацыю, якой яшчэ не было ў найноўшай гісторыі Беларусі, — напісаў у Facebook рэдактар беларускай службы сайта InformNapalm і аўтар НЧ Дзяніс Івашын. — Дзякуючы «мудрагелістай» палітыцы рэжыму Лукашэнкі маем з дзяржавай-агрэсарам РФ — Адзіную рэгіянальную групоўку войск, Адзіную сістэму супрацьпаветранай абароны, так званую «Саюзную дзяржаву», АДКБ. Уздоўж мяжы з Беларуссю знаходзіцца ўдарны наступальны кантынгент УС РФ. Паводле ўсіх «саюзніцкіх» дамоваў Расія будзе ўцягваць Беларусь у вайну, тут без варыянтаў».

А таму, паводле меркавання Дзяніса Івашына, «усім патрыятычным сілам след рыхтавацца да актыўнай абароны нашай краіны».

Дык як адаб'юцца падзеі ва Украіне на Беларусі? Прапануем меркаванні экспертаў.

### Ваеннае становішча — лайт

Кіраўнік праекта Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў называе ўвядзенне ваеннага становішча ва Украіне «дзіўным унутрыпалітычным жэстам» украінскай улады. Па яго словах, гэтае ваеннае становішча, абвешчанае на 30 дзён, практычна не ўводзіць нейкіх абавязковых крокаў ці абмежаванняў. «Гэта медыйна-палітычны жэст, зроблены незразумела для чаго. Хутчэй за ўсё, кіраўніцтву Украіны трэба было неяк адрэагаваць на сітуацыю, і яны адрэагавалі такім дзіўным чынам», — кажа ён.

Аналагічнай думкі прытрымліваецца і ваенны аглядальнік Аляксандр Алесін. «Найперш, кіраўніцтва Украіны заявіла, што будзе вырашаць канфлікт мірным шляхам у міжнародных арганізацыях — Савеце Бяспекі ААН, савеце «Украіна — NATO», Еўрасаюзе. Украіна будзе спрабаваць аказаць ціск на Расію праз міжнародныя арганізацыі як дыпламатычным шляхам, так і настойваючы на прымяненні дадатковых эканамічных санкцый. Думаю, што ваеннае становішча цягам 30 дзён — сімвалічная дэманстратыўная мера, закліканая паказаць Расіі рашучасць у адстойванні сваёй пазіцыі, у тым ліку ўзброеным шляхам і для яднання народа і ўкраінскага істэблішменту. Тобок, вонкавыя дыпламатычныя захады і піяр унутры краіны. Ваеннае становішча на 30 дзён — несур'ёзна. Зразумела, што за гэты час нават аб'ём мер, прадугледжаных ваенным становішчам, рэалізаваць і ўвесці не атрымаецца. Таму, я думаю, як сказалі ўкраінскія палітолагі, будзе «ваеннае становішча — лайт»: палегчаная дэманстратыўная мера. Ніякай вайны з Расіяй, а тым больш з Беларуссю не будзе», — мяркуе Алесін.

### АДКБ

Наконт таго, што з-за АДКБ Беларусь уцягнуць у вайну, то тут Паротнікаў зазначае: АДКБ не з'яўляецца ў чыстым выглядзе вайсковым блокам. Гэта — арганізацыя рэгіянальнай бяспекі, па-першае. І ніякіх абавязацельстваў аўтаматычна падтрымліваць саюзнікаў па блоку ў ёй няма.

Гэта, дарэчы, яскрава прадэманстравалі нядаўна і Аляксандр Лукашэнка, прадаўшы Азербайджану ракетныя комплексы «Паланез», чым выклікаў моцную незадаволенасць «саюзніка па АДКБ» Арменіі.

Па-другое, зазначае Паротнікаў, у АДКБ усе рашэнні прымаюцца кансенсусам. То бок, каб Беларусь была змушаная (у межах арганізацыі) падтрымаць Расію ў канфлікце з Украінай, трэба згода ўсіх чальцоў АДКБ. А такая згода наўрад ці будзе. Бо, як зазначае эксперт, ніводная з краінаў-чальцоў АДКБ юрыдычна не прызнала Крым тэрыторыяй Расіі.

### Адзіная рэгіянальная вайсковая групоўка

Канешне, кажа Паротнікаў, Расія дзейнічае і ў Беларусі вельмі нахабна. Як прыклад ён прывёў нядаўнюю цырымонію прынherцца ў «Юнармію» дзяцей з рускіх сем'яў, якія пражываюць у Беларусі. Пасвячэнне ў «Юнармію» адбылося ў расійскай вайсковай часці паветрана-касмічнай абароны ў Ганцавічах. У арганізацыю прынялі 15 дзяцей з сем'яў вайскоўцаў. У гэтым мерапрыемстве браў удзел новы пасол Расіі ў Беларусі Міхаіл Бабіч, які заявіў, што новыя «юнармейцы» будуць удзельнічаць у «патрыятычным выхаванні моладзі» разам з беларускімі аднагодкамі.

«Юнармія» — выключна расійская арганізацыя. І, паводле закона, яна не можа дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі. Але пасол Расіі заяўляе, што яна будзе працаваць тут», — адзначыў Паротнікаў. У прынцыпе, лічыць ён, гэта непавага да беларускіх законаў.

Але такое нахабства ўсё ж абмежаванае, і наўрад ці распаўсюдзіцца на больш сур'ёзныя рэчы, кшталту пашырэння расійскай ваеннай прысутнасці ў Беларусі. Прынамсі на пытанне, ці можа гэта зрабіць Расія, Паротнікаў цвёрда кажа: «Без згоды Беларусі — не».

Аляксандр Алесін тлумачыць, чаму. Таму што «не такі мы ўжо васал і не такі сатэліт Расіі, каб яна магла сюды нешта ўвесці без нашага ведама». Згодна з дамовай пра рэгіянальную групоўку войскаў, гэта — выключна абарончая ініцыятыва. «Расія не мае права па сваім жаданні ўвесці войскі ў Беларусь. Адзіны выпадак, калі яна можа накіраваць у Беларусь свае войскі, — гэта ў выпадку ўзнікнення вайны (непасрэдна агрэсіі) альбо пагрозы вайны (так званы «пагражаючы перыяд»). Тады, згодна з нашымі дамоўленасцямі, у распараджэнне Узброеных сіл Беларусі павінны прыбыць часткі сумеснай групоўкі войск з расійскага боку. Тыя часткі вызначаныя, маюцца маршруты іх перасоўвання і месцы, куды яны прыбудуць. Але без гэтай умовы — агрэсіі альбо пагрозы вайны — Расія сюды нічога перакінуць не можа», — зазначае эксперт.

Ёсць і яшчэ адно пагадненне, што Расія можа перакінуць войскі ў Беларусь на вучэнні — але на тэрмін не больш за два месяцы, і толькі з дазволу ўрада Беларусі.

Наўрад ці беларускія ўлады ў сувязі з ваенным становішчам ва Украіне будуць прасіць Расію ўвесці ў Сінявокую войскі рэгіянальнай групоўкі, і тым больш дадуць на гэта згоду. «Наадварот, Лукашэнка будзе імкнуцца дыстанцыявацца ад канфлікту і заклікаць абодва бакі да міру. І ніякіх варожых захадаў да Украіны прымаць не будзе. Ён не абавязаны прымаць тут расійскія войскі — па дамове ў нас абарончы саюз. І толькі ў выпадку, калі Украіна напала б на Расію ці групоўкі ўкраінскіх войскаў рыхтаваліся да такога нападу. У іншым выпадку — ніяк», — зазначае Алесін.

А, як было сказана вышэй, Украіна не імкнецца да ваеннага канфлікту і мае намер вырашаць спрэчку ў міжнародных арганізацыях.

### Новая Гута — Новыя Ярылавічы

Адзінае складанае пытанне ўзнікае з Чарнігаўскай вобласцю, на тэрыторыі якой таксама ўведзенае ваеннае становішча. Згодна з украінскім дакументам, ваеннае становішча прадугледжвае, сярод іншага, усталяванне «асаблівага рэжыму ўезду і выезду, абмежаванне свабоды перамяшчэння грамадзян, замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, руху транспарту».

У Чарнігаўскай вобласці знаходзіцца адзін з найбуйнейшых і найпапулярнейшых пунктаў пропуску на беларуска-ўкраінскай мяжы: «Новая Гута — Новыя Ярылавічы». Ці ўскладніцца ў сувязі з гэтым рух грамадзян туды-сюды?

Пакуль што праблем з гэтым не існуе. Як паведамілі НЧ ва ўпраўленні пагранічнага кантролю Гомельскай памежнай групы, на дадзены момант пераход мяжы ажыццяўляецца ва ўстаноўленым рэжыме. У пагранкантролі Чарнігаўскага памежнага атрада растлумачылі, што на бягучы момант ніякіх зменаў для грамадзян Беларусі, якія едуць ва Украіну, няма.

Паротнікаў спадзяецца, што і надалей зменаў не будзе. «Што тычыцца ўзмоцненага кантролю, то беларусаў і раней пільна даглядалі на прадмет перамяшчэння праз мяжу забароненых прадметаў альбо асобаў, якія прызнаныя ва Украіне «непажаданымі». Таму, я думаю, для шараговых беларусаў мала што зменіцца», — кажа ён.

Насамрэч, нечаму змяніцца на беларуска-ўкраінскай мяжы даволі складана, — і нават незалежна ад таго, ёсць ваеннае становішча ці няма. Спрацоўвае выключна фізічны і чалавечы фактар. Думаю, не адкрыю тут украінскай ваеннай тайны: на тым жа пераходзе «Новыя Ярылавічы» ў мінулым годзе памежнікі скардзіліся, што некамплект асабістага складу памежнікаў і мытні складае 30%. Улетку гэтага года, калі я перасякаў мяжу там жа, нейкі ўкраінскі афіцэр закаціў скандал. Маўляў, памежнікі павольна працуюць, а яму праз 14 гадзін трэба быць у Марыупалі. На што памежніца яму адрэзала: «Я другія суткі запар працую!» Значыць, сітуацыя не змянілася.

Але ў гэтым плане, кажа Аляксандр Алесін, усё залежыць ад кіраўніцтва Украіны. У прыватнасці, ад таго, наколькі сур'ёзна яны будуць падыходзіць да ваеннага становішча ў Чарнігаўскай вобласці.

«Ёсць максімум і мінімум мер. Па максімуме альбо па мінімуме будзе дзейнічаць ваеннае становішча, залежыць ад кіраўніцтва Украіны, ад вярхоўнага галоўнакамандуючага, якім ва Украіне з'яўляецца Пётр Парашэнка. Я думаю, ён будзе дзейнічаць згодна з рэкамендацыямі свайго Савета Бяспекі. Наўрад ці, я думаю, будуць нейкія жорсткія захады на беларуска-ўкраінскай мяжы, якія адаб'юцца на людзях, што едуць у абодва бакі. Калі б пачаўся прызыў салдат запасу, разгортваліся б ваенныя групоўкі, згодна плану абароны Украіны, — можна было б пра нешта казаць, але я думаю, што гэтага не будзе. Мажліва, узмоцняць пашпартны кантроль, мажліва, больш пільна пачнуць даглядаць, але наўрад ці будуць сур'ёзныя перашкоды для перасоўвання людзей, тавараў і іншага», — кажа ён.

Ваеннае становішча ва Украіне пратрывае да 9 гадзін раніцы 27 снежня. Можна меркаваць, што беларусы цалкам і беспеешкодна змогуць сустрэць Новы год у Чарнігаве, Кіеве ці на курортах Карпатаў.

# ССРБ: другі крок беларускай дзяржаўнасці

Таццяна ПРОЦЬКА

**Беларускае грамадства вясной гэтага года адсвяткавала важны юбілей — 100-годдзе абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Ва ўрачыстых прамовах справядліва вызначалася, што гэта быў першы трагічны крок у стварэнні сучаснай беларускай дзяржаўнасці.**



Не менш трагічным, малавядомым і скажоным, на мой погляд, з'яўляецца і другі крок — абвяшчэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь, якая праіснавала менш за тры месяцы, была прызнаная толькі РСФСР і ёй жа скасаваная, але дала энергію для важнага працэсу ў гісторыі савецкай Беларусі — працэсу беларусізацыі. ССРБ таксама спаўняецца 100 гадоў.

У першыя дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя дакладна вызначыліся чатыры асноўныя напрамкі развіцця, як тады казалі, «беларускай справы». Гэтыя напрамкі фармаваліся ў складаных сацыяльна-палітычных умовах, звязаных як з падзеямі Першай сусветнай вайны, так і з развaламі магутных еўрапейскіх імперый.

Для тагачаснага існавання народаў Расіі найбольш важнымі пытаннямі былі два: тэрыторыя, на якой будзе жыць і якой будзе валодаць народ, і форма ўлады, якая будзе на гэтых тэрыторыях. Беларусы больш за іншых паспыталі ваеннага безладдзя, таму пытанне стабільнай і моцнай улады было тут надзвычай актуальным.

Розныя расійскія палітычныя сілы на пачатку 1918 года прапаноўвалі розныя мадэлі будучага ўладкавання Расіі. Найбольш папулярнымі і распаўсюджанымі былі тры мадэлі магчымай формы ўлады: рэстаўрацыя манархіі і дзве новыя дэмакратычныя формы — Саветаў і Устаноўчага сходу, выбары якога прайшлі ў студзені. Савецкую форму лабіявалі бальшавікі, парламенцкую (дакладную яе форму павінен быў вызначыць Устаноўчы сход) падтрымлівала астатняя большасць палітычных партый Расіі. На выбарах ва Устаноўчы сход па Віцебскай, Мінскай і Заходне-франтавой акругах перамаглі бальшавікі, па Магілёўскай — эсэры. Але большасць выбаршчыкаў па Беларусі (58%) аддала свае галасы за эсэраўскі спіс. І эсэры, і бальшавікі, і меней папулярныя падчас вайны меншавікі, і дастаткова ўплывовая ў Беларусі яўрэйская партыя БУНД былі партыямі сацыялістычнымі.

Для Беларусі ў сувязі з вайной таксама было важным пытанне міжнародных сувязяў і падтрымкі. Кожнаму, хто думаў у тыя часы пра лёс краіны, было відавочна, што адбудаваць парушанае вайной без дапамогі іншых краін будзе цяжка ці наогул немагчыма. Розныя беларускія палітычныя сілы прапаноўвалі для Беларусі саюзы: з Польшчай, Расіяй, Германіяй і падуладнымі апошняй новымі дзяржавамі Літвой і Украінай — у розных формах, якія абмяркоўваліся даволі інтэнсіўна.

Розныя накірункі развіцця «беларускай справы» мелі розных вытворцаў: адны ўзнікалі ў асяроддзі беларускай грамадскасці, другія — як вынік працы тых ці іншых структур замежнай дзяржавы.

### Напрамак першы: Беларусь — аўтаномія ў складзе дэмакратычнай Расіі

Скасаванне самаўладдзя ў Расіі ў лютым 1917 года, абвяшчэнне рэспублікі, ідэя Усерасійскага Устаноўчага сходу як вызначальніка лёсу краіны пашырылі ўплыў на грамадскую і палітычную думку Беларусі і палітычных арганізацый і іх лідараў, што выступалі за стварэнне дзяржаўнай аўтаноміі Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расіі. Межы самастойнасці Беларусі кожны бачыў па-свойму, але да так званай Кастрычніцкай рэвалюцыі, заключэння Брэсцкага міру ідэя аўтаноміі была найбольш папулярнай. Гэта стала асабліва відавочна на Усебеларускім з'ездзе (снежань 1917 года, прысутнічалі 1872 дэлегаты), але з-за яго разгону агульнае меркаванне па гэтым пытанні не было выпрацаванае.

### Напрамак другі: Беларусь у складзе Расіі ў якасці вобласці

Кастрычніцкая рэвалюцыя рэзка змяніла сітуацыю. На тэрыторыі Беларусі, занятай расійскімі войскамі, усталёўвалася ўлада, якая разглядала гэтыя тэрыторыі як частку Расіі, як Заходнюю вобласць, мела вышэйшы кіруючы орган са складанай назвай — Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту (Аблвыкамзах) і мясцовы орган расійскага СНК — Савет народных камісараў Заходняй вобласці і фронту. Першы орган меў колькасць 187 чалавек, яго ўзначальваў Рагазінскі, другі ўзначаліў Ландэр — адзін з галоўных удзельнікаў разгону Усебеларускага з'езду. Спачатку паўнамоцтвы СНК распаўсюджваліся не на ўсю свабодную ад акупацыі Беларусь, а толькі на Мінскую і частку Віленскай губерняў, а таксама на Заходні фронт. Саветы Віцебскай і Магілёўскай губерняў не падтрымалі ўладу маскоўскага СНК. У хуткім часе яны былі распушчаныя і напрыканцы зімы 1917–1918 года зноў абраныя, але ўжо з перавагай там бальшавікоў-франтавікоў, у большасці паходжаннем не з Беларусі. Камісія УЦВК РСФСР прапанавала ўсталяваць межы Заходняй вобласці (Заходняй камуны) у складзе Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Чарнігаўскай, Мінскай, Віленскай і Ковенскай губерняў з абласным цэнтрам у Мінску. Да 1919 года «абласных» поглядаў прытрымліваліся таксама кіраўнікі Паўночна-Заходняга абкама РКП(б). Дзеянні ўсіх арганізацый, што падтрымлівалі другі напрамак, карэктаваліся і прадумваліся кіруючымі органамі РСФСР.

### Напрамак трэці: незалежная нацыянальна-дэмакратычная краіна

Падпісанне 3 сакавіка 1918 года Брэсцкага міру, згодна з якім значная частка Беларусі (4/5) заставалася пад нямецкай уладай, актывізавала частку беларусаў, якія вызначалі неабходнасць стварэння самастойнай беларускай дзяржавы. 25 сакавіка 1918 года было абвешчана аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі — на тэрыторыях, дзе пражывала большасць этнічных беларусаў (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская, Мінская, Смаленская губерні). Вышэйшым органам БНР была Рада. Яна ўзяла на сябе абавязкі ўладкавання мірнага палітычнага і гаспадарчага жыцця ва ўмовах нямецкай акупацыі. Быў час, калі гісторыкі называлі БНР «германскай марыянеткай», маючы на ўвазе, што быццам бы БНР стварылі нямецкія ўлады. На самай справе кіраўніцтва Германіі БНР не прызнала.

Рэвалюцыя ў Германіі і скасаванне савецкім урадам 13 лістапада 1918 года Брэсцкага міру ўскладнілі становішча БНР. Кіраўніцтва ўрада БНР распрацавала дамовіцца з ленінскім СНК адносна незалежнасці рэспублікі, але безвынікова. Перад пагрозай заняцця Беларусі Чырвонай Арміяй у апублікаваных чацвёртай (9 лістапада) і пятай (3 снежня) Устаўных граматах Рада БНР заклікала беларускі народ да стварэння ўласных Саветаў і абароны рэспублікі. Але гэтага не адбылося — Чырвоная Армія заняла Беларусь, урад БНР эміграваў.



Советская
БЕЛОРУСЬ

ДЕКЛАРАЦИЯ

**Тэрыторыя будучай рэспублікі была вызначаная 27 снежня на нарадзе Сталіна з Мясніковым і Калмановічам. У склад яе ўключаліся Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская і Смаленская губерні. Віленская губерня адыходзіла да Літвы**

### Напрамак чацвёрты: нацыянальная незалежная краіна на падмурку бальшавізму і савецкай улады

Своеасаблівую пазіцыю адносна «беларускай справы» сярод дзяржструктур савецкай Расіі заняў Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацкам), створаны 31 студзеня 1918 года пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцяў РСФСР (праіснаваў да сакавіка 1919 года). Белнацкам разгарнуў шырокую працу па стварэнні падмуркаў нацыянальнай дзяржаўнасці: арганізаваў у Маскве два з'езды бежанцаў-беларусаў, склікаў у Маскве нараду беларускіх настаўнікаў, арганізаваў у Маскве Беларускі народны ўніверсітэт, садзейнічаў стварэнню Беларускага навукова-культурнага таварыства, сумесна з беларускай секцыяй РКП(б) у Маскве адкрыў клуб «Беларус», меў друкаваны орган — газету «Дзянніца».

Кіраўнікі Белнацкама Аляксандр Чарвякоў, а потым Змiцер Жылуновіч лічылі магчымым стварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі ў згодзе з бальшавікамі. Гэтую пазіцыю падтрымалі і беларускія секцыі РКП(б), арганізаваныя з ліку бежанцаў-беларусаў у Петраградзе, Маскве, Саратаве і іншых гарадах. 21–23 снежня 1918 года Канферэнцыя беларускіх секцый РКП(б) у Маскве прыняла рашэнне пра стварэнне на тэрыторыі Заходняй вобласці Беларускай Савецкай Рэспублікі. 25 снежня адбылося экстранае пасяджэнне калегіі Белнацкама, прадстаўнікоў Маскоўскага камітэта Беларускіх секцый, на якім Жылуновіч паведаміў пра вынікі перамоў са Сталіным і перадаў яго даручэнне аб фармаванні Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі. У выніку тайных выбараў старшынёй урада стаў Жылуновіч.

Тэрыторыя будучай рэспублікі была вызначаная 27 снежня на нарадзе Сталіна з Мясніковым і Калмановічам. У склад яе першапачаткова ўключаліся Гродзенская, Мінская, Магілёўская, Віцебская і Смаленская губерні. Віленская губерня адыходзіла да Літвы.

Права абвяшчэння Беларускай рэспублікі перадавалася VI Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП(б), якая распачала працу 30 снежня 1918 года ў Смаленску. Яе ўдзельнікі абвясцілі сябе I з'ездам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі.

Працяг на стар. 19 »

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №11 (147)
(лістапад)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



## Змест



# Бацька і сын Гарэцкія

## Да 90-годдзя Радзіма Гарэцкага

Тацціяна ЯКУБОЎСКАЯ

**7 снежня 2018 года спаўняецца 90 гадоў Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму — акадэміку, геолагу, грамадскаму дзеячу, пісьменніку, прадстаўніку знакамітага роду Гарэцкіх і Чалавеку, які сваёй шматграннай плённай дзейнасцю ўмацоўвае незалежную Беларусь.**

Бацька яго, Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, — адзін з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук, быў абраны акадэмікам у снежні 1928 года, калі ў Менску нарадзіўся яго другі сынок, названы ў гонар правадыра племя радзімічаў, што жылі ў старажытнасці на ўсходзе нашай краіны. Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі — аднагодак цяперашняй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. На сайце акадэміі пра Р. Г. Гарэцкага можна даведацца, што ён вучоны ў галіне геалогіі і геатэктонікі, з'яўляецца замежным членам Расійскай адэміі навук, доктарам геолага-мінералагічных навук, прафесарам, Заслужаным дзеячам навукі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР, а таксама Прэміі НАН Беларусі і Прэміі Расійскай АН, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, медалямі і іншымі адзнакамі.

Але згаданы афіцыйны сайт акадэміі не дае даведкі аб усебаковай дзейнасці нашага знакамітага сучасніка. У навуковай, навукова-арганізацыйнай, грамадскай і асветніцкай працы Радзім Гаўрылавіч прадоўжыў справы бацькі, асноўныя напрамкі якіх дзіўна супадаюць: у абодвух любімая навука геалогія, абодва былі дырэктарамі навуковых інстытутаў, абодва працавалі ў вядучых вышэйшых навучальных установах, сталі выбітнымі спецыялістамі ў прафесійнай дзейнасці, абодва — лідэры Адраджэння, абаронцы незалежнасці і беларускасці роднай краіны.

Навуковыя дасягненні Р. Г. Гарэцкага ў геалогіі — тэктоніцы і геадынаміцы платформаў і радовішчаў карысных выкапняў — добра вядомы ў колах геолагаў не толькі Беларусі, але і Еўропы, і многіх краін свету. Яны адлюстраваны ў сотнях навуковых публікацый, сярод якіх фундаментальныя манаграфіі і тэктанічныя карты, створаныя на падставе тэорыі тэктонікі пліт і адмыслова распрацаванай методыкі картаграфавання структур зямной кары, матэрыялы міжнародных праектаў, даклады на сесіях Міжнароднага геалагічнага кангрэса, Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА і шматлікіх іншых форумаў навукоўцаў свету і розных краін.

Навукова-арганізацыйная праца Радзіма Гаўрылавіча ў якасці дырэктара Інстытута геахіміі і геафізікі НАН Беларусі ў часы яго росквіту (1977–1993 гг.), калі інстытут налічваў 300 супрацоўнікаў, стваральніка, прафесара і загадчыка кафедры дынамічнай геалогіі геаграфічнага факультэта БДУ (ён вярнуў у БДУ геалагічную спецыялізацыю), віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, арганізатара і кіраўніка міжнародных навуковых праграм і нарад па тэктоніцы, не могуць не выклікаць захаплення.

Шырока вядомая і няспынная грамадская ды асветніцкая праца Р. Г. Гарэцкага як сябра Рады і Прэзідэнта Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», сябра Рады многіх грамадскіх аб'яднанняў (Таварыстваў беларускай мовы і Беларускай інтэлігенцыі, Беларускага фонду культуры, прэзідэнта Фонду імя братоў Луцкевічаў, старшыні Фонду братоў Гарэцкіх), натхняльніка і аднаго з арганізатараў штогадовых «Чытанняў братоў Гарэцкіх» і навуковых чытанняў, прысвечаных памяці Г. І. Гарэцкага, аўтара шматлікіх публіцыстычных артыкулаў у газетах і часопісах аб важных падзеях у гісторыі Беларусі і сучасным жыцці. Гэтая дзейнасць Радзіма Гаўрылавіча выяўляе яго шырокую эрудыцыю, гарачую ўвагу да пытанняў нацыянальнага развіцця Бацькаўшчыны, глыбока чалавечае, інтэлігентскае стаўленне да людзей і праблем, якія хвалююць сучаснікаў.



**Бацька і сын — Гаўрыла і Радзім Гарэцкія ў Інстытуце геахіміі і геафізікі АН БССР, 1978 г.**

**Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, — адзін з заснавальнікаў Беларускай акадэміі навук, быў абраны акадэмікам у снежні 1928 года, калі ў Менску нарадзіўся яго другі сынок, названы ў гонар правадыра племя радзімічаў**

З 2006 года Радзім Гарэцкі — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яго знакавыя літаратурныя творы апублікаваныя значна раней гэтай даты. Сярод іх — «Шляхам адраджэння» (1997), «Ахвярую сваім „Я"» (1998), «Вечна жыве Беларусь!» (2003) ды інш.

Творчасць пісьменніка Р. Гарэцкага мае трывалыя карані ў родзе Гарэцкіх: яго бабуля Еўфрасіння Міхайлаўна была бардам свайго часу, ад яе запісаны больш за 300 песень, частку якіх сама і стварыла, а дзядзька Максім Гарэцкі стаў прызнаным класікам беларускай літаратуры. Акрамя ўжо названых кніг тэма жыцця і творчасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх распрацоўваецца Р. Гарэцкім на падставе ўспамінаў родных і сяброў, розных дакументаў і асабліва эпістолярнай спадчыны Гарэцкіх у кнігах «Браты Гарэцкія» (2008), «Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і Украіна» (2009), «Лісты жыцця і кахання» (2013). У гэтых кнігах Радзім Гаўрылавіч прадоўжыў апісваць гісторыю роду Гарэцкіх, якую распачаў Максім Гарэцкі сваёй «Камароўскай хронікай». Дзмітрый Бугаёў адзначыў: «Кніга пра братоў Гарэцкіх напісана з такімі замілаванасцю і сардэчнасцю, што кожны, хто ўважліва прачытае яе, абавязкова адчуе самаадданасць абодвух братоў у працы дзеля Беларусі, іх чалавечае высакародства, вышыню душэўных памкненняў і вялікую таленавітасць у многіх адносінах» (прадмова да кнігі «Браты Гарэцкія»). Вельмі важным момантам у гэтых творах, якія можна аднесці да дакументальна-эпістолярных, з'яўляецца пастаянная прысутнасць самога аўтара, эпізоды яго ўласных успамінаў аб перажытым сям'ёй і ім самім. Па гэтых эпізодах узнаўляецца дзяцінства, сталенне і шлях у навуцы самога Радзіма Гаўрылавіча, яго стаўленне да бурлівых падзей нашага часу, яго чалавечыя, нацыянальныя і грамадзянскія ідэалы.

У кароткі момант даступнасці да архіваў КДБ на пачатку 1990-х гадоў Радзім Гаўрылавіч здолеў адшукаць і прачытаць справы братоў Гарэцкіх і апублікаваць гаротную праўду пра іх лёс. Радзім Гаўрылавіч здзейсніў подзвіг, вывучаючы матэрыялы следства па прысудах любым бацьку і дзядзьку, іх паказанні, пачварныя абвінавачванні і прысуды, асэнсаваў гэтыя страшныя падзеі і напісаў аб іх, перш-наперш, у кнізе, загалоўкам якой была абрана сутнасць жыццёвага крэда Максіма Гарэцкага: «Ахвярую сваім „Я" ва імя святога ўсім нам Адраджэння». Немагчыма чытаць без душэўных пакут гэтыя аповеды і лісты ды ісці ўслед за аўтарам па крыжовай дарозе волатаў духу. А ісці павінны, бо толькі на гэтым шляху мы пазнаём Праўду.

…У 1927 годзе Г. І. Гарэцкага прызначаюць дырэктарам новага Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. Праз 3,5 гады 24 ліпеня 1930 года яго, ужо акадэміка, арыштоўваюць па справе «Працоўнай сялянскай партыі», якая быццам была арганізавана прафесарамі Пятроўскай (тады Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі, а таксаме па справе неіснуючага, выдуманнага ў ДПУ «Саюза вызвалення Беларусі».

Р. Гарэцкі доўга вагаўся, ці варта публікаваць асабістыя лісты паміж ягонымі маці і бацькам, але сыноўні і грамадзянскі доўг перамаглі — і «Лісты жыцця і кахання» пабачылі свет. Ліставанне Гаўрылы Іванавіча і яго любай жонкі Ларысы Восіпаўны, якія большую частку свайго жыцця амаль да вяртання ў Беларусь у 1969 г. пражылі ў разлуцы, «дапамагло выжыць і быць шчаслівымі, стварыць і захаваць добрую сям'ю, узгадаваць двух сыноў, дасягнуць вышыняў у прафесійнай дзейнасці. [...] Чытаючы гэтыя лісты, можна яскрава адчуць жыццё не проста адной сям'і, але і многія моманты падзей усёй краіны і свету» (Р. Г. Гарэцкі, «Лісты жыцця і кахання»).

Калі Гаўрылу Іванавіча арыштавалі, меншаму сыну было толькі паўтары гадочкі. Бацьку асудзілі да расстрэлу, які замянілі на 10 гадоў ссылкі ў Салаўкі. Як адукаваны спецыяліст, ён быў накіраваны на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала ў яго самай паўночнай частцы на Кольскай паўвыспе. Пачалося пакутнае, амаль на 40 гадоў, вандроўнае жыццё сям'і Гарэцкіх.

Працяг на стар. 9 (3) »

# Цёплыя сустрэчы ў халодны лістапад

**Нават халоднымі і шэрымі лістападаўскімі днямі Саюз беларускіх пісьменнікаў і грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!» дорацькі сваім сябрам цёплыя і яркія сустрэчы.**

Так, у Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце адбылася літаратурна-музычная сустрэча з пісьменнікам, перакладчыкам і бардам Алесем Камоцкім. Як зазначыў сам выступоўца, вечарына была цёплай і нязмушанай. Гледачамі былі ўдзельнікі народнага тэатра «Жывое слова», які існуе пры універсітэце ўжо больш за 50 гадоў. Размаўлялі з тэатраламі пра рознае, у прыватнасці, пра ролю Саюза пісьменнікаў у сучасным задэвайшаным грамадстве. Таксама паспявалі. Што тычыцца рэпертуару, то выконваліся самыя разнастайныя песні, як на замову, так і з ініцыятывы выканаўцы.

А ў дзіцячай бібліятэцы № 10 Мінска адбылася сустрэча школьнікаў малодшых класаў з літаратуразнаўцам, пісьменнікам і бардам Сержам Мінскевічам, падчас якой паміж госцем і школьнікамі ўзнікла гутарка пра беларускі фальклор, выяўленчае мастацтва, кіна- і мультыплікацыйнае мастацтва, а таксама пра беларускую мову і літаратуру.

Школьнікі расказалі, якіх яны ведаюць беларускіх пісьменнікаў, што па-беларуску чыталі, якія ведаюць беларускія казкі, легенды. Нават расказалі свае легенды. А выступоўца прачытаў урыўкі са сваіх казак, праспяваў свае песні, шчыра адказаў на ўсе пытанні школьнікаў, настаўнікаў і бібліятэкараў.

У Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага адбылася этнакультурна-музычна-літаратурная сустрэча «Святыя Дзяды, прыходзьце сюды!..». Навучэнцы будаўнічага ліцэя разам з вядомым этнографам і паэтэсай Антанінай Хатэнка пад чароўныя гукі сакральных музычных інструментаў (музыка Кацярына Радзівілава) патрапілі ў незвычайнае падарожжа Памяці...

Вось што пра гэта распавяла спадарыня Антаніна:

«Некуды ў невядомасць, скуль спяшаліся ў гнёзды мудрыя птахі-Дзяды, свяцілі трапяткія свечкі. Некуды ў прышласць, снаваную са збыласці, уздымаліся вершы, песні і спаміны сучаснікаў, што знайшлі-такі вядунскі ключ Сутнасці і адкрылі найпершы і наймагутны закон Быцця — закон паяднання. Паяднання ўсяго, што было, ёсць і будзе. Усяго, што надае сэнс жыць, памятаць і паўтарацца».

У бібліятэцы № 13 пасёлка Сосны ў межах кампаніі «Будзьма беларусамі!» і пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылася сустрэча з музыкам Ярашам Малішэўскім і пісьменніцай Аксанай Спрынчан.

А вядомыя беларускаму чытачу Пэтсан і Фіндус наведалі Пружаны. Аўтар фэнтэзійнага рамана «Сем камянёў» Аляксей Шэін прэзентаваў у Пружанскім Палацыку новыя пераклады аповедаў Свэна Нурдквіста «Час пеўня» і «Мітусня ў агародзе». Дзеці і іх бацькі змаглі ўпершыню пабачыць пераклады знакамітых кніг на беларускую мову. Кнігарняў, на вялікі жаль, у Пружанах няма, няма таксама беларускага Пэтсана і ў пружанскіх бібліятэках. І яркія, цікавыя аповеды пра дзядзьку Пэтсана і яго коціка Фіндуса захапілі як малечу, так і дарослых.

У мінскай бібліятэцы № 2 малодшым школьнікам прапанавалі адправіцца ў цікавае падарожжа ў краіну, дзе людзі расказваюць легенды, казкі, дзеляцца сваімі ведамі пра прыроду. А праваднікомм у гэтую краіну быў Серж Мінскевіч. Выступоўца расказваў легенды, казкі і паданні, спяваў свае песні і чытаў вершы, а вучні ўзгадалі сваіх бабуль і дзядуляў, распавялі гісторыі, пачутыя некалі ад іх. А таксама патанчылі пад песню Сержа Мінскевіча, паадгадвалі яго загадкі, падарылі шмат шчырых усмешак адно аднаму ды госцю...



Алесь Камоцкі і «Жывое слова»





Фота www.racyja.com

# Галоўнае пытанне пра расстраляных паэтаў

**Яно гучыць так: чаму б дзяржаве на гэтым этапе, у 2018-м, праз 81 год, не адасобіцца катэгарычна ад злачынстваў НКУС? Навошта гэтае двудушніцтва? Навошта бясконцая гульня ў «прызнаем — не прызнаем»? У чым яе глабальны сэнс?**

З 1991 года на мапе свету існуе незалежная Рэспубліка Беларусь, якая не нясе непасрэднай адказнасці за злачынствы, здзейсненыя ў 1937-м саветамі. Дзяржава можа станавіцца на пазіцыю тых, хто расстрэльваў, пераймаць іх логіку і іх падман толькі ў тым выпадку, калі ёй з нейкіх цьмяных прычынаў самой хочацца за іх заступацца.

Бо ад яе гэтага не чакаюць. Ніхто не чакае. Насельніцтва не чакае, бо насельніцтву заўсёды нашмат больш важныя заробкі. Да таго ж шмат у каго прадзедаў пасеклі кулямі, то чаго б ім спачуваць катам? Еўропа не чакае, бо ёй, Еўропе, было б прасцей размаўляць з элітамі, якія разабраліся ў сабе і сваёй гісторыі. І нават Расія не «заўмяле» таго заступніцтва, бо Расія выбудавала сваю «новую савецкасць» праз выракчэнне ад заганаў «старой савецкасці». Логіка такая: савецкія НКУС і КДБ былі дрэннымі, мы гэта прызнаем, але мы — не НКУС і КДБ. І наш новы «Савецкі Саюз», з ягонымі ФСБ і ГРУ, будзе белым і пушыстым. Так, мы зноўку ўступаем у гонку ўзбраенняў і на ўвесь свет кажам, што «рыхтуемся да вайны», але ж мы гэта робім з чыстага ліста і ад усяго сэрца. Бо на свежую галаву вырашылі, што гэта адзіны магчымы для нас напрамак думкі. Не можам мы без «Чапігі» з «Башыравым»! Але нікому тут не прыходзіць у галаву ляпнуць з экрана тэлевізара, што «ГУЛАГ» стварылі фашысты». І я нават не ведаю, што б зрабілі з дзіваком, які б сказаў, што «ў ГУЛАГУ сканалі тыя, каго, можа, і трэба было забіць»...

Беларускай дзяржаве ж чамусьці гэтая простая рэч — адздзяленне сябе ад НКУС — катастрафічна не даецца. Беларусь не проста святкуе стагоддзе камсамола — яна робіць выгляд, быццам гэта яна, Беларусь, той камсамол заснавала. Незалежнасці 27 гадоў, камсамолу — 100, і нічога! Ва ўсіх усё зрастаецца. Але ў гэтым ёсць нешта большае за спробу выглядаць больш старажытнымі, больш абцяжаранымі традыцыямі і часам — большымі, чым мы ёсць насамрэч. Бо калі б рэч была толькі ў пагоні за штучнай спадчынай, пісалі б на плакатах «Беларускай міліцыі 630 гадоў», а не «Беларускай міліцыі 100 гадоў». Ягайла, «паспалітае рушанне» і г. д. — падставаў звязваць з сучаснасцю не меней, чым атаясамліваць сябе з савецкім НКУС. Але менавіта з НКУС, камсамолам, а не з ВКЛ ці Ягайлам яны сябе асацыююць.

І так, зразумела, што СССР ім роднenькі, а ВКЛ ці Рэч Паспалітая — не. Але ж нават паўторную каланізацыю савецкай гісторыі можна было б ажыццявіць без уцягнення ў сваю будучыню крывавых праклёнаў чорных начэй 1937 года.

Чаму так трымаюцца за 1937-ы? Ці не таму, што ў любога тутэйшага прыхільніка «чырвоненькага» ў форумных баталіях раз-пораз абавязкова ўсплывае наган? У Нямеччыне кажуць, што ў любой лаянцы, якая цягнецца даўжэй за 15 хвілін, абавязкова хтосьці згадае Гітлера, каб абразіць суразмоўцу. У Беларусі спрэчка пра савецкае мінулае няўмольна па дасягненні пэўнай гучнасці віску выцягвае аргумент, што мы, маўляў, вас, сссук, яшчэ вывезем у ярочак. Яшчэ паставім на ўскраек яміны. Яшчэ пульнём вам у патыліцу. Што ты за чырвоны, калі не марыш стаць камісарам? Што ты за камісар, калі хаця б раз не ўяўляў сябе на сцюдзёным ветры ў скуранцы да пят, з чапаеўскай шабляй падпахай, з пісталетам, з якога чпокаеш ворагаў народа?

Сённяшнім камсамольцам не прасцей прызнаць, што ў Курапатах ляжаць ахвяры НКУС, чым было гэта зрабіць камсамольцам савецкім. Ну сапраўды: дзіўна было б чакаць, што верныя ленінцы пагодзяцца з тым, што іншыя верныя ленінцы патапілі краіну ў юшцы.

Але я прапусціў момант, калі тыя «верныя ленінцы» раптам сталі ў Беларусі галоўнай інстанцыяй, што адказвае за сярэднюю і вышэйшую адукацыю. Праглядаў фоткі «святочных мерапрыемстваў да 100-годдзя камсамола» з Твітара і Інстаграма і не мог зразумець: Хэлоўін? Касплэй? Адкуль яны ўзялі мар'яіванаўнаў з майго дзяцінства?

І як гэтыя Мар'і Іванаўны выкладаюць беларускую літаратуру? Беларускую гісторыю? Як кажуць пра саму беларускасць?

«Дзеці, сягоння мы будзем прахадзіць творчаства вялікага беларускага савецкага паэта Цішкі Гартнага, імям якога названа вуліца Жылуновіча, на каторай стаіць Адміністрацыя Завадскога раёна сталіцы, у якім знаходзіцца наша школа. Цішка Гартны работаў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», якая выходзіць і сягоння. Напісаў першы беларускі раман «Сокі цэліны». У наябры 1936-га года... ён быў... арэстован за связь з фашысцкімі і нацдэмскімі элементамі... І за гэта яго... справядліва поўнасцю, я шчытаю. У Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу. Дзе ён... Так сказаць... Ой... Нешта душна тут... Ну, карочa, вы самі разумееце. Заўтра прыходзьце на мерапрыяціе па 100-леційю абразаванія Ленінскага камсамола»...

Стагоддзе камсамола супраць Ночы расстраляных паэтаў... Усё як было 81 год таму. Адны адкрываюць шампанскае, іншыя імкнуцца ў цемру, на холад, пад дождж. Усюды гэтае дужанне ўжо скончылася: на ўсходзе ад нас перамог «новы камсамол», на поўдні, поўначы і захадзе — «Ноч расстраляных паэтаў». Мы ж мусім кожны год праходзіць праз выпрабаванне. Мы ж кожны год мусім назіраць, як камсамол узбіраецца на высокія трыбуны, а знішчаныя творцы застаюцца ў сутонні народнай памяці.

Уявіце сабе якую-небудзь дзіўную мелодыю, напісаную стагоддзі таму. Напрыклад, мадрыгал «Zefiro torna e'l bel tempo rimena» Клаўдыя Мантэвердзі. А цяпер уявіце, што чалавецтва не вынайшла спосабу занатоўваць гэтыя цудоўныя шматгалоссі. Што нотнай граматы не існуе ў прыродзе. І што, прагучаўшы адзін, два, дзесяць разоў, — аж покуль не памрэ апошні чалавек, які памятаў пра яе, — гэтая мелодыя знікне назаўсёды. Расстраляная паэзія для мяне — нешта гэтага кшталту. Калі вы не збіраліся ў Курапаты ў ноч з 29-га на 30-га — хаця б адкрыйце вершы Уладзіміра Жылкі ці Алеся Дудара ды пачытайце. Бо пакуль вы іх чытаеце, яны жывыя.

Дзяржаве ж самы час схаваць наган і скуранку куды далей.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

# Бацька і сын Гарэцкія

« Працяг.
Пачатак на стар. 7(1)

І хаця ў 1934 г. пасля датэрміновага вызвалення Гаўрылы Іванавіча сям'я аб'ядналася, ёй можна было жыць толькі ў месцах яго зняволення ў Коле, Туломе і Мядзвежай Гары на Кольскай паўвыспе ды іншых далёкіх ад Беларусі краёх. Потым былі яшчэ арышты 1937-а і самы страшны — у 1938-м, пасля якіх Гаўрыла Іванавіч доўгі час працаваў інжынерам-геолагам на будоўлях вялікіх і малых гідраэлектрастанцый, каналаў і плацін у арганізацыях, падпарадкаваных НКУС.

Для Радзіма і яго брата Усяслава лісты бацькі ў дзяцінстве і, бадай, да канца студэнцкіх гадоў былі магутнай падтрымкай, праяўленнем бацькоўскай любові, клопату і дапамогі, выхоўвалі ў іх лепшыя чалавечыя якасці, загартоўвалі характар. У перапісцы з бацькам Радзім з 9-га класа пачаў пісаць па-беларуску, засвойваць родную мову, бо даводзілася жыць і вучыцца ў рускамоўным асяроддзі ды яшчэ ў 13-і розных школах ад Колы ў Мурманскай вобласці да Чкалаўску пад Ніжнім Ноўгарадам. Здзіўляе загадкавая сувязь бацькі і сына праз почырк, бо рукапісныя старонкі Радзіма Гарэцкага цяжка адрозніць ад почырка Гаўрылы Іванавіча. Моцная спадчыннасць выявілася, нягледзячы на тое, што бацькі не было побач амаль усе школьныя гады.

Загартоўваўся характар Радзіма Гарэцкага і ў гады ваеннага ліхалецця, калі ён з маці, яе бацькамі і яе братавай з восені 1941 г. жылі ў эвакуацыі ў сяле Вавоўж ва Удмурціі. Пачуццё пастаяннага голаду суправаджала Радзіма Гаўрылавіча з самага ранняга маленства і амаль усе студэнцкія гады, нягледзячы на намаганні маці і бацькі, які рэгулярна пасылаў частку свайго сціплага заробку для падтрымкі сям'і.

Напрыканцы ліпеня 1943 г. сям'я з трох чалавек аб'ядналася ўпершыню за доўгі час. Да Гаўрылы Іванавіча, які жыў і працаваў у Чунжыне (пасёлак на беразе ўральскай ракі Чусавая) пераехалі з Вавожа спачатку Ларыса Восіпаўна, потым і Радзім. Старэйшы сын Славік тады працаваў токарам у Маскве на аўтамабільным заводзе імя Сталіна (ЗІС). Малодшага сына паслалі на лесапавал, але Гаўрыла Іванавіч праз некаторы час змог уладкаваць яго рабочым на геалагічных вышуканнях.

Кніга «Академик Яншин — дорогой мой учитель и друг» (2005) напісана па-руску, бо выдавалася ў Маскве Інстытутам праблем нафты і газу РАН. Уражанне ад гэтага твора мастацкай літаратуры надзвычай моцнае і незабыўнае, бо гэта і дакументальная аповесць пра знакамітага сусветна вядомага вучонага — геолага і даследчыка прыроды Аляксандра Леанідавіча Яншына, якім ганарацца і геолагі Беларусі, бо ён — «ліцвін са Смаленску», і цікавыя даследаванні на шляху сцвярджэння ў навуцы 1960-х гадоў новай глабальнай тэктонікі (тэктонікі пліт) і яе важнай часткі — вучэння аб маладых платформах, і пра тое, як выпускнік геолага-разведачнага факультэта Маскоўскага нафтавага інстытута Радзім Гарэцкі стаў знакамітым тэктаністам і лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Роля А. Л. Яншына ў лёсе Радзіма Гарэцкага выявілася ў запрашэнні яго працаваць у Геалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР. Пры заканчэнні Маскоўскага нафтавага інстытута Радзім Гарэцкі атрымаў накіраванне на працу ў Геалагічнае ўпраўленне БССР. Гэтаму былі рады і бацька і сын, бо Гаўрыла Іванавіч тады ўжо рабіў намаганні вярнуцца на працу ў Беларусь. Была праверка ў пэўных органах як сына неаднойчы рэпрэсаванага «ворага народа»...

За час згаданай працы (1952–1971 г.) у Радзіма Гаўрылавіча ў поўнай меры развіўся талент вучонага і арганізатара. Яго надзвычайная працавітасць, звычка да напружанай працы, выдатныя веды па спецыяльнасці, адказнасць за даручаную справу, добрасумленнасць, лагодны характар — у адносінах з людзьмі, але цвёрды ў прынцыповых момантах, спрыялі поспехам і аўтарытэту ў калектыве.

У знакавым у навуковай кар'еры Радзіма Гаўрылавіча 1969 г. яму прысудзілі званне доктара геолага-мінералагічных навук за працу «Тэктоніка маладых платформ Еўразіі», і ён стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.

У тым жа 1969 г. Гаўрыла Іванавіч з Ларысай Восіпаўнай пераехалі ў Мінск (у 1954 г. з Г. І. Гарэцкага была знята судзімасць, а ў 1958 г. ён быў рэабілітаваны). У званні акадэміка АН БССР Г. І. Гарэцкі быў адноўлены ў 1965 г. На працу ў Беларусь Гаўрыла Іванавіч змог вярнуцца толькі праз 10 доўгіх гадоў пасля рэабілітацыі — спачатку старшым навуковым супрацоўнікам Лабараторыі геахіміі і геафізікі, а пры ўтварэнні ў 1970 г. на базе гэтай лабараторыі Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР узначаліў аддзел геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену. Пакутлівы шлях да роднай Беларусі завяршыўся, калі Гаўрылу Іванавічу было 69 гадоў. Галоўнай мэтай жыцця і працы ў Акадэміі Навук было стварэнне навуковай школы даследчыкаў і вывучэнне геалогіі і выяўленне карысных выкапняў як неабходнай падставы гаспадарчага росквіту Бацькаўшчыны. Заставалася яшчэ гарачае жаданне, каб і яго сын, ужо знакаміты геолаг-тэктаніст, таксама працаваў разам з бацькам у Беларусі. І ў 1971 г. прэзідэнт АН БССР М. А. Барысевіч запрашае Р. Г. Гарэцкага на працу ў Мінск у Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР. У снежні таго ж года Радзім Гаўрылавіч вяртаецца на Радзіму і ўзначальвае створаны ў інстытуце аддзел агульнай і рэгіянальнай тэктонікі. У хуткім часе ён становіцца прызнаным лідэрам тэктанічнай школы Беларусі і Прыбалтыкі, дырэктарам інстытута, а ў 1992–1997 гадах — віцэ-прэзідэнт НАН Беларусі.

Праца ў Беларусі адкрыла новыя перспектывы і дала магчымасць апантана служыць на карысць беларускай геалагічнай навукі, культуры і грамадства (падрабязна аб навуковай і грамадскай дзейнасці акадэміка Р. Г. Гарэцкага і калектыву тэктаністаў, геафізікаў, сейсмолагаў ды іншых спецыялістаў-геолагаў Беларусі пры ўдзеле і пад яго кіраўніцтвам выдатна напісаў адзін з лідэраў рэгіянальнай і нафтавай геалогіі Беларусі член-карэспандэнт Р. Е Айзберг — гл.: «Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі. Бібліяграфія вучоных Беларусі». — Мінск, 2013).



Усяслаў і Радзім Гарэцкія. Пасёлак Кола, дзе Гаўрыла Гарэцкі працаваў на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала, ліпень 1936 г.

**Чытаць тэксты Радзіма Гарэцкага — асалода і ўзрушанасць надзвычайна высокія, бо ў іх нанова перажываеш падзеі і з'явы, сведкамі і ўдзельнікамі якіх былі мы самі**

А я трымаю ў руках кнігу Радзіма Гарэцкага «Апантаны Бацькаўшчынай. Жыццёвы меланж-2», якая выдадзена ў Мінску ў 2018 годзе накладам 150 асобнікаў. Я адна з нямногіх, хто мае кнігу ды яшчэ з дарчым надпісам! Ёсць і першая кніга — «Жыццёвы меланж» (2013), наклад якой аж... 300 асобнікаў! Гэта кнігі новага жанру мастацкай літаратуры, створанага пісьменнікам Радзімам Гарэцкім. Вось як сам аўтар характэрызуе гэты жанр у «Прадмове» да першай кнігі. «Жыццёвы меланж — так я называю жанр кароткіх замалёвак, мініяцюр, нярэдка блізкіх да вытрымак з дзённікавых запісаў, якія тычацца розных здарэнняў, праяў, эпізодаў штодзённага жыцця і выкліканых імі пачуццяў, думак. Сюды ж трапляюць успаміны ці роздумы пра розных сяброў, знаёмых, выдатных дзеячаў літаратуры, культуры, навукі, часта звязаныя з іх юбілейнымі датамі» («Жыццёвы меланж», 2013). Аўтар тлумачыць, што геолагі успрымаюць меланж (ад французскага «сумесь») як назву горнай пароды, якая ўтвараецца пры стрэсавых з'явах, напрыклад, ад насоўвання з вялікай сілай аднаго блока земной кары на другі, у выніку ў разломныя зоны трапляюць адломкі разнастайных па рэчавым складзе і па колеры парод, якія і ўтвараюць прыгожыя стракатыя адклады пад назвай меланж. І далей — глыбокая філасофская выснова: «Так у жыцці людзей уздзеянне чалавека на чалавека, адной супольнасці людзей на другую, краіны на краіну, прыродных фенаменаў і самых разнастайных з'яў выклікаюць стрэсавыя сітуацыі як станоўчыя, так і адмоўныя, якія і застаюцца ў памяці чалавека. Так узнікае «жыццёвы меланж» (там жа). Як сцвярджае сам аўтар, у літаратуры жыццёвы меланж яго пачаўся з кнігі «Вечна жыве Беларусь» (2003), у якой сабраны артыкулы, выступленні, інтэрв'ю акадэміка Р. Г. Гарэцкага за пяць гадоў.

Адметнай рысай сучаснага літаратурнага жыцця ў Беларусі з'яўляецца тое, што многія выдатныя творы беларускамоўных пісьменнікаў упершыню друкуюцца за мяжой. Так здарылася і з «Жыццёвым меланжам» Радзіма Гарэцкага, «лірычная проза» якога ўпершыню пабачыла свет у беларускамоўным часопісе «Тэрмапілы», што выдаецца ў Беластоку (Польшча). У гэтым часопісе таксама публікаваліся творы Ніла Гілевіча і Анатоля Вярцінскага.

Чытаць тэксты Радзіма Гарэцкага — асалода і ўзрушанасць надзвычайна высокія, бо ў іх нанова перажываеш падзеі і з'явы, сведкамі і ўдзельнікамі якіх былі мы самі за апошнія 27 гадоў. Позірк на іх нашага знакамітага Суайчынніка, Вучонага, Інтэлігента, Чалавека высокай духоўнасці, адданага Бацькаўшчыне, — невычэрпная крыніца Натхнення, Веры і Надзеі на шчаслівую будучыню Беларусі.

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі да гэтага часу плённа працуе галоўным навуковым супрацоўнікам у лабараторыі геатэктонікі і геафізікі Інстытута прыродакарыстання Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Яго кожны дзень можна «знайсці» на працоўным месцы, абмеркаваць з ім самыя складаныя пытанні, атрымаць параду, падтрымку і дапамогу. З'яўляюцца ў друку яго навуковыя артыкулы і сумесныя манаграфіі з новымі ідэямі і канцэпцыямі, у перыядычным друку — нарысы на хвалюючыя тэмы жыцця нашай незалежнай краіны, аповеды пра знакамітых суайчыннікаў. Абдумваюцца планы і сюжэты новых кніг навуковай і мастацкай літаратуры, рэдагуюцца манаграфіі даследчыкаў Беларусі і другіх краін, чарговыя нумары часопісаў, здзяйсняецца праца па захаванні спадчыны Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, па выданні матэрыялаў штогадовых «Чытанняў братоў Гарэцкіх» (у 2018 г. адбыліся 25-я чытанні), абмяркоўваюцца дысертацыі, якімі кіруе або якім апаніруе, прапаноўваюцца тэмы новых пошукаў і прагнозаў карысных выкапняў і шмат іншага, што на самым высокім узроўні можа зрабіць толькі Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі.

Захопленасць навукай, служэнне любай Бацькаўшчыне, высокія чалавечыя якасці прыцягваюць да Радзіма Гаўрылавіча ўсіх, хто яго ведае. Яму ўласцівы шляхетная інтэлігентнасць, аптымізм і добразычлівасць, дэмакратызм, увага да калег і вучняў, здольнасць бачыць галоўнае ў складаных праблемах. Ён — маральны аўтарытэт і жыццёвы арыенцір для ўсіх, каму дарагая Беларусь.

Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі — адзін з тых, хто прагне ствараць Беларусь, аб якой марыў яго бацька: заможнай, культурнай, адроджанай, вольны народ якой сацыяльна і нацыянальна свядомы, не саромецца «беларусам звацца». «І над усім — ва ўсім — перш за ўсё Вялікае Роднае Слова, Мова, крыніца жыцця, падстава неўміручасці, душа і сэрца народа, яго Бог, яго жыццё, сам народ». (З запісной кніжкі Г. Гарэцкага, «Ахвярую свае «Я», 1998).

Напярэдадні Юбілею вельмішаноўная Радзіма Гаўрылавіча шматлікія прыхільнікі яго Таленту і яго Справу, беларусы ўсяго свету зычаць яму моцы духу, добрага здароўя, шчасця і радасці ад сваёй вялікай і так неабходнай сучаснікам працы дзеля светлай будучыні нашай Бацькаўшчыны!

# «Гэта супярэчыць інтарэсам беларускага народа»

## Моўная акцыя 1968 года з гледзішча навуковага камунізму

**У 1966-м я прыехаў у Менск вучыцца ва ўніверсітэце на біяфаку. Пасяліўся ў інтэрнаце на Паркавай магістралі. І хоць з'явіліся новыя сябры, прыяцелі, было адчуванне самоты.**




**Алесь Разанаў.** Фота Андрэя Лянкевіча

Горад — беларуская сталіца — быў прасякнуты чужым духам. Нідзе не чуваць роднай мовы, пройдзеш па праспекце — усяго дзве-тры шыльды па-беларуску, як адчэпнае: «Чаравічкі», «Паўлінка». Мне гэта балела, закранала маю годнасць. І, што асабліва засмучала, не было з кім пагаварыць. З суседзямі па інтэрнаце адразу пастанавіў размаўляць па-беларуску, але ніхто не адказаў узаемнасцю. Так і павялося: я па-беларуску, да мяне — па-расейску. Не скажу, што ўсе былі абыякавыя. Хтосьці ставіўся спачувальна, шкадуючы, што мову зацiскаюць. Нехта, асабліва з старшакурснікаў, пасміхаўся з майго «дзівацтва». А бальшыня, мабыць, не дужа пераймалася гэтым або проста прымала як наканаванасць, што пры камунізме застанецца толькі адна мова — нездарма ж афіцыйнай палітыкай у нацыянальным пытанні было «збліжэнне і зліццё моў».

Пры канцы кастрычніка 1968 года па інтэрнаце пайшла пагалоска, што студэнты філфака выступілі на абарону беларускай мовы. Брат нашай аднакурсніцы Аляксандр Дабрыян якраз вучыўся там, здаецца, на чацвертым курсе, і ад яго я даведаўся падрабязнасці: Алесь Разанаў з сябрамі арганізавалі на беларускім аддзяленні збор подпісаў за навучанне на роднай мове. Добра памятаю, як узрушыла мяне гэтая навіна. Не адкладваючы, у той жа вечар падняўся на паверх, дзе жылі філолагі. Знайшоў патрэбны пакой і, папрасіўшы Алеся выйсці на хвілінку, сказаў, што рады пазнаёміцца з ім і ўсцешаны, што ёсць у нас такія людзі. Крыху пагутарылі. Алесь распытаў, адкуль я, хто мае бацькі. Потым не раз сустракаліся, ён пазнаёміў мяне з Віктарам Ярацам, Лявонам Барташам, Яўгеніяй Янішчыц. Апавядаў, як драматычна развіваюцца падзеі на філфаку.

Пад канец года, у снежні, я запрасіў яго на сваю радзіму, у вёску Азярычына. Памятаю, як цёмнычы, марозлівым вечарам, пешшу ішлі ад чыгуначнай станцыі. У гутарцы непрыкметна адолелі дванаццаць кіламетраў дарогі. Бацькі сустрэлі Алеся як дарагога госця. Назаўтра была доўгая зацікаўленая размова. Пазней сябар прызнаўся, што менавіта гэтая сустрэча канчаткова пераканала яго, з кім ён мае справу.

Зімовую сесію Алесь здаваў датэрмінова. Па ўсіх дысцыплінах атрымаў адзнакі выдатна або добра, акрамя вайсковай падрыхтоўкі, па якой яго «завалілі»: не ўклаўся ў вызначаны час з разбіраннем-збіраннем аўтамата Калашнікава. Фактычна справа ішла да выключэння з універсітэта... Дзякуючы падтрымцы Максіма Танка і Уладзіміра Калесніка, Алесь быў залічаны на трэці курс Берасцейскага педінстытута. Па нейкім часе я намерыўся з'ездзіць туды, каб маральна падтрымаць сябра. Мой старэйшы брат Юрась падахвоціўся далучыцца, і мы разам з ім 24-га красавіка прыехалі ў Берасце. Знайшлі інстытут, факультэт. У вестыбюлі ўбачылі Алеся ў атачэнні грамады студэнтаў і зразумелі, што наша маральная падтрымка яму, відаць, не дужа і патрэбная. Цёпла прывіталіся, распыталі адзін аднаго пра жыццё. Алесь прапанаваў далучыцца да іх кампаніі, што збіралася ў вандроўку па Белавежскай пушчы. На жаль, мы не маглі пакарыстацца з гэтай прапановы...

У канцы 1969 года, калі я быў на чацвертым курсе, адбылася такая гісторыя. Іван Іванавіч Уласенка вёў у нас курс навуковага камунізму. Лекцыі чытаў не спяшаючыся, паволі, каб усе паспелі запісаць. Калі трэба — паўтараў. Нашыя папярэднікі, студэнты старэйшага курса, казалі пра яго: «Маеш канспект — пяцёрка гарантаваная». Не патрэбныя былі ні падручнікі, ні дадатковая літаратура. Запісаў, вывучыў, здаў. Вось мы і пісалі.

Чарговы семінар (па міжнацыянальных дачыненнях) Іван Іванавіч, з нейкіх меркаванняў, пастанавіў зрабіць аб'яднаным: правесці яго адначасова з дзвюма групамі (а гэта прыблізна паўсотні студэнтаў). Усё ішло вызначаным парадкам, аж покуль ён не закрануў нядаўнія падзеі на філфаку, дзе Алесь Разанаў з сваімі аднадумцамі Віктарам Ярацам і Лявонам Барташам наладзілі збор подпісаў пад петыцыяй наконт выкладання вучэбных дысцыплін на факультэце па-беларуску. Не называючы імёнаў, Уласенка ахарактарызаваў гэтую акцыю як нацыяналістычную.

Тут раптам мой сябар, Юзік Прышчэпа, з якім мы жылі ў адным пакоі студэнцкага інтэрната, выгукнуў з месца: «А за што іх выгналі з універсітэта?!». У ягоным пытанні, асабліва ў тоне, якім яно было прамоўленае, чуліся і выклік, і пратэст. Юзікаў дэмарш быў для мяне нечаканым, хоць і цалкам вынікаў з ягонай запальчывай, экспансіўнай натуры.

Упэўнены ў сабе, Іван Іванавіч спакойна адказаў, што не ведае, выгналі іх ці не, аднак, калі б гэта залежала ад яго, то ён выгнаў бы. Адзначыў пагрозліва, што за пытаннем, якое тут прагучэла, ён бачыць пэўныя ўплывы нацыяналістычных колаў, асяродак якіх атабарыўся ў Акадэміі навук, і на гэта варта звярнуць пільную ўвагу. Каб паказаць, да чаго такія настроі могуць спрычыніцца, ён згадаў незайздросную долю сваіх сяброў-аднакурснікаў, з якімі вучыўся некалі ў Маскве. У выніку размеркавання яны трапілі ў Эстонію і адтуль у 1953-м ці 1954-м годзе, пасля смерці Сталіна, іх выперлі.

Што да беларускай мовы, дык тут для нашага выкладчыка ўсё было зразумела: яна недастаткова развітая, не мае распрацаванай навуковай тэрміналогіі, не можа абслугоўваць усе патрэбы сацыялістычнага грамадства і, самае галоўнае, народ ад яе адмаўляецца. Да скарбаў сусветнай культуры беларусы далучаюцца праз расейскую мову, гэта мова будучыні. Трымацца за беларускую мову, якая ўжо аджыла сваё, — гэта супярэчыць інтарэсам беларускага народа, які разам з усім савецкім народам упэўнена крочыць да камунізму.

Паставіўшы такім чынам тоўстую кропку на тэме, І. І. Уласенка дзяжурна запытаўся, ці ёсць яшчэ якія пытанні. Пытанняў ні ў кога не было... Мяне тым часам прыгнятала думка, што пакідаю сябра ў няпростай сітуацыі ў адзіноце. І хоць я не штурхаў Юзіка на гэтую авантуру, усё ж адчуваў маральную адказнасць за яго: калі б не мой уплыў, ён таго пытання, можа, і не задаў бы... Я падняў руку.

Мне было што сказаць, да таго часу я прачытаў ужо кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сяньня: Папулярны нарыс з гісторыі Беларусі» (Менск, 1944). Зместам майго выступу было зняпраўджанне Уласенкавых тэзаў пра нашую мову. Пачаў я з таго, што ў 20-х гадах беларуская мова была дзяржаўнаю, на ёй вучылі ва ўсіх навучальных установах, у тым ліку вышэйшых, вялі справаводства ў савецкіх і партыйных органах. Падкрэсліў, што нашая мова была моваю навукі: былі выдадзеныя 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі. Але на пачатку 30-х гадоў па сфабрыкаванай ГПУ справе «Саюза Вызвалення Беларусі» сотні пісьменнікаў, навукоўцаў, дзеячоў культуры — квецень нацыі — былі арыштаваныя і па нейкім часе расстраляныя. Скончыў жыццё самагубствам прэзідэнт Беларускай акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі, справаваў зрабіць сабе харакіры Янка Купала. Пасля знішчэння нацыянальнай інтэлігенцыі пачалася русіфікацыя. Беларускую мову ўжо не было каму бараніць, яе выгналі з уладных структур, з вышэйшай школы. Вось чаму яна стала непрэстыжнай. А не таму, што бедная і няразвітая.

Мой выступ не пакінуў аўдыторыю абыякавай. Па чарзе ўставалі Рыгор Долбік, Тацяна Бляева, нехта яшчэ (здаецца, Валодзя Касмачоў). Яны гаварылі ў асноўным пра тое, што беларускую мову трэба ведаць хоць бы дзеля таго, каб чытаць беларускіх пісьменнікаў у арыгінале. Аднак для мяне і гэта было вялікай маральнай падтрымкай... Іван Іванавіч змаўчаў, нічога не каментаваў.

На перапынку пасля семінара дыскусія прадоўжылася ў калідоры. Я ў ёй удзелу не браў. Шчыра кажучы, хацелася расслабіцца, бо, як для мяне, псіхічная напруга была занадта вялікая. Стоячы непаводдаль, я толькі слухаў, што казалі мае аднакурснікі. Але да мяне падышоў Аркатаў (гаварылі, што ён генеральскі сын). Манерна адставіўшы нагу і пакручваючы цыгарэту, ён сказаў: «В тридцать третьем году в Германии все начиналось так же». Што можна было адказаць на гэтую луху? Я толькі пасміхнуўся.

Назаўтра Мікола Лемяза, староста нашага курса, спаткаўшы нас з Юзікам, папярэдзіў: «Ну, хлопцы, рыхтуйцеся! Пасля семінара Уласенка паклікаў мяне і папытаўся вашыя прозвішчы».

Мы і самі не цешылі сябе ілюзіямі, выдатна разумелі, што нам тое дарэмна не пройдзе. Не чакаючы сесіі, узяліся за падрыхтоўку. Студыявалі не толькі канспект, але і ўсе даступныя падручнікі, іншую літаратуру. Вучылі так, што пара з галавы ішла. Што да Юзіка, дык ён увогуле не вылазіў з чытальнай залі. Зубрыў, як тады казалі, «аж нос гнуўся»...

Білет мне трапіўся нескладаны. Калі настаў час адказваць, Іван Іванавіч, спаслаўшыся на тое, што яму трэба на кафедру, выйшаў, пакінуўшы замест сябе аспіранта Вячаслава Бянькоўскага. Той выслухаў, пачаў задаваць дадатковыя пытанні тыпу: «Які працэнт кааперацыі ў сельскай гаспадарцы Польшчы?» Я адказаў, што невялікі, але дакладнай лічбы назваць не магу. «А ў Югаславіі?» — працягваў ён... Я ведаў, што навуковы камунізм — навука спецыфічная, асаблівая сваёй неабсяжнасцю. Але тут, на экзамене, я напоўніцу адчуў сябе ў ёй прафанам. «Ну вот, видите, — рэзюмаваў Бянькоўскі, — на основные вопросы вы ответили хорошо, а в дополнительных совершенно не ориентируетесь. Больше тройки поставить не могу». Я не хацеў такога «ўпрыгожання» ў сваім дыпломе і сказаў, што буду пераздаваць. Мой сябар, дарма што па праграме ведаў усё на памяць — «аж ад зубоў адскоквала», атрымаў двойку... Пераздавалі мы самому Уласенку. Як і звычайна ў такіх выпадках, адзнака павысілася кожнаму з нас усяго на адзін бал. Мне Іван Іванавіч пра тую справу і словам не згадаў, а вось Юзіка, паводле ягоных словаў, зняважыў.

На пятым курсе, а гэта быў ужо 1971 год, Анатоль Цімафеевіч Пікулеў прапанаваў мне застацца на кафедры біяхіміі і біяфізікі і паступаць у аспірантуру. Такі гонар выпадаў аднаму чалавеку з курса і тое не штогод. У сувязі з гэтым ён пацікавіўся, ці ёсць у маёй заліковай кніжцы лішнія «чацвёркі» і па якіх прадметах. Яму, як загадчыку кафедры, хацелася, каб у мяне быў «чырвоны» дыплом. Для гэтага сапраўды пару экзаменаў трэба было пераздаць. Я назваў тыя прадметы. Пачуўшы пра навуковы камунізм, Анатоль Цімафеевіч запэўніў: «Ну, гэта ўвогуле не праблема!»... Аднак болей да пытання аспірантуры ён не вяртаўся, а да пераэкзаменавання і пагатоў. Відаць, на кафедры навуковага камунізму яго адгаварылі ад тых планаў у дачыненні да мяне. Юзік Прышчэпа, зразумела, таксама меў праблемы з размеркаваннем.

З Алесем Разанавым мы пасля рэгулярна ліставаліся — калі ён служыў у войску і калі я вучыўся ў Маскве. Абменьваліся навінамі, думкамі пра наша жыццё, сваімі планамі. А калі я, абараніўшы дысертацыю, вярнуўся ў Менск, супрацоўнічалі ў грамадскіх справах. Дзякуючы Алесю я пазнаёміўся з выдатнымі людзьмі, самаахвярнымі патрыётамі: Арсенем Лісам, Міколам Прашковічам, Ларысай Геніюш, Алесем Каўрусам, Яўгенам Кулікам, Міхасём Чарняўскім, Алесем Зайкам, Міколам Пракаповічам, Віктарам Маркаўцом, Міхасём Рамановым, Генадзем Сакаловым, Міколам Ермаловічам, Алесем Лабанком, Віктарам Сташчанюком, Пётрам Драчовым, Ірынай і Аляксеем Марачкінымі, Міколам Купавам. Шмат хто з іх стаў маім сябрам на ўсё жыццё.

**Зміцер Санько**

# Прачнуцца дома



Іна СНАРСКАЯ

### Абляпіхіны слёзы

*Што адчувала бабуліна хата,*
*калі яе руйнавалі,*
*выбівалі вокны, рушылі печ,*
*разбіралі ганак?..*
*З фотаздымкаў на бяздушную тэхніку*
*глядзелі вочы маіх далёкіх*
*і блізкіх сваякоў.*
*Іхніх слёз не бачыў ніхто,*
*акрамя абляпіхі,*
*якую пасадзіў каля хаты мой бацька.*
*Абляпіха ўвабрала боль і слёзы*
*бабулінай хаты,*
*таму яе духмяныя ягады заўсёды*
*горкія.*

### Хата

***«Дзе той гладыш? Дзе кварта тая?»***
***Анатоль Вярцінскі***

*На ўскрайку стамлёнай душы*
*Пытае блакітная кветка:*
*— Чаму ўспамінаеш так рэдка*
*Даёнку, фатэль, гладышы?*
*І печ, і куфэрак — усё*
*З бабулінай хаты спрадвечнай*
*Засыпалася небыццём,*
*І друзам, і хмызам, і вецццем.*

*У хату ласкава прайсці*
*Дазволілі мне. Пустэча*
*Няволяй сірочых айчын*
*Мае знепрытоміла плечы.*

*Ні слоіка на стале,*
*Ні дзежкі з мукой ці мукай.*
*Пустэча ўсміхнулася мне*
*Шчарбатай нямой разлукай.*

*І трэснула раптам акно,*
*І бразнулі клямкай сені,*
*І ангелы з маіх сноў*
*На вусцішны ганак селі.*

* * *

*Адыходзяць суніцы*
*за сінія горы, за малочныя рэкі,*
*ляцяць на захад сонца,*
*хаваюцца за лесам,*
*за восенню, за зімой.*
*А матуля мая*
*ўсё стаіць на палянцы пасярод неба*
*з кошыкам спелых суніц,*
*апошніх у гэтым сезоне.*

### Тры сны

*Мой першы сон*
*пасівеў, як бацька,*
*які не пасьпеў пасівець.*



Фота www.citydog.by

*Мой сон другі здарожыўся,*
*як дзядуля Іван,*
*які не хадзіў далёка,*
*бо на адной назе.*

*У трэцім сне*
*я адчула сябе шчаслівай,*
*хоць не заснула ні на хвіліну.*

### Сакральнае

*Бабуля мясіла гліну.*
*Матуля ляпіла збан.*
*А я задрамала ў збане*
*на самым дне.*
*Аднойчы прачнуся ў сябе дома.*

### Ангелу вінаграду

*На лева — восень, а на права —*
*праўда,*
*Але была і праўда, як залева.*
*І золак цьмяна ўжо свяціў на дрэва,*
*Ды дрэва дастаяла да зімы.*

*Тады сказаў мне ангел вінаграду,*
*Прыціснуўшыся да вакна шчакою:*
*— Ты ўжо не будзеш, як раней, такою,*
*Аднак ляці, кажу табе — жыві!*

*…І зацвітуць цярновыя званіцы,*
*Начны туман засвеціцца зарою.*
*Расправіць плечы валачобнік ніцы*
*За той апошняй, звонкаю гарою.*

# У колерах сепіі



Славамір АДАМОВІЧ

* * *

*Лістапад, панядзелак, 13-га,*
*вострa хочацца паваяваць —*
*да крыві да жалезістай, да аберацыяў*
*у вачах, якія пакуль глядзяць.*
*Адчуваю, брат: штохвіліны*
*ўшчыльняецца*
*атмасфера водарам H2S*
*і надзвычай хутка ў двары змяркаецца,*
*а ў ружпарку пацеюць ствалы АКС...*
*Панядзелак чортавы! Хутка восьмая,*
*ты ізноў з гаўбца недапалкам плюеш,*
*бо, хоць лоб разьбі, — не здабудзеш*
*просьбамі*
*нават самы просты любоўны верш...*

### Украінскае

*...любіць цябе, рыжую-рыжую,*
*ў зялёнай-зялёнай траве*
*не дзесьці там пад парыжамі,*
*а тут, у айчыннай журбе;*
*любіць, як, здаецца, не люблена*
*яшчэ ніколі й нідзе,*
*у жоўта-блакітным лубіне*
*прыпаўшы да белых грудзей!*

### На смерць сябра

*Калі раптам заўтра памірaць —*
*я памру шчаслівы і здаровы,*
*бо, у д'ябла душу тваю маць,*
*жыў жыццё не дойнаю каровай!*
*Не карміў з рукі сваім рублём*
*ні мянтоў, ні попікаў патлатых,*
*с...ць хацеў на «жоўты дом» з гэб'ём,*
*кпіў нахабна з чалавечай «ваты»,*
*«пахана» галоўнага прыбіў*
*словам да слупа ганебнай славы,*
*а найболей я жыццё любіў,*
*як бясконцай вечнасці праяву.*
*Калі раптам заўтра — не шкада,*
*неадменны бо закон Прыроды*
*для мяне, для следчага-вужа,*
*для суддзі-смаўжа і для віжа,*
*што сканаў аднойчы ад нажа,*
*так і не патрапіўшы «на воды»...*
*Калі раптам... — ведаю, за мной*
*будуць спадкаемцы новай хвалі*
*паўставаць, знішчаючы канвой*
*тых, што нас заўчасна адпявалі!*

* * *

*Прыгожая, чужая, не мая,*
*і дзеці не мае ў такой прыгожай.*
*Чужое ўсё... Шматкроп'е: акрамя*
*таго, што непрыгожым быць не можа...*

### Запавет

*Час ідзе, і без ніякіх,*
*бліснe момант зноў, тады*
*не збядзёйдай, не прагапай*
*так, як мы, — свае гады!*
*Вырастай! Крапчэй! Гартуйся!*
*Маладосць дарма не блэць...*
*Беларусь сваю згарусціць*
*трэба ўмець!..*

* * *

*Без цябе жыву, напяты,*
*як цымбальная струна...*
*Спяць у куфры меч і латы,*
*толькі ты не спіш адна —*
*Муза дзёрзкага паэта,*
*песняра вішнёвых руж...*
*Ты мне рай і цэнтар свету,*
*цэнтравая ў свеце душ!*
*Будзь! І буду неўнікнёны*
*я, спалучаны з табой,*
*і радок свой пранікнёны*
*без развагі кіну ў бой!..*

* * *

*Як тысячатонны атамаход,*
*прайшла, гайдаючы ватэрлініяй,*
*і я пацягнуўся за ёю ўброд,*
*нібы французы на штурм Бастыліі.*
*Я бачыў, як пеніліся за ёй*
*вада салонaя з аквітай...*
*Адно і паспеў, што прабулькаць «ой!»,*
*глыбінным пражэктарам воч прашыты...*

* * *

*...А сцяг сабе лунае кожны месяц*
*і хоць штампуй чарговы свой «указ», —*
*не знішчыць вам, што нашы сэрцы крэсляць*
*за проста так, а не расейскі газ...*

### Інтымна-палітычнае

*Рыжае-рыжае лета*
*і зеляніна кантэксту...*
*Не сонцам — табой сагрэты,*
*на талент праходжу тэсты.*
*Ці ўсё я магу? Ці здольны*
*па-за мяжой узросту*
*быць і застацца вольным,*
*адкрытым і злёгку вострым?..*
*Абы не зламаць раптам*
*костку рабра Адама*
*і дажываць экспатам*
*у роднай Краіне пад хамам!*

### Зямля народнай памяці...

***(Вершы з перыметру Курапат)***

*«Крок за крокам! Стэп бай стэп!*
*Спынім будоўлю! Адменім дэкрэт!..*
*Праўда за намі і сіла, Брат!» —*
*сказаў мне ўчора з Гомелю сват.*
*«Харэ баяцца! Дастала, нах..!*
*Свабода альбо, ці адвечны страх...*
*Я першую выбраў, са мною давай*
*Сябе вызваляць і любы наш Край!..».*

* * *

*Даруйце, пані Проза!*
*Паэзія ўва мне*
*у самай зручнай позе*
*прылегла — на спіне.*
*Падмахвае імпэтна,*
*радкі ў радкі кладзе,*
*метафару-німфетку*
*падклала кагадзе.*
*Паверце мне, я мару*
*заглыбіцца ў раман,*
*але згушчае хмары*
*паэзіі падман.*
*Не выйсці мне з цянёту*
*рыфмічнае гульні,*
*як навабранцу з доту*
*у першы дзень вайны.*

### Раманс

*Ізноў цудоўны зімовы дзень.*
*Ціха навокал. Падае снег.*
*За рогам дома пухнаты цень*
*да плота заснежанага не дабег...*
*Паленцы сасновыя у агмяні*
*перастварае у попел агонь,*
*грэючы цэглу і камяні,*
*і тваю*
*маладую*
*далонь...*
*Ты выбачай, я так многа любіў...*
*Што засталося — табе на разбор...*
*Ды без кахання кім бы я быў?*
*На халастых часта глохне матор...*
*Ты мне па ўзросце унучка, і вось*
*што скажуць маці і бацька твае?*
*Ты ж ахвяруеш сваю маладосць*
*хоць і здаровай, ды сталай Літве...*
*Паабяцай мне — я верай жыву! —*
*паабяцай, што не кінеш любіць*
*І Беларусь, і ВялікаЛітву,*
*і разам са мной будзеш іх бараніць...*

* * *

*Не пасяваю... Паўсюль шматкроп'і...*
*І трэба выбраць, што напісаць:*
*заяўку на грант ці «Цану Еўропы...»,*
*ці плюнуць на ўсё і пайсці ваяваць...*

*А, зрэшты, далёка хадзіць не трэба,*
*вайна ўжо сама прыходзіць да нас...*
*У гэтым сезоне апошняе дэрбі,*
*і выйграе той, хто згуляе на пас...*

* * *

*Межы свае пільнуйма,*
*не прагнучы выйсці з іх,*
*каб не накалолі нумар*
*аднойчы на нас, жывых!..*

*Чужога ніколі не прагнуў,*
*але і свайго не аддам —*
*нават калі з панагіяй*
*прыйдзе суседскі хам!..*

* * *

*Любоўю да Радзімы і Жанчыны*
*прасякнуты я ўвесь, ніяк інакш,*
*а калі што — уласным Збройным Чынам*
*абараню свой палюбоўны стаж!..*

* * *

*З новым годам! З новым змаганнем!*
*З новым набыткам і новым каханнем!*
*З новай надзеяй і поспехам новым!*
*З позіркам дзёрзкім з-пад чорненькіх*
*броваў!*
*Сёстры-землячкі! Браты-суайчыннікі!*
*Лёс перайначаць нашыя ўчынкі!..*

**2017, Мар'іна Горка**

# Цягнік пайшоў...



Стася НАРКЕВІЧ

## Дарожнае

Дзень абяцаў быць гарачым — ні хмурынкі на небе. І промні сонца ўжо зранку так смалілі, што ад іх нельга было схавацца ні пад разгалістымі шатамі клёнаў, ні ў памяшканнях. Асабліва стала невыносна горача апоўдні.

«Як жа дабрацца да вакзала, няма чым дыхаць?» — падумала, калі апынулася на прыпынку. Зірнула на гадзіннік, на расклад руху транстарту і вырашыла ісці — час дазваляў. Але не гэта стала галоўнай прычынай майго вымушанага падарожжа, а ўчарашнія ўспаміны пра паездку дадому з працы ў бітком набітым аўтобусе, дзе нельга было нармальна паставіць ногі, як і падняць рукі, каб ухапіцца за поручні і трымацца. Хаця ведала, што ісці ў такую спякоту — не цукар есці: духата сцісне грудзі, а едкі дым, які выцiскалі машыны, заб'е лёгкія, і на мяне, як, дарэчы, на іншых гараджан, нападзе кашаль — сухі і працяглы.

«У такое надвор'е трэба на беразе рэчкі сядзець ці якога-небудзь вадаёма», — падумала і спынілася насупраць фантана, заглядзелася. Карціна была сапраўды нязвыклая. Некалькі хлопцаў і дзяўчат падставілі гнуткія постаці пад струмені вады і прымалі «душ». Ім хапіла некалькі хвілін, каб вымакнуць да ніткі, а потым з крыкам і смехам выскачыць да сваіх сяброў, якія стаялі збоку і неўпрыкмет прыхінуцца да іх сухога адзення.

— Ну, знайшлі забаву, і дзе? Лепш бы за горад паддаліся. Які прыклад падаюць малым, — як старая бабулька, буркнула я. Але раптам схамянулася і адзначыла, што, напэўна, каб і мне было столькі гадкоў, колькі ім, я таксама палезла б у гэты штучны вадаём ды чакала, калі кропелькі вады распусцяць свае нябачныя веееры ды імі адгародзяць ад пякучых промняў шчокі, рукі, галаву.

«Сёння трэба было патэлефанаваць сяброўцы і на яе жоўтай «бубачцы» (так яна называе сваё «Пежо»), паехаць у які-небудзь забыты богам куток да возера і цалюткі дзень лашчыцца ў вадзе,»— мільганула ў галаве. Але гэтага я не магла зрабіць: мяне чакала хворая сястра, якой я везла дэфіцытныя лекі, ды і, у рэшце рэшт, у мяне б не хапіла здароўя зноў стаяць у чарзе па квіток.

Колькі хвілін я яшчэ пастаяла, перамінаючыся з нагі на нагу, і хоць дужа не хацела пакідаць «назіральны пункт», але мусіла сябе зварухнуць з месца і пакрочыць да будынка вакзала.

Мне хапіла дзесяць хвілін, каб дайсці да залы чакання, і столькі ж часу, каб трапіць у раз'юшаную плыню пасажыраў, якія, быццам абвараныя кіпенем, уцякалі з памяшкання, у якім не было чым дыхаць: спёртае паветра, перамешанае з гарачынёй, парфумай, пахам ежы, выганяла вонкі.



«Ужо лепш пастаяць на пероне», — падумала і спусцілася ў тунэль. Там хоць было трошкі халадней, але больш небяспечна для здароўя: скразнякі пратыкалі цела.

«І калі ўжо аб'явяць пасадку?» — мільганула ў галаве.

Божа! Нарэшце на табло з'явіўся нумар цягніка і платформы, ля якой ён спыніцца, каб забраць мяне і такіх жа гаротных, як я, што наважыліся ў такі небяспечна душны дзень пакінуць кватэры і ехаць.

Падымаюся па прыступках уверх. Людзей не так багата. Пасажыры з'явяцца на пероне перад самым адыходам хуткага. Як заўсёды.

А вось і цягнік. Без цяжкасцей знаходжу свой вагон. Прыгожая праваднiца ветліва запрашае зайсці ў яго. Працягваю квіток — і праз некалькі хвілін на месцы. Думаю, хто ж будзе маім суседам ці суседкай. А іх прыйшло двое. «Няўжо ж пасажыры — спарышы?». Не. Муж і жонка. Размаўляюць на ўкраінскай мове. Жанчына сядае ля мяне, муж у наступным купэ шукае месца. Заходзіць яшчэ адна пара, відаць, маладажоны. Ім больш пашанцавала. Дзяўчына і хлопец змогуць прыняць гарызантальнае становішча і з камфортам даехаць да сваёй станцыі. Я за такія ж грошы — амаль што з пакутамі. Ні паклажу схаваць ад людскога вока, ні самой зашыцца.

Пакуль разважала, не прыкмеціла, як у наша купэ зайшлі яшчэ два пасажыры — матуля з сынам, якому на выгляд было гадоў з пяць. Жанчыне, відаць, дваццаць пяць-дваццаць сем. Хлопчык такі маленькі, такі худзенькі, што без спачування нельга было глядзець на яго. Апрануты вельмі сціпла. Дарэчы, адзенне ў яго матулі не адпавядала модзе сённяшняга дня: паркалёвая сукенка простага фасону шчыльненька абхоплівала прывабную постаць. На нагах старамодныя чаравічкі і шкарпэткі даўнейшага фасону, якія мы насілі ў 70-х. Светлыя валасы, заплеценыя ў косы, хавала хустка з бацісту — тоненька-танюсенькая, з някідкім малюнкам па краях. Твар у яе быў белы.

Зірнула я на маладзіцу і падумала, што яна, відаць, ніколі не падмалёўвала вусны, не наносіла румяну на шчокі.

Маці і сын сядзелі ціха. Жанчына пазірала ў акно, малы гуляў з чырвонай машынкай.

Цягнік непрыкметна крануўся і пачаў набіраць хуткасць. Замітусіліся мае спадарожнікі-суседзі: збіраліся палуднаваць. Калі ля жонкі з'явіўся галодны муж, я пажадала «смачна есці» і хуценька ўступіла сваё месца, а сама перасела да маладых.

А што апетыт быў у той пары адмысловы, красамоўна сведчылі прыпасы, якія неўзабаве з'явіліся на сурвэтцы: свежыя агуркі, даволі тоўстыя кавалкі свініны, кружочкі розных каўбас, жоўтыя яйкі. Завяршала сервіроўку пузатая бутэлька віна.

«Як можна такую тлустую ежу ўжываць у такую гарачыню ды яшчэ запіваць моцнымі напоямі?», — падумала і не вельмі ласкава, нават гідліва зірнула на людзей, якія не зважалі ўвагі на нас, а ўплёталі за дзве шчакі прадукты, часам прысмоктваючы. Дарослым было ўсё роўна, хто што рабіў і чым займаўся, толькі хлопчык касіў свае вачаняты на мужа і жонку і праз колькі часу нахіліўся над вухам матулі, гучна сказаўшы:

— Мамачка, я таксама хачу есці. Мы хутка будзем палуднаваць?

— Зараз, Федзечка, зараз, маё сонейка. Я толькі па вадзіцу схаджу, — адказала маці і прыхіліла малога да сябе, пацалавала ў выбеленую сонейкам галаву і ўстала. Падняла рукі да верхняй паліцы і пачала поркацца ў палатнянай торбе. Дастала з яе кубак і накіравалася да купэ праваднікоў. Прынесла кіпень, які выкручваў баранкі пары і на нейкі момант забавіў хлопчыка. Федзька разглядаў пару, а маці збірала на стол харч. Палажыла пяць бульбін у лушпінні, соль у карабку, у якім калісьці былі сярнічкі, некалькі лустачак тонка нарэзанага сыру.

Жанчына ўзяла ў рукі бульбіну і пачала з яе здымаць «адзенне». Рухі яе былі вытанчаныя і дакладныя. Праз некалькі хвілін яна працягнула «распрануты» клубень сыну. Федзька асцярожна ўзяў у рукі бульбінку і, перш чым адкусіць, пасаліў. Ён вельмі далікатна адкусваў сялянскі дэлікатэс, як і жаваў. І раптам папярхнуўся і закашляў. Матуля працягнула кубак з вадой і папрасіла:

— Цішэй, Федзечка, цішэй. Прагані бульбачку вадзіцаю, мякчэй пойдзе ў страўнік, і сыр вазьмі, трывалей будзе, — сказала і працягнула жоўтую лісцінку сыра. Федзя адкусіў спярша посную сухую бульбіну, потым сыр — і зноў закашляў.

Малы душыўся клубнем, а муж з жонкай — смехам і тлустым жыццём. Я не магла больш назіраць за імі: слёзы пачалі збірацца ў вачах, і, каб не паказаць сваю бездапаможнасць, хуценька паднялася і выйшла ў тамбур. Стаяла доўга, а калі вярнулася да свайго месца, адна жанчына з хітрай усмешкай згортвала крошкі хлеба, другая ж — з суровым тварам збірала лушпінне. Ста́лы мужык сыйшоў у сваю бакавушку, раскінуў ногі, быццам варотцы загарадкі, у якой стаяла свінчо, выкаціў жывот і з задавальненнем захроп. Маленькі ж мужчынка ляжаў на верхняй паліцы, і яго сінія, быццам пралескі, вочкі глядзелі ўверх. Што ён згадваў, пра што марыў — ніхто не ведаў, і ніхто не мог даведацца, бо кожны спадарожнік быў заняты сабою. І я не спытала, не хацела перашкаджаць малому, відаць, лятаць на аблоках. Я толькі пазірала на яго і чакала, калі ён сам пачне гутарку. Не дачакалася. Федзька праз нейкі час падклаў пад шчаку руку, заснуў. Спаў соладка, і па яго вуснах блукала шчаслівая ўсмешка. Мая ж суседка па купэ і яе тоўсты муж праз некалькі прыпынкаў выйшлі з вагона, уступіўшы месца яшчэ аднаму персанажу жыццёвай п'есы — шумнай, крэатыўнай жанчыне, якая неяк неспадзявана з'явілася перада мною і пачала рассыпаць словы, што каласок спелае зерне.

— Вы не можаце сабе ўявіць, з якімі цяжкасцямі я здабыла білет на гэты цягнік. Дзякуй міліцыянеру, дапамог. Думала, што сёння не змагу выехаць з горада, з гэтага страшнага горада, — стракатала яна і пазірала на маю рэакцыю. Потым спахапілася і вымавіла:

— Прабачце, я са сваімі праблемамі нават не прывіталася. Даруйце за такую бестактоўнасць. Давайце пазнаёмімся. Клічуць мяне Аксана.

Я таксама назвала сваё імя, але без усялякай ахвоты, больш уважліва зірнула на жанчыну, якая была апранута ў касцюм няйначай як «ад куцюр». Хаця, шчыра кажучы, на ёй і лахманы б сядзелі прыгажэй, чым на брыдкай каралеве самыя дарагія ўборы.

— А вы далёка едзеце? — сядаючы насупраць мяне, спытала яна. Я маўчала.

— А ўсё ж паразіты гэтыя мужыкі, — не ўнімалася маладзіца. — Я столькі вёрст адмахала спярша на папутках, потым аўтобусамі. Прыехала, а мужа не застала. Я так хацела сюрпрызам на яго галаву зваліцца. Не атрымалася. Размінуліся. Я — сюды, а ён — дадому, відаць. Але ж штосьці мне не верыцца, а датэлефанавацца не магу — абанент не адказвае. Нячыста тут. Нячыста! Можа, якую-небудзь маладзіцу завёў ды штоночкі гушкаецца з ёю. Калі гэта так, не здабраваць яму, ой, не здабраваць. Я ж Сцёпачку прыпомню ўсё: і жонак, і каханак, і розныя гулянкі.

— А навошта вам такі муж? — не вытрымала я, каб не папракнуць. Кіньце — і канцы ў ваду.

— Добра казаць... «кіньце!», а каханне? Яно ж як маланка наляцела і запаліла маё нутро. Вы не можаце сабе ўявіць, які мой Сцяпан. Постаць, як у Апалона. Я тут не так даўно хварэла, дык ён мяне, быццам пушынку, падняў і да карэты хуткай дапамогі занёс. Хоць мне і дрэнна было, але я з задавальненнем слухала, калі доктарка гаварыла, што такіх мужыкоў сёння днём з агнём не знойдзеш. А ў вас які муж? — не ўнімалася Аксана.

**— А навошта вам такі муж? — не вытрымала я, каб не папракнуць. Кіньце — і канцы ў ваду. — Добра казаць... «кіньце!», а каханне? Яно ж як маланка наляцела і запаліла маё нутро. Вы не можаце сабе ўявіць, які мой Сцяпан. Постаць, як у Апалона. Я тут не так даўно хварэла, дык ён мяне, быццам пушынку, падняў і да карэты хуткай дапамогі занёс**

— Ніякага няма, — схлусіла я і пачала праз аконнае шкло назіраць за хмарамі, якія белымі баранчыкамі бегалі па небе.

— І ў мяне б не было, каб не мая знаходлівасць. Умець трэба абкручваць мужчын. Тыдня мне хапіла, каб Сцяпан ад сваёй жонкі збег.

— Знайшла чым ганарыцца, — перайшоўшы на «ты», папракнула жанчыну. — Разбіла сям'ю. І не сорамна?!

— Якая сям'я? Яны толькі-толькі пажаніліся. Увесь пасёлак ведаў пра іх адносіны і пра яе кавалераў. Лепш адразу разбегчыся, чым з недаверам жыць пад адным дахам. Ці я не так кажу? — засыпала мяне пытаннямі Аксана. — Затое цяпер мы з любым — бы адно цэлае. Вось, заручальны пярсцёнак нядаўна падарыў. Блішчыць, яшчэ як блішчыць! Не магу наглядзецца. Я яму ніколі не здраджу, — клялася Аксана якраз у той момант, калі ля нас спыніўся малады і прыгожы дзяцюк. Нахіліў галаву над вухам маёй расказчыцы і прашаптаў:

— Прыгажуня, а ці ёсць у цябе чым запаліць цыгарэтку?

— Ёсць, вось, — маланкава адрэагавала Аксана і працягнула хлопцу запальнічку.

— Можаце ўзяць, але на нейкі час, я ж таксама палю, — з загадкавай усмешкай, якой звычайна хочуць прывабіць да сябе кавалераў, сказала Аксана.

Хлопец узяў патрэбную рэч і накіраваўся ў тамбур. А верная жонка, якая некалькі хвілін таму клялася ў каханні да мужа, пачала скручваць з пальца заручальны пярсцёнак... Але бялюткі кружочак на загарэлай скуры не толькі выкрываў Аксанін падман, але быццам крычаў за яе на ўсё купэ: «Я замужам, я замужам!»

Ды на гэты нямы крык ніхто не зважаў увагі, акрамя мяне, бо ніхто нічога не бачыў. Сляпой ураз зрабілася і Аксана. А мо не хацела бачыць, што ў чалавека ў руцэ была свая запальнічка, а на пальцы правай рукі быў такі ж тоненькі паясок ад заручальнага пярсцёнка.

«Вось і яшчэ з'явіўся адзін герой сённяшняга падарожжа, — чамусьці падумала. — Напэўна, будзе клеіцца да Аксаны. Нездарма ж зняў пярсцёнак».

Я не памылілася. Прыгажун нечакана зноў намаляваўся перад Аксанай, падзякаваў за запальнічку і адразу накінуў на яе сетку, сплеценую з кампліментаў і прыгожых слоў. Потым спахапіўся і, як нядаўна Аксана, папрасіў прабачэння, што забыўся пазнаёміцца. Назваў сябе, спытаў, як клічуць нас.

— Я Аксана. Мая спадарожніца — Тося, — адрапартавала суседка Віктару.

Я маўчала. У мяне ж знікла ўсялякая ахвота падтрымліваць гутарку, і я ўткнула свой твар у часопіс, аднак чытаць не змагла. Байка, якую сцішаным голасам баіў Аксане чалавек, адцягвала ўвагу ад артыкула і пераконвала ў тым, што да нас падсеў балбатун-выдумшчык, а мо і аферыст-бабнік, які праз некалькі хвілін раскажа самую неверагодную жыццёвую гісторыю, а можа, папросіць грошай, а нашы імёны запіша ў свой памінальнік ды перад мужчынамі будзе хваліцца, які ён герой-палюбоўнік...

— Аксаначка... Як пачую гэтае імя, мая кроў шпарчэй па жылах бяжыць. А ў скронях звіняць, быццам там званочкі. Яны і вяртаюць мяне ў мінулае, да маёй прыгажуні Аксаны. Да маёй любай здрадніцы. Дарэчы, вы так да яе падобная. Такія ж рысы твару, усмешка, ямачкі ў шчоках. А рукі — што ў каралевы, — усё нахвальваў Віктар маю спадарожніцу.

Я адклала ўбок часопіс і зірнула на Аксану. Жанчына свяцілася. Яе танклявыя пальцы хваляваліся, перапляталіся, блыталіся, бы ніткі. Маладзіца не знала, што ёй рабіць і як рэагаваць на кампліменты. Яна ваглася, а Віктар не сціхаў:

— Аксаначка, а чаму вы маўчыце? Вам не цікава, чаму я сваю каханую назваў здрадніцай?

— Чаму ж. Вельмі. І што яна такое зрабіла? Пакрыўдзіла такога прыгажуна, відаць, тым, што пакахала іншага? — спытала жанчына.

— Яна не пакахала, мая Аксанка нарадзіла дзіця. Дзяўчынку. Маленькай ужо восем месяцаў, і па сённяшні дзень так і не прызналася, хто бацька Машы. Усё сцвярджае, што неўмалятка — мая дачушка. Я не памятаю, каб... Я ж амаль круглы год працую ў Расіі.

— Не трэба падазраваць чалавека, не высветліўшы ўсе абставіны, — заўважыла Аксана.


Фота www.from-ua.com

— Вось і высветлю. Толькі грошы вялікія трэба, каб зрабіць аналіз на ДНК. Пяцьсот даляраў, не менш.

— Казалі-мазалі.... Дарэмна будзеце такое рабіць, ой дарэмна, — не стрымалася я, каб не ўставіць свае пяць капеек. — Радуйцеся, што ваша жонка нарадзіла і ў вас ужо сапраўдная сям'я. Не крыўдзіце сваю Аксану. Гэтым учынкам вы перакрэсліце ўсё жывое і каштоўнае. За такі ганебны ўчынак яна можа вас выкінуць не толькі з кватэры, але і з сэрца свайго. А як цяжка жыць у абдымках з адзінотай.

— Я такі гарны хлопец — і буду адзін? Кіньце дурное. У мяне столькі дзяўчат, жанчын. Усе так хочуць пяшчоты, кахання. Яны ж, як смала, ліпнуць. Ды толькі на ўсіх здароўя няма.

— Так ужо і ліпнуць. Вы, мужчыны, перабольшваеце свае магчымасці, — злосна адказала я.

— А хочаце, я вам дакажу. Нават зараз, — і Віктар дастаў з кішэні запісную кніжку. Адкрыў і паднёс яе да маіх вачэй. Прыгожым почыркам былі ўпісаны прозвішчы і імёны жанчын: адрасы, нумары тэлефонаў.

— Ну, што вы на гэта скажаце? — пераможна выгукнуў Віктар.

— А гэта яшчэ не факт, — праз зубы выціснула я. — Пакуль дадзеце да канечнага прыпынку, яшчэ не з адной жанчынай ці дзяўчынай пазнаёміцеся ды іх адрасы нанізаце на шарыкавую ручку. Мне непрыемна нават сядзець побач з вамі, таварыш плаксівец, а не тое, што слухаць вашу пустую балбатню. Дзякуй богу, што хутка мой прыпынак, — сказала і паднялася. Потым павярнула галаву да Віктара і выпаліла.

— Хіба вы мужык, калі кожнаму стрэчнаму расказваеце пра жанчыну, якая, пэўна ж, кахала і кахае. Навошта?

Я гаварыла, а Віктар маўчаў, быццам вады ў рот набраў. Думаю, ён не чакаў такой развязкі і такім паваротам справы быў збіты з панталыку. Я ж у нейкай ступені засталася задаволенай. Шкада, што ўсё накіпелае не змагла выказаць. Ды і ці трэба было далей псаваць сабе настрой і з кіслым тварам з'яўляцца перад сястрой, у якой і без мяне хапае турбот?

Не развітваючыся, я халодна-калюча зірнула на сваіх спадарожнікаў і пакрочыла да выхаду, каб праз колькі хвілін не толькі пакінуць прыкрых мне людзей, але і выкінуць іх са сваёй памяці. Тым больш, што мяне ўжо сустракаў родны горад, дзе кожны ліхтар быццам бы падміргваў жоўтымі вачыма, відаць, радуючыся нашай сустрэчы.

### Дзівак з вакзала

Мужчына гадоў сарака, а мо і трошкі больш, шпаркім крокам зайшоў у памяшканне, дзе знаходзіліся прыгарадныя касы. Ён адразу на сябе звярнуў увагу не чыста-сакавітай беларускай мовай і аксамітава-саладкаватым голасам, а хутчэй за ўсё вычварным «касцюмам». Зрэшты, тое, што хавала яго худыя ногі, пакрытыя шчаціннем, якое выгарала пад спякотным для гэтага года сонцам, нельга было назваць адзеннем: падраныя кашулі, а іх было, відаць, штук пяць-шэсць, абхоплівалі сцёгны, вылазілі адна з-пад адной, а іх рукавы, якія былі завязаны на жываце, утваралі гузакі, тырчэлі напярэдзе, быццам бы нарывы. Спадняга ў яго не было.

Грудзі з рэбрамі-граблямі хаваліся пад кашуляй, зашпіленай на адзін гузік. Галаву дзівак накрыў анучкай, якая была калісьці, відаць, хусцінкай белага колеру. Каб кавалак матэрыі не зваліўся, чалавек абвязаў яе вяровачкай.

У адной руцэ былі дзве торбачкі з пажыткамі, у другой — кіёчак, на канцы якога матухна-прырода вылепіла нейкага дзіўнага звярка; яго да бляску адшліфавалі ахайныя рукі з доўгімі, быццам у музыкі, пальцамі, якімі дзівак раз-пораз дакранаўся да шчок, ілба. А вось вочы, блакітна-шэрыя, ліхаманкава «стралялі» па жанчынах, якія з цікаўнасцю назіралі за ім. Чалавек гэта адчуў, і таму пачаў актыўней «працаваць» на публіку: чытаць на памяць вершы рускіх і беларускіх класікаў. Рабіў гэта з такім замілаваннем, з такім акцёрскім майстэрствам, пагладжваючы шыкоўную сівую бараду, што можна было толькі пазайздросціць. А то і спяваў, у асноўным песні 80-х, і вельмі добра. Калі адну з іх даспяваў да канца, падышоў да кáсы і працягнуў грошы. Назваў выразна станцыю, на якой меўся выйсці з электрычкі, узяў рэшту і вельмі міла ўсміхнуўся касірцы. І маё падазрэнне, што спадарожнік бомж ці псіхічна хворы, развеялася.

Ад касы да лаўкі пасажыр не ішоў, а з прытупам набліжаўся. Прысеў. Закасаў рукаў і амаль крыкнуў:

— А мяне нават наркотыкі не бяруць. Вось зірніце...

І я зірнула, бо сядзела не вельмі далёка ад незнаёмца. На жылістай руцэ не было слядоў ад уколаў.

«І навошта на сябе такое нагаворваць, — падумала. — Лепш далей бы спяваў ды тымі спевамі вяртаў у юнацкія гады». Але чалавек больш не зацягваў рамансы, а пачаў абурацца на сваіх суайчыннікаў, якія не любяць беларускую мову, не хочуць на ёй размаўляць, як і не ведаюць сваіх каранёў. А як ён усхваляў жанчын (напэўна, што ў памяшканні былі адны кабеты)! Мужчына гаварыў, што жанчыны яго абагаўляюць, узносяць, узбагачаюць, бо ў іх найтанчэйшыя душы і добрыя сэрцы.

Амаль гадзіну мы вывучалі яго паводзіны, назіралі тонкую гульню акцёра.

«Толькі навошта ён ломіць камедыю», — міжволі прабегла думка. — Навошта? Мабыць, ужываецца ў новую ролю. Трэба зрабіць на памяць фотаздымак». І, гледзячы яму ў вочы, пачала расшпільваць сумку, каб дастаць фотаапарат. Не паспела зрабіць і рух, як чалавек падхапіўся і на ўсю залу крыкнуў: «Папарацы!»

— Ага, значыць, ты не дурны, калі ведаеш, што такое папарацы, — ціха сказала. Але крык усё ж спыніў мяне, а намеры прымусілі пасажыра больш пільна пазіраць у мой бок і глядзець — вочы ў вочы. Напэўна, ад такога пільнага погляду мяне разабраў смех, які так і рассыпаўся, што пясок-цукар па падлозе, растварыўся ад гарачыні і салодкім водарам напаўняў памяшканне. Думаю, смяшынак нахапаўся і наш дзівак, які стварыў вобраз дурня і, як малое дзіця, стаў яшчэ актыўней весяліць публіку. Пацешыўшы пасажыраў (але як мне здалося — больш сябе), ён пакінуў залу. Перш чым зачыніць дзверы, "акцёр" шматзначна зірнуў на мяне, быццам спытаў:

«Ну, як я табе?».

Замест адказу я ўсміхнулася. А праз некалькі хвілін так-сама накіравалася да выхаду — аб'явілі пасадку. Да вагона ішла марудна, і раптам адчула чыйсьці позірк. Азірнулася. Мяне свідравалі вясёлыя вочы нядаўняга суседа па лаўцы. І я пачула:

**Умець трэба абкручваць мужчын. Тыдня мне хапіла, каб Сцяпан ад сваёй жонкі збег. — Знайшла чым ганарыцца, — перайшоўшы на «ты», папракнула жанчыну. — Разбіла сям'ю. І не сорамна?! — Якая сям'я? Яны толькі-толькі пажаніліся. Увесь пасёлак ведаў пра іх адносіны і пра яе кавалераў**

— Мо вам дапамагчы? Тады пачакайце. Я падыду і ўскулю ваш хатуль у электрычку.

— Дзякую. Не трэба. Сумка ў мяне лёгкая, хоць з выгляду груваcткая, — строга адказала і пакрочыла далей. Падышла да вагона, падняла сваю паклажу і паставіла спярша на адну, потым на другую прыступку.

— Аднак вы ганарлівая і дужая жанчына, — пачулася збоку, — але ж і нейкая дзіўная: адмовілася ад дапамогі.

Я прамаўчала, толькі падумала: «Цікава, хто з нас больш дзівак...». Хоць праз некалькі хвілін пашкадавала, што адмовілася ад дапамогі чалавека, які такім чынам хацеў наладзіць кантакт. І я б даведалася пра яго... Тым больш, што падарожнік уладкаваўся ў вагоне, у якім была і я. Ды толькі было позна.

Як кажуць, цягнік адышоў...



# Родны кут — свячоная радзіма



Мікола ГІЛЬ

***

*Тры дубы над лецішчам маім,*
*Корань тут пусцілі з маіх рук.*
*Два сыны — Мікола і Максім,*
*Трэці Ян — адзіны мой унук.*

*Часам аж не верыцца мне ўжо,*
*Што пасаджаны калісьці мной:*
*Голле развінулі на ўсе сто,*
*Неба падпіраюць галавой!*

*Сведкі хуткаплыннасці яны*
*Часу, што імчыць, бы сам не свой:*
*Вунь — сівыя мужыкі сыны,*
*Ды і ўнук — даўно не хлопчык-бой.*

*Выйду ў сад — шумяць мае дубы,*
*Шырака раскінуўшы шацёр.*
*Хай ідуць, імчаць, ляцяць гады —*
*Будуць сведчыць: я яшчэ не ўмёр!*

**11.02.2018**

***

*Помніцца, канечне, і благое,*
*Добрае, аднак, усё-ткі лепш.*
*Штосьці добрае, амаль святое,*
*Просіцца з душы й цяпер у верш.*
*Ну а што яно, дык і не знаю,*
*Толькі адчуваю ўсім нутром,*
*Як мяне маркота пакідае,*
*Як вакол святлее ўсё суздром...*

**12.02.2018**

***

*Чуюць, чуюць вароны вясну,*
*Мітусяцца — шукаюць пару,*
*Зразумела тут і няздару —*
*Чуюць, чуюць вароны вясну!*
*Карацее ноч — час ахвяраў,*
*Мкне жывое насустрач дню, —*
*Чуюць, чуюць вароны вясну,*
*Мітусяцца — шукаюць пару...*

***

*Нудзяцца доўгай зімой бабулі*
*У клетках сынавых усіх Чыжовак, —*
*Жывуць чаканнем клапот вясновых*
*У вырай гнаныя птушкі-бабулі.*
*Колькі джоўляў нэндзы крыжовай*
*За час зімовы скукуюць зязюлі?*
*Нудзяцца доўгай зімой бабулі*
*У клетках сынавых усіх*
*Чыжовак...*

**13.02.2018**

***

*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю,*
*Няма ні першага, ні другога*
*З часу шчаслівага, маладога, —*
*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю.*
*Вось боль і горыч жыцця старога:*
*Вакол — пустэча, без меж, без краю, —*
*Каго ні ўспомню, каго ні згадаю —*
*Няма ні першага, ні другога.*

***

*Амаль раслінным я жыву жыццём —*
*Паем ды і сяджу, бы ў задуменні,*
*Мяне ўжо не бярэ і недаўменне,*
*Што вось жыву раслінным я жыццём.*
*І не відаць ніякага збавення —*
*Дыктуе гэткі лёс само быццё.*
*Амаль раслінным я жыву жыццём —*
*Паем ды і сяджу, бы ў задуменні...*

**14.02.2018**

***

*Каторы дзень ідзе-гудзе гульня*
*Па ўсёй краіне — выбары ў саветы...*
*Ніхто не бачыць сэнсу ў ёй і мэты,*
*Ды ўсё ж ідзе-гудзе ва-ўсю гульня!*
*Таўчэцца зноўку фарс-спектакаль гэты,*
*Каб спрэс была стабільнасць, цішыня, —*
*Каторы дзень ідзе-гудзе гульня*
*Па ўсёй краіне — выбары ў саветы...*

**15.02.2018**

***

*Родны кут — свячоная радзіма,*
*Грэх яго радзімай зваць малой.*
*Матчынна-бацькоўскі, помны, свой*
*Родны кут — свячоная радзіма!*
*Ён не нейчы і не ўсіхны — твой,*
*У цалюткім свеце ён — адзіны,*
*Родны кут — свячоная радзіма,*
*Грэх яго радзімай зваць малой!*

**17.02.2018**

***

*Жыву я, бы ў чужой краіне:*
*Свайго — ні гуку, ніадкуль.*
*Адсюль чужое і адтуль —*
*Жыву я, бы ў чужой краіне.*
*Нянаскае гучыць паўсюль, —*
*І хоць бы знак, што з часам знікне,*
*І ўжо душа ў адчаі нікне, —*
*Свайго — ні гуку, ніадкуль...*

**25.02.2018**

***

*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету,*
*Ды нямногіх зберагла памяць*
*Праз нялічаных гадоў замець, —*
*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету.*
*Горка мне і вусцішна цяміць,*
*Што не будзе і па мне следу...*
*Цьмы цьмушчыя канулі ў лету,*
*Ды нямногіх зберагла памяць.*

**26.02.2018**

***

*Вясне — усё жывое рада.*
*Усё ірвецца да жыцця*
*Са сну паўстаўшы, з небыцця, —*
*Вясне — усё жывое рада!*
*Прыроды й чалавек дзіця,*
*І ўдзельнік весняга параду, —*
*Вясне — усё жывое рада,*
*Усё ірвецца да жыцця!*

**1.03.2018**

***

*Вясна, і ты ўжо мала цешыш —*
*Жаданні зглухлі, згаслі мроі,*
*Штодня ў мінорным я настроі, —*
*Вясна, і ты ўжо мала цешыш.*
*Бяда душу і сэрца кроіць,*
*Але каму іх разнасцежыш?..*
*Вясна, і ты ўжо мала цешыш —*
*Жаданні зглухлі, згаслі мроі.*

**7.03.2018**

***

*Старыя фільмы — сведкі прошласці,*
*Глядзець іх сумна і — цікава.*
*Не ўбогія кіназабавы*
*Старыя фільмы — сведкі прошласці.*
*Жыцця рэальнага праявы,*
*Дзе было шмат хлусні і жорсткасці,*
*Старыя фільмы — сведкі прошласці, —*
*Глядзець іх сумна і — цікава.*

**9.03.2018**

***

*Не сны ўначы — адны кашмары,*
*Хоць тут наогул не лягай,*
*Ад ложка мулкага ўцякай, —*
*Не сны ўначы — адны кашмары.*
*Сцяной каменнай — небакрай,*
*Свінцом атрутным — зверху хмары,*
*І ўдзень не ява — спрэс кашмары, —*
*Хоць ты сябе жыўцом хавай.*

**10.03.2018**

***

*Чым больш жыву, тым больш сумненняў*
*Адносна вартасці жыцця:*
*Усе рэаліі быцця*
*Крычаць аб марнасці імгненняў!*
*Даляр — паходня развіцця,*
*Прагрэс — шлях да самазнішчэння,*
*Сама Зямля нэкст пакаленням*
*Ці будзе здатна для жыцця?*

**19.03.2018**

***

*І хоць усё яшчэ марозік*
*Начамі цісне (больш па звычцы),*
*Ды сонца ўжо — на летняй вышцы:*
*Ў калясцы грэецца курносік!*
*Я сонцу, нібы добрай кніжцы,*
*Таксама рады — жывіць крозы,*
*Хаця усё яшчэ марозік*
*Начамі цісне (больш па звычцы)...*

**20.03.2018**

***

*Чые ўзяў гены, чалавеча,*
*Такім і твой складзецца лёс,*
*І калі чымсь цябе абнёс,*
*Дык не шукай віны ў тым нечай.*
*Я й не шукаю, бо наўпрост*
*Мне бацькаў лёс-нядоля сведчыць:*
*Чые ўзяў гены, чалавеча,*
*Такім і твой складзецца лёс.*

***

*Ах, людзі, вас вакол — мільёны,*
*І быццам розныя ўсе вельмі, —*
*Чаму ж між вас так многа шэльмаў*
*І толькі рэдка хто — анёлы?*
*Няшмат ахвотных узяць кельмы*
*І будаваць наш дом саснёны,*
*Які ахоўвалі б анёлы, —*
*Мо ўсё-ткі меней было б шэльмаў?*

**23.03.2018**

***

*Калісьці белага ваўка*
*Пабачыў я між зграі шэрых...*
*Сягоння згадка апякла, —*
*Шкада чамусь мне стала звера:*
*Ён пачуваўся між сваіх*
*Бадай, чужым, мо і самотным...*
*Не між сваіх, а між чужых*
*Жыву выгнанцам я маркотным...*

**24.03.2018**

***

*Дзянёк «святы яшчэ ад рання»...*
*О так, святы! Сто год прабегла*
*З Дня нараджэння, з Дня світання,*
*З Дня, Беларусь калі ўваскрэсла!*
*Выходжу. Двор — у сонца бляску,*
*Ды без святочнага гамону,*
*Ёсць чорны шэраг аўтазакаў,*
*Ёсць шчыльныя шыхты АМОНу...*

**25.03.2018**

***

*Народ, адкуль тваё праклянне*
*І доля — знікнуць з мапы свету?*
*Ні Касінера, ні Паэта*
*Не ўчуў — к табе не дагукацца!*
*Ты, зрокшыся высокай мэты*
*Паўстаць народам, людзьмі звацца, —*
*Навёў сам на сябе праклянне*
*І выбраў долю — кануць ў Лету...*

**26.03.2018**

***

*«Сынок, ніколі не хвалі сябе!*
*Няхай цябе пахваляць людзі!»*
*Я так і жыў — у свята й будзень:*
*«Сынок, ніколі не хвалі сябе!»*
*Гады ж — без подкупу спрэс суддзі! —*
*Ішлі ў дакорах больш, чым пахвальбе,*
*Але я помню: «Не хвалі сябе!*
*Няхай цябе пахваляць людзі!»*

**2.04.2018**

# «Паставіў клічнік...»

## (Студэнцкае пісьмо Алега Лойкі 1949 года)

**Пісьменнік, перакладчык, літаратуразнавец, доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Алег Лойка (1931–2008) быў родам са Слоніма. Там прайшло яго маленства, там ён і дажываў свае апошнія гады ў доме на Віленскай вуліцы.**



Восенню 1948 года Алег Лойка паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Гэта былі пасляваенныя няпростыя гады. Але гэта быў і час самага шырокага наплыву ў інстытуты Мінска моладзі з былой Заходняй Беларусі. Менавіта студэнцкія гады, інтэрнат упершыню прымусілі юнака з заходнебеларускага горада Слоніма сур'ёзна задумацца над жыццём, над стаўленнем да чалавека, да свайго часу.

Алег Лойка пачаў пісаць вершы са школы. Першыя паэтычныя творы з'явіліся ў 1943 годзе ў «Баранавіцкай газэце». Спрабаваў ён іх пісаць і ў студэнцкія гады, але без вялікага поспеху. Сяды-тады заходзіў пачатковец у рэдакцыі газет і часопісаў. І хоць не друкаваўся, але непрыкметна набіраўся пэўнага вопыту, дзякуючы перш за ўсё шчырым, клапатлівым адносінам літаратараў Міколы Аўрамчыка і Сяргея Дзяргая. А ў 1959 годзе слонімец выдае свой першы паэтычны зборнік «На юначым шляху».

Родная сястра Алега Лойкі Людміла Антонаўна Клімовіч, якая жыве ў Слоніме на Зялёнай вуліцы, пазнаёміла мяне з адным з першых студэнцкіх пісьмаў Алега Лойкі, датаваным 27 лютага 1949 года. Юнак толькі тры тыдні адвучыўся ў Мінску. І напісаў бацькам у Слонім свой першы ліст. Пачытаем яго. Пісьмо пачынаецца з верша:

*Добры дзень, каханыя,*
*Хата пажаданая,*
*Хлеўчыкі, садок —*
*Ўсё! Нат халадок,*
*Што царыць ля печкі*
*І не грэе плечкі*
*Ні маме, ні Люсі,*
*І сягоння мусіць!*
*Жыў, здароў, і Вам чаго*
*Арганізм жадае мой,*
*Ўсім прыветы да таго*
*Я кладу сюды ў пісьмо,*
*Плюс шчэ пацалункі*
*Шлю пісьма я клункам*
*Вам усім, каханыя!*
*Далей прозаю пішу,*
*Бо сказаць кой-што спяшу,*
*А іменна...*

Далей юнак са Слоніма апісвае сваё студэнцкае жыццё, як ён кажа, прозаю. А піша ён з гумарам; быў, відаць, у добрым настроі. Вось што ён піша: «Тры тыдні прайшлі, як я тут. Ніякіх цяжкасцей няма. Усё — норма. Стыпендыю — ура! — атрымаў! І... павышаную. Вылічылі за інтэрнат 90 руб. і яшчэ там на нейкія дробязі, і на рукі атрымаў 257 руб. Так што грашыма забяспечаны да новай стыпендыі. Сёння ў мяне на руках 200 руб. з капейкамі, за тое забяспечыў сябе ўсім неабходным і купіў аўтаручку, ножык, шчотку, гуталін да ботаў, шнуркі, сшыткаў, паштовак... Ну і яшчэ тое-сёе, успамінаю. Хлеб купляў, купляў лапшу, варыў. Сёння, як яго... ккхххх... не магу ўспомніць... ну... гэтага... а! Балерона — наканец успомніў — прыконочыў: засталіся рожкі ды ножкі! Цыбуля, як гэта кажуць, канула ў ваду, але не ў ваду. А ў нешта больш паважнае, благачасцівае, ўзвышанае — у гэтае, значыць, маё, так сказаць, хайло, а па-медыцынску — поласць рота, глотка, стрававец, кішэчнік, дванаццаціперсную... баюся пералічваць, бо яшчэ дабяруся... кропка! (А паставіў клічнік — от махляр!) І так, капут балерррон (а смачны быў, ей Богу, капут і цыбуля). І сала ўжо мала. Хопіць да канца гэтага тыдня. На пасылку не спадзяюся. Думаю, сам глянуць праз тыдзень-другі дахаты за падсілкаваннем. Мама! Вы мне прыгатуйце альбо кг масла, альбо шмальцу. Больш не трэба. Апошняе — здагадаецеся і ведаеце лепш самі мяне. Мука ў мяне яшчэ ёсць — палавіна ўзятай. Зубы свае балючыя я вылечыў, ляжаць «пробныя» пломбы, на днях угняздзяцца і сапраўдныя. Штаны ў мяне — красата, любата, захапленне, і канты яшчэ трымаюцца, во! Што ж яшчэ?! Ну, сёння я дзяжурны ў пакоі, і парадак добранькі. Наогул, усё ідзе добранька. Вам жадаю і, кахаючым Вас, застаюся — Алег.

Шлю табе, Люсёнак (маецца на ўвазе сястра Алега Лойкі Людміла. — С. Ч.), паштоўку. Напішы. Ці спадабалася і яшчэ што-небудзь. Прывет! Прывет! Прывет! Пацалункі! Лёлек-студэнт».

...Вось такі быў першы ліст студэнта Алега Лойкі ў Слонім да бацькоў. Ён вельмі добра адлюстроўвае той пасляваенны час, калі некаму пашанцавала быць студэнтамі.

**Сяргей Чыгрын**

# Беларусі купель

Алег ЛОЙКА

### Беларускае

*Беларусь дарагая —*
*Прожылкі сцяжын,*
*Гасцінец да небакраю*
*Дзівасілу, ажын,*

*Чырвань ружаў балючых,*
*Свойскіх палотнаў бель,*
*Шэпт крыніц неўміручых —*
*Беларусі купель.*

*Бароў векуістых пагоркі,*
*Сплаканых бяроз,*
*На вуснах — прысмак горкі*
*Ад неўміручых слёз,*

*Вясельны блакіт у келіхах*
*Ледніковых азёр,*
*І заклёны ад ліха*
*Пад дрыжаннем зор,*

*Маладзікі і ветах,*
*Млечнага Шляху кайма*
*І канец свету,*
*Канца якому няма.*

### Пра шчырасць і смеласць

*Шчыры заўсёды смелы.*
**Ул. Рубанаў**

*Слову ляцець у вырай,*
*(Твар стаў бялей мелу), —*
*Я — смелы, бо я — шчыры,*
*Я шчыры, бо я — смелы.*

*Шчыры, ці спёка ці лівень,*
*Як мова наша і песня,*
*Шчаслівы ці нешчаслівы,*
*Я — хлеб-соль каля весніц;*

*Самотны ці на трыбуне,*
*Гарэзлівы ці смутны,*
*Ці крыўда сэрца струніць,*
*Ці вір цягне каламутны,*
*Ці ў невымоўным горы,*
*Ці ў маўклівай слязіне,*
*Пакорны ці ў непакоры,*
*Я шчыры пад небам сінім.*

*Ды толькі... О, Божа, о, Неба,*
*Дзе, над якім йшчэ вірам*
*Быць вельмі смелым трэба,*
*Каб мілаваць край свой шчыра?!.*

***

*Нам не забыцца таго,*
*Нам не пазбыцца таго*
*З-пад чырвоных сцягоў*
*Без святых і Багоў.*

*Вось яно і вісіць*
*Над беднаю галавой*
*Пра нешта не марыць, не сніць,*
*Мне шэрых дзён сувой,*

*Запыняе рух,*
*Натхнення, сіл не стае:*
*Мінулага прах і пух*
*Уваскрасаць не дае.*

***

*Я ў бітвах не забіты,*
*Не сню я саракі,*
*Я — валуном забытым*
*Ля бурнае ракі.*

*Ёй плыні не мучу я*
*Ні поўднем, ні ўначы,*
*Імшэючы, маўчу я,*
*Маўчу, нібы сплючы,*

*Ды чую, хоць каменны,*
*Ды бачу: віры, та́мы,*
*Вадаспады ў пене,*
*Рык хваляў самы, самы,*

*Ды я зусім не ў скрусе,*
*І не ў жалобнай раме, —*
*Яшчэ я заіскруся,*
*Бо не без іскраў камень!..*

### Наўзбоч, небыліцы!..

*Наўзбоч, небыліцы*
*Ілжы і лухты!*
*О, маці-сталіцу*
*Ўважце, браты!*
*З бальзамаў крывавы*
*Хай чорны дасхне*
*Ў праклятай дзяржавы*
*Брацкай труне.*

*І хопіць прастору*
*Яму між магіл*
*Ахвяраў тэрору,*
*Што быў яму міл.*

*Досць слепнуць, маліцца,*
*Нібыта краты;*
*Маўзалей — не капліца,*
*Ён — не святы.*

*Такое ж — не позна*
*Між родных сцягоў:*
*Расіі бярозы*
*Мо ждуць і яго,*

*Хай і зажурыцца*
*Крыж каля труны,*
*Даруе зямліца,*
*Адзводзяць званы.*

### Сябрам

*Адкуль вы, непагадзь, беды,*
*Завыванні вятроў?..*
*Я не магу без бяседы,*
*Я не магу без сяброў!..*

*Мне вятрыска — не сябар,*
*Не сяброўка слата,*
*Піліпаўкі чорны табар,*
*Цемрадзі глухата, —*

*Не ім жа мая сасонка*
*Цягне галінкі страсе,*
*Чакаючы гамонкі*
*Аб праўдзе, любові, красе,*

*І, быццам рукою, здыме*
*Непагадзяў кілім,*
*Прагная долі Радзіме,*
*Свету ўсяму і ўсім...*

*Дык дзе ж вы, сябры-непаседы*
*З блізкіх і дальніх бароў?..*
*Цяжка мне без бяседаў,*
*Пакутліва без сяброў!..*

### Даражэюць тэлефоны...

*Свет няўмольна прэ ў адхоны —*
*Ніўы, сенажаць, лясы, —*
*Даражэюць тэлефоны,*
*Даражэюць галасы,*

*Ды не выбарчыя, — маці,*
*Што не толькі сцеле лён,*
*А ў аграрнадумнай хаце*
*Абнавіла тэлефон.*

*Са сталічнаю дачкою*
*Гаварыць ёй, гаварыць,*
*Толькі ж... На́ табе такое —*
*Белым полымем гарыць:*

*Здаражэў званок дашчэнту...*
*І каго, за што вініць?..*
*Дарагому прэзідэнту*
*Трэба, трэба пазваніць!..*

### Шарае прагну гадзіны...

*Прагну не жартаў і глуму,*
*Можа, такі ўжо адзіны,*
*Брату, і свату, і куму*
*Шарае прагну гадзіны:*

*Цішыні кутавое*
*Дзедавай мілай хаты,*
*Вечару, што ў сувоі*
*Песняў, і казак багаты.*

*Чым распачаць вячэру,*
*У дзеда я не пытаю,*
*Думцы яго веру,*
*Кленічаў не вітаю,*

*Аднак жа гатовы і хорам,*
*І шарай гадзіны вечам*
*Рэкламаў ілжу і сорам*
*Усіх вакзалаў развенчваць!..*

### Адступіцеся, цары і каралі!..

***«Толькі закаханы мае права называцца чалавекам».***
***Аляксандр Блок***

*Адступіцеся, цары і каралі,*
*Прынцы, князі, фюрэры і ханы, —*
*Чалавекам на бязлюднае зямлі*
*Можа быць адно, хто закаханы!..*

*Жаль, не я прамовіў гэта, Блок,*
*Ды ягоным эпігонам быць я згодзен*
*Між маланкавых, грымотлівых аблок*
*І між мудрасці, што тоіцца*
*ў народзе,*

*Бо на свеце ні зубром, ні матыльком*
*Быць ніколі не жадаў я, не жадаю*
*І глыбнаю найгарчэйшы ком,*
*Калі лёс мяне ў нянавісць закідае,*

*Згубнай — ёй Шлях Млечны не любіць,*
*Не ўслаўляць натхнёныя сакрэты, —*
*Закаханым чалавекам быць мне, быць,*
*Як былі дагэтуль ўсе паэты!..*

# Пошук незвычайнага ў звычайным

## (Малая проза Сяргея Рублеўскага)

**Проза віцебскага літаратара Сяргея Рублеўскага — з'ява адметная, шматстайная, рознажанравая, яна даўно ўжо выйшла за рэгіянальныя граніцы, вызначаецца сваёй філасофіяй, актыўнымі наватарскімі пошукамі, арганічна ўліваецца ў сучасны літаратурны працэс і дапаўняе яго.**


Фота www.livelib.ru

Першая кніга пісьменніка мела назву «Апостраф» (тэксты аб праявах быцця). Апостраф — надрадковы знак у выглядзе коскі, які ў беларускай мове аналагічны цвёрдаму і мяккаму знакам у рускай мове. Сам аўтар патлумачыў назву кнігі ў творы, змешчаным напрыканцы пад аналагічнай назвай. «Апостраф — беларуская паўза ў сусветным Логасе», «Апостраф — імгненне паміж уздыхам і выдыхам, час, які, як мушка ў бурштыне, застыў паміж ваганнямі ківача». Сапраўды, апостраф — гэта паўза, невялікі перапынак, што дае магчымасць спыніць рух, азірнуцца назад, больш пільна ўгледзецца ў звыклае і, на першы погляд, добра знаёмае, над чымсьці задумацца і паразважаць. Гэта своеасаблівы позірк на жыццё, аб'ектыўны пункт гледжання. Змест кнігі цалкам адпавядае арыгінальнай назве.

Зборнік складаецца, у асноўным, з невялікіх твораў, якія можна вызначыць як лірычныя мініяцюры ці абразкі на патрыятычную тэму («Мамін шэпт пад абразамі»). Некаторыя больш упадабляюцца навеле («Сляпыя словы пра незваротна страчаны і нанова абяцаны рай», «Час зацемкаў...»). У кожным творы, у кожным радку праступае новы погляд на стары свет, адчуваецца аўтарскае светабачанне і ўласная філасофія.

Арыгінальнай назвай вызначаецца і наступная кніга празаіка — «Азярод». Атрымаўся багаты рознакаляровы плот з цікавымі апавяданнямі («Амар», «Хірургі»), дакладнымі назіраннямі («Хукі, як хоку», «Жвысь»), біяграфічнымі нататкамі («Чысціня ў чырвоным куце і ў кожным куточку душы») і трапнымі афарызмамі («Жменя самасейнай цыбулі»). Пісьменік закранае ў зборніку тэмы Вялікай Айчыннай вайны, развіцця культуры і адукацыі, светлага пачуцця кахання, стасункаў чалавека і прыроды.

Назву трэцяй кнігі «Абмытыя валуны» патлумачыў сам аўтар: «Абмытыя валуны — гэта тыя, што ляжаць у рацэ, — восенню ападае ў небыццё, як аджылы ліст... Усё адно ж верыцца, што на самай быстрыні, на самай сярэдзіне наравістай плыні часу ты, не раўнуючы як той тапелец, ухопішся за саломінку вечнасці». Кніга з'яўляецца грунтоўным працягам дзвюх папярэдніх, складаецца з адной аповесці «Спавядальныя дні ў чужым горадзе», апавяданняў з цыклу «Замовы з вучнёўскага сшытка», эсэ «Піва», «Крэсла» і іншых, дзённікаў «З мамай», «Уроссып».

Адны творы ўражваюць сваёй складанасцю, нават незразумеласцю пры абмалёўцы зусім звычайных рэчаў і з'яў, іншыя — наадварот — шчырасцю і ўвагай да дэталяў. У сваіх літаратурных працах пісьменнік імкнецца раскрыць сапраўдную існасць душы беларуса, вылучыць філасофскую складніцу разнастайных праяваў чалавечага быцця.

Важнае месца ў творчай спадчыне С. Рублеўскага займаюць апавяданні, прысвечаныя розным падзеям з жыцця знаёмых і незнаёмых людзей. У іх адчуваецца і замілаванасць маленькай радзімай, і шчырыя сыноўнія пачуцці да маці і ўсіх вясковых жанчын, і цікавасць да актуальных пытанняў сучаснасці. Як правіла, арыгінальныя па змесце творы маюць нескладаны займальны сюжэт («Амар», «Два качагары», «Чорны дым у белы свет», «Ма бі-бі», «Дванаццатая ноч у Рэйнсбруку», «Смачныя цмочкі», «Смерць Ёселя»).

Нягледзячы на тое, што аўтар прыйшоў у літаратуру як паэт, замалёўкі, апавяданні, мініяцюры, эсэ з асаблівасцямі дзённікавых запісаў сталі сапраўднай вяршыняй яго творчасці. Асаблівай увагі заслугоўваюць дзённікавыя запісы аўтара («З мамай», «Уроссып» і іншыя).

Звяртае на сябе ўвагу і аўтарскі стыль: дакладнасць, дасканаласць, паэтычнасць, майстэрства мастацкай дэталі, багацце вобразнай мовы. Усё гэта дазваляе сцвярджаць, што творчасць віцебскага празаіка мае шмат агульнага са спадчынай класіка беларускай літаратуры Янкі Брыля. Абодва — лірыкі па спосабе адлюстравання рэчаіснасці, манеры пісьма; у іх творах выразна выяўляюцца адметнасці асобы, рэчы, з'явы, раскрываюцца індывідуальныя характары. Падобныя нават па назве зборнік мініяцюр Янкі Брыля «Жменя сонечных промняў» і літаратурныя запісы С. Рублеўскага «Жменя самасейнай цыбулі»...

Сяргей Рублеўскі творча самарэалізаваўся ў жанры малой прозы. Для яго самабытнага таленту характэрны асаблівая назіральнасць, вытанчанасць успрыняцця, эмацыянальная чуйнасць, увага да тонкіх зрухаў чалавечага быцця, інтэлектуальна-стылёвая далікатнасць, асацыятыўнасць мастацкага мыслення. Заслугоўвае ўвагі і мова твораў празаіка: каларытная, жывая, якая ўяўляе сінтэз уласна беларускай, іншамоўнай, нейтральнай і стылістычна абмежаванай лексікі. А самае галоўнае — празаік з'яўляецца выдатным знаўцам чалавечай душы, каларытным мастаком нашага звычайнага і незвычайнага жыцця.

**Ірына Саматой**

# Што застанецца, калі аддаць усё

**Абвяшчэнне наступнага прыпынку — гэта тое, з чаго пачынаецца раніца шарагowага мінака.**

...Паэтычная кніга Алеся Замкоўскага «Наступны прыпынак» (выдавецкая серыя Саюза беларускіх пісьменнікаў) прымусіць чытача згадваць імя аўтара шторазу, калі лагодны мужчынскі голас прамовіць на роднай мове: «Асцярожна, дзверы зачыняюцца. Наступны прыпынак...»

Таму назва зборніка — адназначна ўдалы ход. Шкада, што аўтар не быў паслядоўным у структураванні кнігі: у пачатку змясціў раздзел «У залатым акне» з рамантычна-ўзнёслымі, а часам нават празмерна сентыментальнымі вершамі пра каханне:

*Агонь тваёй пяшчотнае тугі*
*люструецца у возеры глінтвейну...*

Многіх гэтыя вершы будуць раздражняць. Але гэта падманлівае ўражанне пра паэтычны стыль А. Замкоўскага: найлепшае акурат у наступных раздзелах «Скрозь бездань сну», «Між глухіх сцяжын», дзе паэтычныя радкі — без пафаснай тэатральна-пастановачнай асады.

У першай частцы герой сумленна праходзіць усе «колы амуравага пекла»: закаханасць, недасяжнасць мары, прызнанне, фізічная блізкасць, вера ў светлую будучыню, горыч расстання... Кожнаму адценню пачуцця прысвечаны некалькі вершаў.

Калі ў некаторых радках можна ўбачыць «прывітанне» ад Адама Глобуса («не расказвай пра гэта / нават тату»), то ў творах з наступных раздзелаў — алюзію на Васіля Быкава («толькі пясок / жоўты пясочак са смакам шэрага попелу»). Аднак найбольш выразна ўсё ж чуем нарэшце голас А. Замкоўскага.

Аўтар прапаноўвае герою (самому сабе, чытачу):

*выцягні ўсё*
*што было ў табе*
*выцягні*
*і аддай*
*...аддай*
*калі ёсць чым усё гэта замяніць*

«Гэта» складаецца з аскепкаў будзённасці, ад якіх чалавек так заўзята ў пошуках прасвятлення імкнецца пазбавіцца, як ад лішняга цяжару, але без якога насамарэч папросту не існуе. Калі А. Замкоўскі прамаўляе свае вершы не як драматычны акцёр з відавочным разлікам на ўхвальныя воплескі залы, а як паэт, што заўсёды сам-насам — і з часам, і з горадам, і з каханнем, і з радзімай, калі ён ідзе за вобразам, тэмай, гучаннем, а не выбірае тэму ў якасці хатняга задання, мы бачым адметнае, непаўторнае ўсведамленне рэчаіснасці.

У самых цікавых вершах няма шчымлівых інтымных нотак, затое нашмат больш сапраўднасці. Шматзначныя сімвалы рэчаіснасці, горад з безаблічнымі атрыбутамі пазнавальнасці (бо пазнаем мы найперш не геаграфію, а сябе), штодзённая мітусня, у якой мы губляемся (бо як бы ні імкнуліся «слухаць вечнасць», усё адно «чуем выключна сябе»)...

Алесь Замкоўскі сапраўды чуе першасны сэнс сцёртых метафар, і ўводзячы іх у паэтычны кантэкст, вяртае нам нашу штодзённасць.

**Жана Капуста**

# Восеньскія фарбы зямных эцюдаў

**Да 70-годдзя паэта і выкладчыка Віктара Яраца ў кніжнай серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў выйшаў яго новы зборнік «Зямныя эцюды».**




Паэтычнае пытанне Віктара Яраца «Калі пачынаецца восень — / вада ці старэе рачная?» правакуе на адно, менш узнёслае, больш зямное: калі надыходзіць сталасць, ці старэюць вершы? Ці можна вызначыць узрост пісьменніка па тэме, стылі, лексіцы, як вызначаюць па знешніх прыкметах надыход восені?

Вершы ў кнізе лірыкі В. Яраца «Зямныя эцюды» сугучныя настальгічна-тужлівым восеньскім настроям. Самы час прыпыніцца пасярод штодзённай мітусні і разгледзець не толькі класічныя лістападаўскія фарбы, але і адшукаць у памяці важнае — насуперак падманліва-выпадковаму. Нібы праз партрэтную галерэю, паэт вядзе чытача калідорамі памяці ў раздзеле «Воблікі вёрстаў», дзе змешчаны літаратурныя прысвячэнні А. Разанаву, С. Алексіевіч, Г. Бураўкіну, Р. Барадуліну, А. Вярцінскаму, А. Жуку, Н. Гілевічу...

Праўда, заўсёды ёсць тыя, згадкі пра каго не патрабуюць адмысловай нагоды — тыя, з кім мы ніколі не развітваемся, што б нас ні раздзяляла: гады, эмоцыі, абставіны ці... смерць. Для галоўнага героя кнігі «Зямныя эцюды» гэта каханая і маці. У вершах, прысвечаных ім, ужо не скруха першых дзён страты, а глыбокая, няменная ў сваёй безвыходнасці туга, перададзеная з такой праніклівай шчырасцю, што кожны радок чытаецца як водгалас болю.

Родныя, якіх з намі ўжо няма, прыходзяць часам снамі і ўспамінамі. Мабыць, да паэтаў яны вяртаюцца вершамі, нібыта кампенсуючы незваротнасць страты. Тэма, зрэшты, небяспечная: крынальна-важнае для творцы не заўсёды адчуваецца чытачом, бо гранічная шчырасць часта падманліва ўспрымаецца як адзнака літаратурнай якасці. Аднак узважанае, а не пафасна-гучнае, разлічанае на эмацыйны водгук слова ў тых вершах В. Яраца, дзе асэнсоўваецца боль страты, выклікае павагу, уражвае сталай стрыманасцю:

*Як адна ты ў хаце смерць*
*пачула —*
*невядома мне.*
*Запяклася кроў твая, матуля,*
*на руцэ на правай і на рукаве...*

У сваіх «зямных эцюдах» аўтар сапраўды напоўніцу выкарыстоўваў палітру вясковых метафар. Карціна, створаная з такой натуралістычнай дакладнасцю, не ва ўсіх адгукнецца пазнаваннем. Для гэтага трэба памятаць вёску такой, якой памятае яе аўтар і якой ужо няма, якая засталася жыць толькі на старонках мастацкіх твораў. Таму многія вершы — сапраўды як эцюды са зніклай натуры.

...Вершы сталеюць разам з аўтарам: пачаткоўцы задаюць шмат пытанняў, сталыя паэты ведаюць, што адказаў насамрэч няма. І гэта не стома: колькі б за плячыма ні было дарог, паэт заўсёды у пачатку шляху, заўсёды гатовы «ступіць на сцежку босымі нагамі — пачуць світальны халадок травы».

**Жана Капуста**

# Бясконцая лесвіца ў неба…

**Чарговы перадзімны нумар часопіса «Дзеяслоў» пачынаецца містычным трылерам з жыцця пражскіх големаў «Д'ябал запрэжаны ў плуг» вядомага крытыка і літаратара Сяргея Дубаўца.**




Амаль рэалістычны тэкст, атулены містычным туманам аўтарскай *дадуманасці*. Не, лепш, — містыфікацыя рэальнасці. Месца, час, героі — усё абсалютна пазначана і пазнавальна беларускамоўнаму чытачу: Прага з яе велічнай гісторыяй і архітэктурай, штаб-кватэра амерыканскага Радыё Свабода, супрацоўнікі гэтай установы. Сам аўтар уводзіць сябе ў кантэкст твора, больш за тое, робіць сябе галоўным героем. Калі казаць філалагічна, то гэта маналог у дыялогу, дзе загалоўную ролю вядзе наратар. А перадусім — пошук чалавечага ў нацыянальным і нацыянальнага ў чалавечым.

*«— Ты жывеш заўсёды для таго, з кім ты жывеш, каму перадаеш энергію і хто перадае табе, — працягваў разважаць Есіп. — У гэтым сэнс жыцця. Калі ты адзін, у тваім жыцці няма сэнсу. Пакуль ты толькі пачынаеш, толькі выйшаў на дарогу і перад табой шырокі свет, ты не заўважаеш гэтага...*

*— А калі змагаешся за адраджэнне… Не, не так. Русіфікацыя — гэта ж таксама перадача энергіі? — спытаў Імбрык.*

*— Не, гэта наадварот — як забойства, як выключыць ток. У такім выпадку мы перастаем быць народам і як народ ужо не перадаем энергію, страчваем сэнс існавання.*

Безумоўна, гэта не завуаліраваная пад мастацкі тэкст адраджэнская справаздача старэйшага пакалення перад малодшым. Хутчэй, настаўленне і папярэджанне наступнікам, дзе вытлумачваюцца шараговая часовасць і пазнакі вечнага: з'яўленне, сыход, змена, эвалюцыя… Бо калі малодшы (Імбрык) пераймаецца знанасцю і вялікасцю, то старэйшы (Есіп) — значнасцю і трываласцю. Як бы між іншым у кантэксце фігуруюць і філасофскія развагі пра гармонію духоўнага і нацыянальнага як галоўнай сутнасці чалавечага жыцця.

*«Ну, каб старэйшыя скідалі маладых. Знайдзі мне такі прыклад. І каб ён быў гэткі ж піраканаўчы, як гісторыя майстра Хірама, што кіраваў будоўляй сабора цара Саламона ў Ерусаліме. Хірама забілі, і што? Храм ягоны ў выніку так і не быў дабудаваны. А ведаеш, хто яго забіў? Ягоныя ж падначаленыя, моладзь, чаляднікі. Скінулі, што называецца, з карабля гісторыі. Знайшлося трое выпадкаў, якія хацелі гвалтам дамагчыся ад майстра таемнага слова, каб самім стаць майстрамі, хоць на тое яшчэ не мелі падставаў. Не дараслі. Страшны ўзрост. Ты ўжо не вучань, ты ўмееш абчэсваць дзікі камень. Ты чаляднік. Але каб быць майстрам, трэба ўмець мысліць усім будынкам, трымаць яго ў галаве. Гэта як пісьменнік трымае ў галаве ўсю кнігу, якую піша, ці як рэдактар сайта трымае ў галаве ўвесь сайт».* У рэшце рэшт галоўныя героі дыялогу, дзе малодшы затоена-варожа ставіцца да старэйшага, падымаюцца на вядомы ў Празе Нусельскі мост самагубцаў. Гэта не метафара аўтара, гэта — сімвал пераадолення ўласнай духоўнай немачы ў самім сабе.

«Д'ябал запрэжаны ў плуг» Сяргея Дубаўца, як на маю думку, адзін з лепшых твораў сённяшняй беларускай літаратуры. Магчыма, каб ён быў у сёлетнім шорт-лісце прэміі Гедройца, то не ўзнікла б той незадаволенасці і псеўда-крытычнага вэрхалу вакол уганараваных і неўганараваных твораў і творцаў. Бо гэта якраз той тэкст, які змушае да ўдумнасці і развагі над нашым нацыянальным жыццём і чалавечым жыццём увогуле, схіляючы чытача да палемікі ў спрадвечным пошуку адказаў на пытанні, што вынікаюць з грамадскіх праяў чалавечага зямнога часу.

А вось пераважная большасць таго, што піша **Людміла Рублеўская,** можна сказаць, — па-за рэальнасцю. Вось і ў гэтай публікацыі — вершы «пра фобіі і маніі». Гэта метафарычная спроба разгадаць прыроду праміналага па яе пакінутых, ледзь заўважных блытаных слядах. Каму цікавая такая лірычна-лабараторная празорлівасць, той атрымае эстэтычнае задавальненне ад гэтых паэтычных тэкстаў.

Фэйсбучны раман, як пазначыў свой твор «Край ваўкалкаў» **Алесь Бычкоўскі,** раманам назваць можна толькі сыходзячы з сучасных дыскусій у сацыяльных электронных сетках. Хутчэй — проста нататкі, запісы, зацемкі, пазнакі часу, дзей, учынкаў і асобных людзей… Там, дзе аўтар успамінае пражытае і крэўнае, ёсць душэўнасць і літаратура, а там, дзе тэкст зводзіцца да факта альбо паказкі, ён раздражнёна расслаблее чытача, як, да прыкладу, гэты фрагмент:

*«Падслухаў размову двух, так бы мовіць, чытачоў-падпісчыкаў, працаўнікоў вытворчасці.*

*— У «Лясной газеце» папера крэпкая, мацней за туалетную, а вось у «Савецкай Беларусі» рвецца...*

*— Не кажы ты. А з «Бярэзінскай панарамы» добра самакруткі круціць. Трэба выпісаць.*

*А ў газетах тым часам спрачаюцца, чый матэрыял лепей?»*

Ну няўжо і сёння самакруткі круцяць?! Даўно не палю, і ўсё ж сумняваюся...

Вершы чалавечай скрухі і хісткай надзеі… Так можна пазначыць паэтычную нізку шаноўнага **Міколы Гіля.**

*Дзеці, унукі, праўнукі —*
*Мой ланцужок у прышласць;*
*Бацькі, дзяды і прадзеды —*
*Мой ланцужок у прошласць.*
*З прошласцю я паяднаны*
*Памяццю, духам і мовай;*
*З прышласцю ж рвуцца-парваны*
*Тры тыя самыя звёны —*
*Памяць і дух наш, і мова...*

Традыцыйна-класічная проза **Леаніда Левановіча** пра чалавечую прагу да стваральнага жыцця, пра напоўненасць крэўнага роду любоўю і чалавечнасцю. Такі аўтарскі пасыл апавядання «Белая, белая яблыня».

Вельмі блізкае — па духу ды ідэі — апавяданне «За Крывою Грываю» **Міхася Зізюка,** маладзейшага за папярэдніка на трыццаць гадоў. Калі коратка, то паднімаецца тая ж тэма: чалавек перад крыжам уласнага лёсу. Трапляючы ў трагічную сітуацыю, стары чалавек чапляецца за ўсё жывое, што скіроўвае яго выратавальны шлях па таемных слядах уласнай планіды. Усё, з кім дзяліўся сваім жыццём, працягвае яму сваю спагадлівую руку — і жывое, і мёртвае… Ну вось такое, як своеасаблівы адказ дубаўцоваму Імбрыку: *«Тады ён многа думаў, перажываў, і з перажытага вынес: беражы тое, што маеш. Няма нічога даражэйшага на свеце за сям'ю, дзяцей, радню, блізкіх сяброў, за той куточак, у якім нарадзіўся, вырас і жывеш — усё тое, што завецца радзімаю. Калі выходзіш на вуліцу і тваё сэрца цешыць старая таполя, што серабрыста-шапатлівай кронай узнеслася высока ў неба, калі ты радуешся верабі'ям, што цвыркаюць пад страхою твайго хлеўчука, лёгенька, з нейкай заміласванасцю дубцом падганяеш да хаты сваю карову, усміхаешся новаму дню, які пырскае ў вочы яркім ранішнім сонцам, ганарышся поспехамі сваіх дзяцей — ці можа быць штосьці даражэй за гэта?».* Пад такімі словамі можна і крытыку падпісацца.

Па-добраму здзіўляе, што нават вельмі сур'ёзныя людзі лічаць за лепшае лунаць у звершаваным паднеб'і, чым з усіх сіл трымацца за сярмяжную прозу жыцця… Адзін з такіх і літаратуразнаўца са Слоніма **Сяргей Чыгрын.** Вось якія строфы ён прысвячае вершам:

*Вас мала хто сёння, паверце,*
*чытае,*
*І зборнікі-хаткі у шафах пыляцца.*
*Мы вечныя ісціны там не шукаем,*
*Мы ў вершах шчаслівымі хочам*
*застацца.*
*.................................*
*О, вершы-ратункі, о,*
*вершы-адкрыцці,*
*Мы хочам з тугой назаўсёды*
*расстацца.*
*Бо там нашы лёсы, бо там нашы*
*жыцці...*
*Ды ўсе яны разам у шафах пыляцца.*

Настальгічна-біяграфічныя, а таму ўзнёсла-шчырыя і пачуццёва-эмацыйныя аповеды бялыніцкага літаратара і барда **Юры Несцярэнкі** аб'яднаныя пад агульнай назвай «Шлях ад Вялікай ночы да Вялікага дня». У іх ёсць шчымлівая памяць і жывыя моманты штодзённасці, кроў і пот жыцця, і незваротнасць зямнога чалавечага наканавання...

Не адразу заўважаеш, але спакваля разумееш, што традыцыйна-класічна стыль вершаў **Пятра Жаўняровіча** вельмі адмыслова (праўда, не скрозь) уфармаваны ў такі оруэлаўскі «наваяз» сучаснай беларускай філасофскай думкі. Працытую ўрывак з верша «Перадзімоўе»:

*Скінуўшы апошні ліст руды,*
*Дуб самотны стыне на марозе.*
*Шэранню кранутыя груды*
*Нібы стыль аўталагічнай прозы.*
*Нудная нямая далячынь*
*Пасівела ад густых аблокаў.*
*Скрыпне дзесь паўмёртвую*
*латынь*
*Журавель у вёсцы за пратокай.*
*Быццам сімулякры з каміноў*
*Візуронкі дымныя ўзлятаюць.*
*Лапікі нязвезеных ільноў*
*Пашматала скрозь трава густая.*
*Поўніцца канцэптамі тугі*
*Позні дыскурс восеньскай*
*прыроды...*

Нізка вершаў **Анатоля Івашчанкі** не губляецца ў паэтычным еўрапейскім кантэксце: вобраз сучаснага сацыяльна-актыўнага, індывідуальна-прагматычнага і пры ўсім тым духоўнага чалавека напярэдадні заўтрашніх пертурбацый жыцця… Неаднастайнасць зместу і формы, думкі і пачуцця прываблiваюць сваёй шчырай арыгінальнасцю чытацкую ўвагу да творчай сутнасці аўтара.

*я кармлю праз акно галубоў*
*дробна пашаткаваным батонам*
*я кармлю не таму што любоў*
*больш няма пакрышыць на каго*
*.......................................*
*хтосьці скажа што чэл я някепскі*
*што старанна выконваю справу*
*можа хтосьці нат вершык*
*пахваліць*
*(я ахвотна паверу усім)*

А вось у дэбютнай падборцы вершаў **Марыі Бадзей** шмат практычнай (філалагічнай) напрацоўкі для будучага творчага вопыту («І да поўні ў вадзе дапаўзае гадзюкай крыніца» ?! — занадта красвордны вобраз). Ад яе хаатычных, але схільных да гармоніі, строф на чытацкіх вуснах нярэдка застаецца помны новаайчынны смак слова:

*Ружа вятроў жартуе і пахне*
*фугаю,*
*Скрыпкі восеньскіх студняў,*
*Брагі журба.*
*Яблыкаў у траве разгубленасць*
*Слухаю.*
*Дзён малацьба.*

Вельмі насычаная замежным і архіўным зместам другая палова часопіса. Прапануюцца цудоўныя вершы **Арцюра Рэмбо** ў перакладах А. Хадановіча.

*Ні думкі ў галаве і слоў шукаць*
*дарма,*
*Ды сэрца любіць свет і ўсім*
*на свеце сябар.*
*Шчаслівы, як цыган, пакрочу,*
*бо сама*
*Прырода ў ноч вядзе,*
*як прыгажуня ў табар.*

І. Багдановіч (з уласнай прадмовай) прапануе пераклады апавяданняў **Габрыэлы Пузыні** пад агульнай назвай «Заклад на талерку вустрыцаў» (з польскай мовы). Друкуецца гутарка А. Данільчык з **Алінай Аляксеенка** пра родавы архіў, у тым ліку і літаратурны (публікуюцца вершы яе бабулі Галіны Гайлевіч). В. Жыбуль распавядае пра лёс рэпрэсаванага паэта **Сяргея Астрэйкі** (1912–1937) і рукапіс яго згубленай паэмы «Бенгалія» (фрагмент якой усё-ткі адшукаўся ў архівах ужо згаданай вышэй Г. Гайлевіч і друкуецца ў часопісе). Літаратуразнавец і крытык **Таццяна Алешка** выступае з грунтоўным артыкулам «пра вобразы Кітая ў сучаснай беларускай паэзіі». **Ігар Запрудскі,** вядомы крытык-палеміст, і на гэты раз змагаецца за сваё (за права Паўлюка Багрыма звацца нацыянальным паэтам): *«Мы жывём у постсекулярным свеце, насельнікам якога трэба абразы для пакланення. І цяпер, я думаю, што, відаць, лепш залічыць пытанне атрыбуцыі верша «Зайграй, зайграй, хлопчык малы...» да катэгорыі «вечных». Няхай «багрымаўскае» пытанне займае ганаровае месца побач з гамераўскім і шэкспіраўскім».* **Янка Запруднік,** вядомы эміграцкі гісторык і грамадскі дзеяч, у сваім артыкуле «Веруў у неўміручасць Бацькаўшчыны» цёпла і душэўна ўспамінае свае сустрэчы з пісьменнікам Барысам Сачанкам. Філосаф **Валянцін Акудовіч** працягвае публікацыю «хронікі беларускага інтэлектуала», тэкст якой будзе адным са складнікаў яго новай кнігі. **Васіль Дранько-Майсюк** падае нам своеасаблівую характарыстыку постаці пісьменніка і грамадскага дзеяча Цішкі Гартнага (Зміцера Жылуновіча). Завяршае публікацыі гэтага нумара рэцэнзія **Леаніда Галубовіча** на зборнік вершаў Усевалада Сцебуракі «Сны дарог».

Словам, як вы зразумелі, у 96-м нумары «Дзеяслова» шмат вартага чытання. Не прапусціце.

**ЛеГал**

ПРЭМІІ

## Букераўская прэмія

**Пісьменніца з Паўночнай Ірландыі Ганна Бернс стала лаўрэатам Букераўскай прэміі (Man Booker Prize) за свой раман «Milkman» («Малочнік»).**

Як пераможца прэміі Бернс атрымала чэк на 50 тысячаў даляраў.

«Малочнік» напісаны ад асобы 18-гадовай дзяўчыны. Журы асобна адзначыла «незвычайную арыгінальнасць» рамана.

56-гадовая Ганна Бернс — першы аўтар з Паўночнай Ірландыі, які атрымаў Букера. «Малочнік» — яе чацвёрты раман.

У 2017 годзе Букераўскую прэмію атрымаў амерыканскі пісьменнік Джордж Сондэрс за раман «Лінкольн у Бардо».

## «Альтэрнатыўны Нобель»

**У Стакгольмскай грамадскай бібліятэцы было абвешчана імя пераможцы літаратурнай прэміі Новай Акадэміі Швецыі.**

Сёлета Нобелеўская прэмія па літаратуры «ўзяла перапынак». Аднак група з больш чым ста шведскіх пісьменнікаў, акцёраў і журналістаў арганізавала Новую Акадэмію і ўзялася прысудзіць у гэты год прэмію, якую яны самі называюць «альтэрнатыўнай Нобелеўскай прэміяй па літаратуры».

Першая і апошняя ўладальніца гэтай узнагароды — 81-гадовая пісьменніца з Гвадэлупы Марыз Кондэ, у творах якой, па словах прэзідэнта журы Новай Акадэміі, незалежнага рэдактара і выдаўца Ан Полсан (Ann Pålsson), «спалучаюцца магія, мара, тэрор і любоў, выдумка і рэальнасць».

М. Кондэ лічыцца адной з найбольш выбітных пісьменніц Карыбскага рэгіёну. З'яўляецца аўтаркай каля дваццаці раманаў і ўладальніцай некалькіх прэстыжных літаратурных узнагарод. Была прафесарам Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку, але цяпер жыве ў Гвадэлупе і ў Францыі. У сваіх творах яна сканцэнтравана на тым, як каланіялізм змяніў свет і як пацярпелыя ад яго спрабуюць вярнуць сваю спадчыну.

Бібліятэкарка Эліс Торберн (Alice Thorburn), прэзентуючы кнігі лаўрэаткі, адзначыла, што больш за ўсё прозе Кондэ падыходзіць слова «complexity» — яна складаная, у ёй мноства герояў, дэталяў і лакацый. Тым не менш, кнігі пісьменніцы захапляюць і чытаюцца лёгка.

Марыз Кондэ запісала відэазварот для тых, хто сабраўся на цырымоніі, у якім падзякавала журы не толькі ад сябе, але і ад нешматлікіх жыхароў Гвадэлупы, для якіх гэтая ўзнагарода вельмі важная.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцы пройдзе 9 снежня, пасля чаго Новая Акадэмія будзе распушчаная.

## Ганкураўская прэмія

**Французскі пісьменнік Нікаля Мацье стаў лаўрэатам Ганкураўскай прэміі (Prix Goncourt) — самай прэстыжнай літаратурнай прэміі ў франкамоўнымі свеце.**



Узнагароду ён атрымаў за раман «Leurs enfants apres eux» («Дзеці пасля іх»). Абвяшчэнне імя пераможцы адбылося ў парыжскім рэстаране «Друан», дзе традыцыйна праходзіць урачысты абед 10-ці крытыкаў і пісьменнікаў Ганкураўскай акадэміі.

Пераможца прэміі, стоячы перад мікрафонамі ў рэстаране «Друан», сказаў: «Я правёў 18 месяцаў у адным пакоі, і я раптам стаў палохацца фараў аўтамабіля». І дадаў: «Гэтая ўзнагарода непазбежна зменіць маё жыццё. Я думаю пра майго сына Оскара. У такіх выпадках мы вяртаемся да асноў, я думаю пра сваю сям'ю, пра маіх бацькоў, пра горад, дзе я нарадзіўся, пра людзей, якіх я згадваў у кнізе...».

«Дзеці пасля іх» стаў другім раманам 40-гадовага літаратара. Назва паходзіць з біблейскай цытаты: «Ёсць іншыя, чыя памяць страчана, яны мёртвыя; <...> гэта як калі б яны ніколі не нараджаліся, а таксама іх дзеці пасля іх».

Журналістам аўтар кнігі паведаміў, што «Leurs enfants apres eux» — «гэта раман расчаравання», у ім паказана жыццё некалькіх падлеткаў, якія мараць вырвацца з будзённай рэчаіснасці, а таксама іх бацькоў. Нягледзячы на ўсе свае яркія мары, падлеткі асуджаныя існаваць у цесным жыцці сваіх бацькоў. Жаданні застаюцца нязздзейсненымі, нават прага жыць знікае...



# Чытанне літаратуры падаўжае жыццё

**Навукоўцамі былі праведзены даследаванні, у выніку якіх высветлілася, што чытанне кніг, у адрозненне ад перыядычных выданняў, істотна падаўжае чалавечае жыццё.**

У даследаванні прымалі ўдзел 3635 чалавек ва ўзросце 50 гадоў і старэй, якія ў часе эксперыменту былі падзеленыя на 3 групы. У першую ўвайшлі тыя «падыспытныя», якія сумарна чыталі ад 3,5 гадзін у тыдзень і больш. Другую групу склалі тыя, хто чытаў кнігі менш 3-х гадзін у тыдзень, а ў трэцюю ўвайшлі тыя, хто наогул ігнараваў чытанне кніг.

За чытачамі назіралі на працягу 12 гадоў. І па выніках выявілася, што сярод аматараў пачытаць мастацкую літаратуру смяротнасць была на 6% ніжэй, чым сярод тых, хто не чытаў зусім. Таксама навукоўцы высветлілі, што чытачы кніг у сярэднім пражылі на 23 месяцы больш, чым «нечытэльныя» рэспандэнты.

Навукоўцы звярнулі ўвагу, што даўгалеццю спрыяла чытанне менавіта кніг, гэта значыць мастацкай літаратуры, а не перыёдыкі. У адрозненне ад газет, кнігі забяспечваюць эмацыйнае, «глыбокае апусканне» ў матэрыял, а такая практыка павялічвае канцэнтрацыю ўвагі, пашырае слоўнікавы запас, трэніруе розум, а таксама спрыяе развіццю ўмення суперажываць.

Цяпер перад навукоўцамі паўстала пытанне: ці валодае аналагічным эфектам для чалавека чытанне электронных кніг і праслухоўванне аўдыёкніг.

# Архіў Джорджа Оруэла

**Архіў англійскага пісьменніка і публіцыста, радыёвядучага і літаратурнага крытыка Эрыка Артура Блэра, якога ўвесь свет ведае пад творчым псеўданімам — Джордж Оруэл, — гэта асабістыя дзённікі, журналісцкія і пісьменніцкія нататкі, разнастайныя фразы і цытаты з кніг.**

Нядаўна ён быў уключаны ў рэестр дакументальнай спадчыны ЮНЕСКА — спіс самых важных дакументаў свету.

Брытанскі аўтар шырока вядомы дзякуючы сваім аўтабіяграфічным аповесцям «Фунты ліха ў Парыжы і Лондане» і «Дні ў Бірме», а таксама сатырычнай аповесці «Жывёльны двор», але ў першую чаргу яго ведаюць як аўтара культавага рамана-антыўтопіі «1984». Менавіта з гэтага рамана ў сусветным лексіконе з'явіўся выраз «халодная вайна», а таксама сталі шырока вядомымі тэрміны «двухдумства», «думзлачынства», «навамоўе», «прававерны». У рамане чытачы ўпершыню прачыталі злавесныя лозунгі "Вялікі брат глядзіць на цябе" і "Вайна — гэта мір. Няведанне — гэта сіла. Свабода — гэта рабства".

Створаная ў 1949 годзе кніга стала ідэйным працягам «Жывёльнага двара» — сатыры на рэвалюцыю 1917 года ў Расійскай імперыі. У «1984» Оруэл выявіў альтэрнатыўную будучыню таталітарнага іерархічнага грамадства, якое заснавана на фізічным і духоўным рабстве, працята усеагульным страхам, нянавісцю і даносамі.

У ЮНЕСКА адзначылі, што творчая спадчына Дж. Оруэла «моцна паўплывала на развіццё чалавечай думкі ва ўсім свеце, і гэты ўплыў актуальны і сёння». На думку сусветнай арганізацыі, ні адзін сур'ёзны агляд сучасных падзей на пачатку XXI стагоддзя не абыходзіцца без згадвання Оруэла ці яго ідэй. Сын Оруэла, пісьменнік Рычард Блэр, падкрэсліў, што рашэнне ЮНЕСКА — гэта дакладнае сведчанне каштоўнасці працы бацькі.

Год таму ў Лондане за 2 дні да выбараў і 68-й гадавіны выдання кнігі прайшлі публічныя чытанні рамана «1984», у якіх прынялі ўдзел больш за 50 вядомых культурных дзеячаў Вялікабрытаніі. Масавае чытанне ў Сенат-хаўс, першым хмарачосе ангельскай сталіцы і прататыпу Міністэрства Праўды, працягвалася з 9 раніцы да 10 вечара, яго транслявалі ўсе бібліятэкі і тэатры краіны.

# Невядомыя аповеды Хэмінгуэя

**Паводле паведамлення агенцтва «Associated Press», два раней не выдадзеныя аповеды вядомага амерыканскага пісьменніка, лаўрэата Пулітцэраўскай і Нобелеўскай прэмій Эрнэста Хэмінгуэя, якія ён напісаў у сярэдзіне 1950-х, будуць апублікаваныя ў наступным годзе.**

Распарадчык літаратурнай спадчыны Хэмінгуэя Майкл Катакіс нядаўна паведаміў «Associated Press», што апавяданні «Манумент» і «Краіна індзейцаў і армія белых» увойдуць у спецыяльнае перавыданне класічнага рамана аўтара «Па кім звоніць звон». Гэтае ж выданне дапоўнілі яшчэ адным апавяданнем «Пакой у сад», які мала каму быў вядомы па-за кругам навуковай грамадскасці, перш чым амерыканскі часопіс «The Strand Magazine» апублікаваў яго сёлета.

М. Катакіс, чыя кніга «Эрнэст Хэмінгуэй: Артэфакты з жыцця» выйшла некалькі тыдняў назад, кіруе шматлікімі пасмяротнымі праектамі пісьменніка. Ён працаваў разам з сынам аўтара — Патрыкам — пры перавыданні ўспамінаў пісьменніка пра маладыя гады ў Парыжы.

Э. Хэмінгуэй напісаў пяць апавяданняў у 1956 годзе, развважаючы аб сваёй бытнасці ў якасці карэспандэнта і ўдзельніка Другой сусветнай вайны. Ён распавёў свайму выдаўцу Чарльзу Скрыбнеру-малодшаму, што гэтыя гісторыі павінны былі з'явіцца ў друку толькі пасля яго смерці, бо, на ягоную думку, яны былі «трохі шакуючыя» і апісвалі «нерэгулярныя войскі, баявыя дзеянні і людзей, якія забіваюць людзей».

Адно з тых апавяданняў, «Чорны асёл на скрыжаванні» («Black Ass at the Crossroads»), быў выдадзены шмат гадоў таму. Іншая гісторыя, «Дутая рэпутацыя», пакуль застаецца неапублікаванай.

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы novostiliteratury.ru, Newsru.ua і «Associated Press».**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 6

Пытання пра ўтварэнне Беларускай Рэспублікі ў парадку дня канферэнцыі не было. У адпаведнасці з дырэктывай ЦК РКП(б), у даклад старшыні прэзідыума Мяснікова «Бягучы момант» быў уключаны пункт «Беларуская Савецкая Рэспубліка» з прапановай абвяшчэння Заходняй вобласці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай Беларусь.

Яўхім Кіпель, які быў сведкам абвяшчэння ССРБ, наступным чынам апісваў свае ўражанні: «Мала каму ведама, як праходзіў смаленскі з'езд, на якім была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР). Гэты з'езд камуністы выстаўляюць як голас беларускага народу, а прадстаўнікоў беларускага народу на гэтым з'ездзе толькі і было 60–70 чалавек вайскоўцаў-чырвонаармейцаў ды каля 10 чалавек беларускіх эсэраў. Праўда, людзей у залі з'езду было шмат: тры, а мо і чатыры сотні, толькі невядома было, хто з іх дэлегаты, а хто госці.

Я тады вучыўся ў Смаленскай Вайсковай Школе Штабной Службы... Аднойчы камісар школы прыйшоў са спісам і выклікаў усіх тых, хто ў фармуляры быў запісаны беларусам. Такіх знайшлося чалавек дваццаць. Ён сказаў, што пойдзем абвяшчаць Беларускую Рэспубліку, і загадаў пагаліцца, наглянцаваць боты і надзець новыя гімнасцёркі. Калі ўсе былі гатовыя, нас маршам павялі ў Дом Культуры. Тут нас сустрэў Вільгельм Кнорын. Ён нас рассадзіў на прыстаўных крэслах. Як толькі мы селі, зараз жа прыйшла і другая група чырвонаармейцаў; іх таксама парассаджвалі на прыстаўных крэслах. У Смаленску тады, апрача школы штабной службы, былі яшчэ і вайсковыя курсы, на якіх вучылася 250 чалавек; з іх каля 70 былі беларусы; вось гэтых беларусаў і прывялі на з'езд.

Хутка адчынілі пасяджэнне з'езду. Прэзідыуму не выбіралі, а прынялі цэлым спісам. За старшыню прэзідыуму быў нехта з Народнага Камісарыяту Замежных Спраў. Зараз жа пасля адчынення з'езду пачаліся прывітанні. Ад беларускіх камуністаў з'езд вітаў латыш Кнорын, ад беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў дазволілі выступіць эсэрцы Палуце Бадуновай. У сваім выступленні яна запатрабавала безадкладнага зачынення з'езду як неправамоцнага.

— Беларуская Рэспубліка ўжо абвешчаная законнымі прадстаўнікамі беларускага народу. Усё, што вы тут робіце, — гэта фальш. Ніхто нас не выбіраў! — крычала Бадунова і настойвала на зачыненні.

Бадунову супакоілі: старшыня прэзідыуму прыстрашыў вывесці яе з залі, калі яна не сціхне. Найбольш спрачаўся з Бадуновай Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны). Быў момант, калі ён ледзь не падскочыў біцца да яе. Бадунова сціхла і пакінула залю.

Пасля Бадуновай з'езд вітаў паляк Юзэф Уншліхт. За ім выступаў летувіскі камуніст Смілга. Ён у сваёй прамове дзякаваў Кампартыі, што яна аднаўляе дзяржаву старажытнай Літвы, якая многа зрабіла для Маскоўскага Княства. Пасля Смілгі выступіў латышскі камуніст Бэрзін. Ён гаварыў доўга і раіў аднавіць на тэрыторыі Беларусі Крывію, бо, як ён казаў, крывічы далі пачатак не толькі беларускаму народу, а нават Маскоўскай Русі.

У часе з'езду былі перапынкі. На перапынках частавалі чаем з цукрам і бутэрбродамі. А 5-й гадзіне ўвечары приступілі да галасавання той рэзалюцыі, якую прапанаваў прэзідыум. Галасавалі ўсе прысутныя, у тым ліку і вайскоўцы. Супраць рэзалюцыі галасавалі эсэры. На гэтым з'езд і скончыўся.

На другі ж дзень пасля з'езду ўсяму гораду стала ведама, што абвешчана Беларуская Рэспубліка і што Смаленск — беларускі горад. Так выглядала і з тых картаў ды прапагандавых плакатаў, што былі парасклейваныя ўсюды на сценах. На этнаграфічных картах гарады Ярцава, Вязьма, Бранск і нават Арол уваходзілі ў склад Беларусі. На паўднёвым усходзе беларуская граніца падыходзіла да самага Мцэнску. На поўдні, на мяжы з Украінай, граніца заставалася непарушнай, а на поўначы — уся Пскоўшчына да самага мора таксама была пазначаная як беларуская тэрыторыя. Карты былі зробленыя добра, шмат у якіх месцах давалася тлумачэнне, што гэта — гістарычныя межы Літвы, а Беларусь — тая самая Літва...

Частка насельніцтва была незадаволеная з такіх зменаў, але бальшыня была вельмі радая аддзяліцца ад Расіі, бо, як яны казалі, ад Расіі ніколі дабра не мелі.

У горадзе была моцная групоўка расійскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая арганізоўвала мітынгі пратэсту супраць абвяшчэння Беларускай Рэспублікі. На гэтыя мітынгі пайшлі і беларускія эсэры, тыя, што былі на з'ездзе пры абвяшчэнні Савецкай Беларусі. Там, на камуністычным з'ездзе, яны былі супраць Савецкай Беларусі і сталі за БНР, абвешчаную на Першым Усебеларускім З'ездзе.

Паслухаўшы прамовы расійскіх эсэраў, якія ніякіх беларусаў не прызнавалі, беларускія эсэры (апазіцыйныя камуністам) пачалі разам з камуністамі выступаць супраць расійскіх эсэраў. Добра прамаўлялі супраць расійскіх эсэраў У. Фальскі, Я. Дыла, М. Маркевіч ды іншыя, толькі ім часамі не давалі гаварыць па-беларуску. Тую ж самую Бадунову, што выступала супроць камуністаў у Доме Культуры, на мітынгу на пляцы перад поштай расійцы сцягнулі з трыбуны ды яшчэ і пабілі за тое, што агітавала за Беларусь. Беларуская Рэспубліка — ці то Народная, ці то Савецкая — была для расійцаў проста крамолаю...»

Першы з'езд Кампартыі Беларусі абраў кіруючы орган: Цэнтральнае Бюро (пераважна з праціўнікаў беларускай незалежнасці), вызначыў тэрыторыю Беларусі ў межах Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай губерняў цалкам, Віцебскай губерні без частак трох паветаў, пяці паветаў Смаленскай губерні і па адным павеце з Віленскай і Сувалкаўскай губерняў.

Старшынёй Часовага работніцка-сялянскага ўрада быў зацверджаны Жылуновіч. Ва ўрад увайшлі 7 прадстаўнікоў Белнацкама і Беларускіх секцый, а таксама 9 прадстаўнікоў Паўночна-Заходняга абкама і Аблвыкамзаха — праціўнікаў беларускага руху. У ноч з 1 на 2 студзеня 1919 года быў надрукаваны «Маніхвэст Часовага работніча-селянскага Савецкага правіцяльства Беларусі», які абвяшчаў аб утварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь у складзе РСФСР. Распараджэнні Рады БНР, як было зазначана ў Маніфесце, скасоўваліся.

## Спроба пабудовы нацыянальна-камуністычнай дзяржавы ССРБ аказалася няўдалай. Як і спроба пабудаваць нацыянальна-дэмакратычную дзяржаву БНР. Але гэтыя першыя крокі былі вельмі важныя для развіцця беларускай нацыі


Год выданьня 1-шы

ВЕСТКІ

Часоваго Работніча-Селянскага Радаваго (Советского) Ураду Беларусі.

№ 1. Нядзеля 19 студзеня (января) 1919 г.

Працоўныя народ усіх краёў злучайцеся!

МАНІХВЭСТ

Часоваго Работніча-Селянскага Савецкага Правіцельства Беларусі.

Таварышы і брацьця рабочыя, бедныя селяне і чырвонаармейцы Беларусі!

У вызначаных на Першым з'ездзе КП(б)Б межах наноўтвораная беларуская дзяржава праіснавала зусім нядоўга. 16 студзеня 1919 года ЦК РКП(б) прыняў рашэнне аб перадачы РСФСР Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў. Дэлегацыі беларускіх бальшавікоў у Маскве заявілі, што паколькі гэтыя губерні не маюць агульных межаў з суседнімі краінамі, то іх можна выключыць са складу БССР і далучыць да РСФСР. У адказ на такое рашэнне Я. Дыла, У. Фальскі, Ф. Шантыр і яшчэ двое ўрадаўцаў выйшлі са складу ўрада.

У Нацыянальным архіве Беларусі захаваліся некаторыя пратаколы пасяджэнняў Цэнтральнага Бюро Кампартыі Беларусі за студзень 1919 года. З кароткіх запісаў бачна, што прыхільнікаў «беларускай ідэі» тут няма. Так, 10 студзеня па дакладзе Мяснікова, які «выказваецца супраць выдання газеты на беларускай мове», прымаецца рашэнне — Белнацкам распусціць. Газету не выдаваць.

Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што, нягледзячы на інтрыгі ворагаў беларускай дзяржаўнасці, кіраўнікі ССРБ прагнулі яе юрыдычнае афармленне. Распрацоўвалася свая схема арганізацыі вышэйшай улады — урада. Галоўны орган — Савет сацыялістычных дэпутатаў Беларусі, выканаўчы орган — Савет камісараў. Абодва Саветы мелі агульны прэзідыум. У літаратуры ёсць звесткі, што 31 студзеня 1919 года ССРБ была перайменаваная ў Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь і выйшла са складу РСФСР. Падаецца, што вызначэнне на першым месцы ў назве краіны яе сацыялістычна, а не савецкага характару закладала магчымасць для будучага супрацоўніцтва беларускіх бальшавікоў з прадстаўнікамі іншых сацыялістычных партый, папулярных у Беларусі, у першую чаргу, эсэраў і бундаўцаў.

У той жа дзень, 31 студзеня, была выдадзеная Пастанова Прэзідыума Усерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі», якая быццам бы не толькі канчаткова зацвердзіла стварэнне савецкай беларускай дзяржавы, але стала першым актам яе міжнароднага прызнання.

Разам з тым, тэкст пастановы сведчыць пра тое, што кіраўнікі РСФСР зусім не разглядалі магчымасці самастойнай дзейнасці беларускага ўрада, нават пры ўзгадненні гэтых дзеянняў з Масквой. Узгадаем гэтую пастанову:

**«ПАСТАНОВА Прэзідыума Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта**

*Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта вітае працоўныя масы Беларусі, вызваленне якой ад заняцця ўзброенымі сіламі імперыялістычных заваёўнікаў ужо амаль завершанае. Зыходзячы з прынцыпу поўнага і сапраўднага самавызначэння працоўных мас усіх краін, Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта прызнае незалежнасць Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.*

*Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта яшчэ раз пацвярджае, што факт прыналежнасці Беларусі, як і іншых краін, якія знаходзяцца ў тым жа становішчы, да старой царскай імперыі, не патрабуе ад яе ніякіх абавязацельстваў, выказвае пры гэтым цвёрдую ўпэўненасць, што толькі цяпер, на глебе прызнання поўнай свабоды самавызначэння і пераходу ўлады ў рукі працоўнага класа, ствараецца добраахвотны і непарушны саюз усіх нацый, якія насяляюць тэрыторыю былой Расійскай імперыі.*

*Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта вітае намячаемае аб'яднанне працоўных мас Беларусі з працоўным народам Літвы, цесна звязаным з імі сваім мінулым і эканамічнымі ўмовамі свайго існавання.*

*Прэзідыум Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта заяўляе пра гатоўнасць Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі аказаць усялякую дапамогу і падтрымку працоўным масам Беларусі ў іх барацьбе супраць панавання эксплуатацыі і прыгнёту і ў абароне іх свабоды і незалежнасці ад спробаў замежных заваёў.*

*Старшыня Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Я. Свярдлоў.*

*Сакратар Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта А. Енукідзэ».*

Звяртаю ўвагу на два моманты. Першы — назва беларускай дзяржавы пададзена тут зусім не так, як яна была зацверджаная на канферэнцыі-з'ездзе і ўрадам: БССР замест ССРБ. Другі — з пастановы вынікала, што незалежнасць Беларусі будзе нядоўгай, яе ў хуткім часе чакае аб'яднанне з Літвой. Да сёння даследчыкі губляюцца ў здагадках, што павінна была выказаць гэтая пастанова: схаваную іронію да выказвання волі камуністычных беларускіх дзеячаў ці адкрытую непавагу да гэтага выказвання. Далейшы ход падзей пацвердзіў, што магчымы абедзве версіі.

Нават ва ўмовах «рэвалюцыйнай законнасці», абвяшчэнне незалежнай дзяржавы на партыйным сходзе выглядала, мякка кажучы, недарэчна.

Таму 2–3 лютага 1919 года ў Мінску быў скліканы Першы Усебеларускі з'езд Саветаў з удзелам 230 дэлегатаў, які павінен быў узаконіць ССРБ. З'езд прыняў Канстытуцыю ССРБ, зацвердзіў герб і сцяг. У адпаведнасці з Асноўным законам адбыліся выбары вышэйшых органаў улады. У склад ЦВК (старшыня Мяснікоў) увайшлі 50 чалавек. У Вялікі прэзідыум ЦВК, на які ўскладаліся функцыі ўрада, не трапіла ніводнага з прыхільнікаў ідэй беларускай дзяржаўнасці.

Ад імя Усерасійскага ЦВК удзельнікаў з'езда вітаў Якаў Свярдлоў, які агучыў вышэй прыведзеную пастанову і адразу выказаў прапанову аб зліцці Беларусі і Літвы ў адну рэспубліку. У дакументах зазначана форма, у якой прапанова была агучаная, — матывам стварэння ЛітБел «з'яўляецца імкненне ЦВК засцерагчы гэтыя рэспублікі ад магчымасці праявы ў іх нацыянальна-шавіністычных памкненняў. Лічачы, што прынцыповаму абмеркаванню гэтае пытанне ў сілу сваёй яснасці падвяргаецца не можа, тав. Свярдлоў пераходзіць да разгляду тэхнікі злучэння Рэспублік».

27 лютага ў Вільні на сумесным пасяджэнні ЦВК Літоўскай і Беларускай рэспублік было пастаноўлена аб'яднаць іх у Літоўска-Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (Літбел ССР) са сталіцай у Вільні. Аб'яднаны ЦВК ЛітБел узначаліў К. Цыхоўскі, а Савет народных камісараў — В. Міцкявічус-Капсукас, які ўзначаліў і аб'яднанне беларускіх і літоўскіх бальшавікоў. Характэрна, што сярод партыйнага і савецкага кіраўніцтва ЛітБел не было ніводнага беларуса.

Спроба пабудовы нацыянальна-камуністычнай дзяржавы ў выглядзе ССРБ аказалася няўдалай. Як і спроба пабудаваць сапраўдную нацыянальна-дэмакратычную дзяржаву БНР. Разам з тым, гэтыя першыя крокі былі вельмі важныя для далейшага развіцця як беларускай нацыі, так і сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Прычына ўсіх праблем

Калі верыць кіеўскаму гісторыку Аляксандру Зінчанку, нараджальнасць ва Украіне вышэй на тых тэрыторыях, дзе не лютаваў Галадамор. Галічына, Валынь, Закарпацце, Букавіна і Крым не былі ахоплены голадам у 1930-я гады. Нежаданне нараджаць у рэгіёнах — ахвярах Галадамору ён тлумачыць псіхалагічнай траўмай, якая была выкліканая трагедыяй. Пры гэтым памяць пра Галадамор таксама адбіваецца на палітычным тонусе. Як піша Зінчанка: «Большасць украінцаў пасля траўматычнага вопыту ХХ стагоддзя запомнілі: уладзе давяраць небяспечна. Бо ўлада — гэта не інструмент у руках грамадства, а крыніца пагроз для свабоды і жыцця. Распаўсюджванне смерці падчас Галадамору і вайны прывялі да дэвальвацыі каштоўнасці чалавечага жыцця. Дэфіцыт сродкаў для выжывання — да дэградацыі маралі». Выснова Зінчанкі вельмі мінорная: «Пакуль большасць украінцаў не зробіць рэфлексію наконт уласнай траўмы мінулага — не варта чакаць імклівых пазітыўных зменаў». Праўда, як вылечыцца ад траўмы Галадамору, аўтар тэорыі не патлумачыў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. Забойства Кенэдзі — рытуал ілюмінатаў?

У 55-ю гадавіну забойства амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі актыўна агучваліся альтэрнатыўныя варыянты. Далей за ўсіх пайшоў расійскі сайт pravda.ru, які прыпісаў забойства ў Даласе… ілюмінатам — секце філасофскага і містычнага характару, блізкай па поглядах да масонаў. На след сектантаў, нібыта, указвае тое, што Кенэдзі быў каталіком, а касцёл заўсёды канфліктаваў з групоўкамі накшталт ілюмінатаў. Да таго ж смерць Кенэдзі дапамагла прыйсці да ўлады Ліндану Джонсану, які, як вядома, быў масонам. Менавіта пры Джонсане ў Захадзе пачаліся моладзевая і сексуальная рэвалюцыі, з якіх, нібыта, адбыўся занепад белай хрысціянскай заходняй культуры. Прычым само забойства было аформленае зусім як рытуал. Кенэдзі быў забіты перад масонскім храмам у Даласе — горадзе, размешчаным на 33 паралелі, як і Дамаск, Багдад, Тыбет, Нагасакі і іншыя месцы акультнай важнасці. Застаецца дадаць, што аўтар версіі — заўзяты французскі кансерватар, экстравагантнымі тэзісамі якога, падобна, зацікавіліся выключна ў Расіі.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Шарлатаны не пройдуць!

Сацыялістычны ўрад Іспаніі абвясціў «крыжовы паход» супраць альтэрнатыўнай медыцыны. Як высвятляецца, на Пірынеях назіраецца сапраўдны бум рознага кшталту «лекараў», якія карыстаюцца метадамі, не праверанымі навукай. Асабліва падабаецца іспанцам гамеапатыя, якая вырастоўвае метад лячэння малымі дозамі атруты. Гэта азначае, што актыўныя рэчывы такіх лячэбных прэпаратаў выклікаюць у людзей сімптомы, падобныя да сімптомаў хваробы, і тым самым, быццам, актывізуюць імунную сістэму і вылечваюць пацыента. Паводле апытанняў, кожны другі іспанец верыць у лекавыя магчымасці гамеапатыі. Часта такія забабоны маюць трагічны вынік. Не так даўно адзін хворы на лейкемію адмовіўся ад шпіталізацыі, паколькі вырашыў лячыцца ў нейкага шарлатана. Курс закончыўся тым, што пацыент памёр. Гэты выпадак і прымусіў улады звярнуць увагу на дадзеную сферу. Першым крокам у рамках кампаніі стане забарона выкладання альтэрнатыўнай медыцыны ва ўніверсітэтах. Таксама ўсе віды альтэрнатыўнай тэрапіі прыбяруць з усіх медычных устаноў.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. У беларусаў будзе малодшы брат?

У сям'і ўсходніх славян беларусы чамусьці традыцыйна лічацца «малодшым братам» адносна рускіх і ўкраінцаў. Для тых, хто мае на гэты конт комплексы, ёсць добрая навіна. Магчыма, бліжэйшым часам клуб усходніх славян папоўніцца яшчэ адным народам — малакольскаснейшым за беларусаў. Гаворка пра паmoраў — самабытную этнаграфічную і рэлігійную групу насельніцтва на Белым моры. На мінулым тыдні адна з груповак расійскіх дысідэнтаў заявіла, што рыхтуе запыт да ўладаў Архангельскай вобласці з мэтай арганізацыі навуковых даследаванняў сярод памораў. Прадметам даследаванняў павінна стаць пытанне, ці з'яўляюцца поморы асобным этнасам. Акрамя таго, на думку дэмакратаў, трэба правесці апытанне: ці жадаюць самі поморы афіцыйнага прызнання ў якасці этнасу? Калі поморы пажадаюць стаць асобным народам, як лічаць ініцыятары, яны павінны атрымаць льготы і гарантыі, якія маюць карэнныя малалікія народы Поўначы. Ідэя не спадабалася ні навукоўцам, ні чыноўнікам. Першыя кажуць, што поморы — адна з формаў ідэнтычнасці рускага насельніцтва. Другія баяцца, што ўслед за паморамі стаць асобнай ад рускіх нацыяй абавязкова паспрабуюць казакі.

**Паводле расійскай прэсы**

# Дызель-папулізм супраць ЕС

Алег НОВІКАЎ

**Французскія палітолагі б'юць у званы. Мясцовы рух праціўнікаў росту коштаў на паліва можа стаць агульнаеўрапейскім і справакаваць новую хвалю папулізму.**



Фота www.nytimes.com

Назіраючы за тым, якімі тэмпамі шырацца пратэсты праціўнікаў новых коштаў на паліва ў Францыі (рух таксама называюць «жоўтыя камізэлькі»), усё часцей згадваюць анекдот часоў Французскай рэвалюцыі. Неяк кароль даведаўся пра пачатак народных выступаў і спытаў у дарадцы: «Гэта бунт?» «На жаль, сір, гэта не бунт. Гэта рэвалюцыя», — адказаў яму суразмоўца.

Тыя словы цалкам пасуюць цяперашняй сітуацыі. Паводле статыстыкі, больш за 1,2 мільёна французаў ужо бралі ўдзел у пікетах і блакадах. Колькасць сімпатызантаў «жоўтых камізэлек» перакрочыла 10 мільёнаў. Пры гэтым улада не мае ніякіх рэцэптаў. У тым ліку таму, што ў руху, які будуецца праз сеціва, не існуе фармальнага лідара. Не маючы магчымасці весці перамовы і неяк стабілізаваць сітуацыю, улада паказвае сябе як варожая народу. Гэта яшчэ больш легітымізуе і стымулюе пратэст.

Аднак ёсць і іншы бок. Літаральна па слядах апошніх пратэстаў у Парыжы ў СМІ выбухнуў скандал. У камеры журналістаў трапіў адзін з пратэстоўцаў, які ў цэнтры сталіцы «кідаў зігу», то бок дэманстраваў нацысцкае вітанне. Праўладная прэса адразу стала казаць пра тое, што «жоўтыя камізэлькі» — гэта крыптанацысты. Апазіцыянеры, у сваю чаргу, сцвярджаюць, што рух намагаюцца дыскрэдытаваць. На думку прыхільнікаў пратэстоўцаў, гэта ўсё медыяманіпуляцыя. Той актывіст, мяркуюць, жартаваў з прэзідэнта, дасылаючы яму салют «ave Macron».

Версію пра маніпуляцыю сапраўды можна дапусціць. Аднак няма дыму без полымя. Нават прыхільнікі руху не адмаўляюць факт, што сярод праціўнікаў новых коштаў шмат людзей, мякка кажучы, не прагрэсіўных поглядаў. На апошняй маніфестацыі ў Парыжы можна было пачуць таксама антысеміцкія лозунгі. Некаторыя маніфестанты заклікалі да вендэты супраць сексуальных меншасцяў. Усё гэта гучала ў комплексе з абсалютна прымітыўнымі патрабаваннямі спажывецкага характару. Напрыклад, да улады патрабавалі цалкам скасаваць экалагічныя тарыфы або ліквідаваць падатак на імпартныя тавары.

Нездарма гісторыкі і старажылы кажуць: тое, што сёння адбываецца ў краіне, чымсьці нагадвае пачатак 1950-х гадоў. Тады на палітычную арэну нечакана праравўся рух П'ера Пужада. Яго падмуркам стала ідэя абароны гандляроў і рамеснікаў, чый бізнес апынуўся пад пагрозай з-за бурлівага развіцця супермаркетаў. Аднак паступова пад агонь крытыкі прыхільнікаў Пужада трапіла парламенцкая мадэль, якая падавалася неэфектыўнай і мудрагелістай для простых французаў.

Адной з візітовак руху таксама быў гвалт супраць палітычных апанентаў і паліцыі. Менавіта з секцыі, што адказвала за ахову мерапрыемстваў прыхільнікаў Пужада, прыйшоў у палітыку будучы лідар французскіх правых радыкалаў Жан-Мары Ле Пэн. Яго абралі ў парламент у 1956 годзе. На тыя выбары прыйшлася кульмінацыя руху Пужада, які падтрымалі 12 працэнтаў выбаршчыкаў. Аднак хуткі крызіс Чацвёртай рэспублікі і стварэнне прэзідэнцкай рэспублікі цалкам маргіналізавалі праект.

На думку некаторых экспертаў, сёння мы сталі сведкамі нараджэння чагосьці падобнага на рух П'ера Пужада, толькі з невялікай папраўкай. Імпульсам для пратэсту стаў не бум супермаркетаў, а новыя кошты на дызель. Калі «жоўтыя камізэлькі» сапраўды пойдуць на стварэнне сваёй партыі, то, магчыма, у Францыі хутка паўстане аналаг італьянскага «Руху пяці зорак», які, дарэчы, сёння ўваходзіць у склад ураду.

Ёсць і другі прагноз: адміністрацыі Макрона нейкім чынам атрымаецца спыніць дынаміку пратэстаў і паступова нармалізаваць сітуацыю. Аднак без наступстваў гэта ўсё роўна не застанецца. Наўрад ці Макрону свеціць другі прэзідэнцкі тэрмін — і гэта яшчэ самая малая праблема. Сацыёлагі кажуць, што цяперашні бунт яшчэ больш павялічыў недавер народу да інстытутаў рэспублікі, у тым ліку да партый і выбары. У падобным трэндзе ніводны з наступных прэзідэнтаў краіны не будзе карыстацца рэсурсам даверу грамадзян, які дазволіць нешта ўсур'ёз рэфармаваць. «Французская хвароба працягнецца», — сумуе адзін з палітолагаў.

Між тым, геаграфія прыхільнікаў французскіх аўтааматараў выйшла за межы Францыі. Першыя секцыі «жоўтых камізэлек» днямі з'явіліся ў суседняй Бельгіі і далёкай ад Францыі Балгарыі. Прычым бельгійцы пайшлі далей за французаў — яны не толькі блакуюць аўтабаны, аднак спрабуюць стварыць палітычную партыю «жоўтых камізэлек» для ўдзелу ў выбарах у наступным годзе.

Балгары пакуль партый не ствараюць, аднак гучна заявілі пра сябе, заблакаваўшы магістраль у накірунку Грэцыі, якая мае стратэгічны статус не толькі для Балгарыі, але і для ўсяго Еўрасаюза. Адначасова яны пратэставалі ў цэнтры балгарскай сталіцы. Пры гэтым пратэстоўцы пашырылі спектр патрабаванняў: выступалі не толькі за тое, каб замарозіць кошты на запраўках, аднак і патрабавалі адправіць існуючы кабінет міністраў у адстаўку.

Эксперты не выключаюць, што гэта — толькі першыя крокі пан-эпідэміі моды на «жоўтыя камізэлькі». Напэўна, няма ніводнай краіны ў ЕС, і нават у свеце, дзе коштавая палітыка ў галіне паліва падабаецца ўладальнікам аўто. Такая пратэстная і прымітыўная ідэйная формула руху дазваляе хутка пашырыць колькасць яго адэптаў. Акрамя таго, тэматыка коштаў на паліва з'яўляецца часткай больш глабальнай праблемы — падаткаў і сацыяльнай справядлівасці, якая тычыцца практычна кожнага. Такім чынам, да рознага кшталту правых і левых папулістаў Брусэль можа атрымаць яшчэ аднаго праціўніка — дызель-папулістаў. Праўда, пакуль гэта яшчэ толькі прагноз.


Фота www.korrespondent.net

# Невялікі дыктатар

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне ваеннае становішча. Прычынай стаў інцыдэнт у Азоўскім моры, што адбыўся напярэдадні. Тады, як вядома, расійскія сілавікі захапілі тры ўкраінскія вайсковыя караблі.**

Няма сумневаў, што захоп украінскіх караблёў, на якія распаўсюджваецца прынцып суверэнітэту, можна разглядаць як акт агрэсіі. Аднак ці дастаткова гэтага для ўвядзення ваеннага становішча? Так не думаюць прынамсі тры папярэднія прэзідэнты Украіны. Леанід Кучма, Леанід Краўчук і Віктар Ючшанка агучылі агульную заяву з крытыкай дыктатарскіх намераў ПАП (абрэвіятура — Пётр Аляксеевіч Парашэнка).

Яшчэ раней ідэю з ваенным становішчам раскрытыкавалі правыя. Патрыёты абураліся: чаму надзвычайныя меры не ўвялі, калі Масква паводзіла сябе значна агрэсіўней? Напрыклад, у жніўні 2014-га пасля Ілавайскага катла або баёў у Дэбальцава?

Усе гэтыя прысутныя ў афіцыйнай версіі супярэчнасці дазволілі разглядаць учынкі Парашэнкі як нейкую брудную гульню з мэтай адтэрмінаваць выбары прэзідэнта, прызначаныя на 31 сакавіка. Выбары ў гэты дзень ставяць крыж на шанцах пераабрання для Парашэнкі, які на цяперашні час і так выступае, хутчэй, аўтсайдэрам выбарчай гонкі. На канец сакавіка прыйдуцца кульмінацыі камунальных плацяжоў, якія дакладна азлобяць электарат. Перанос выбараў на пару месяцаў праз ваеннае становішча нівелюе гэты адмоўны для Парашэнкі фактар.

Акрамя таго, рэжым ваеннага становішча надае прэзідэнту амаль дыктатарскія паўнамоцтвы, якія патэнцыйна можна выкарыстаць супраць апанентаў, і на выхадзе нейкім чынам выйграць выбары. Гэтая версія хутка пачала дамінаваць у грамадскай думцы.

Аднак галоўнай перашкодай для дыктатарскіх амбіцый Парашэнкі стала прырода мясцовай эліты. Украінская эліта неаднародная, і даўно прызвычаілася, што вертыкаль улады павінна будавацца на кампрамісах. Расійская і беларуская мадэлі тут не ўспрымаюцца і, хутчэй, выклікаюць трывогу. Асабліва з улікам таго, што ваеннае становішча дазваляе канфіскацыю бізнесу. Не выклікала ідэя ваеннага рэжыму экстазу і ў мясцовых адміністратараў, на пасады якіх прэзідэнт, паводле новых правілаў, можа прызначаць сваіх камісараў.

Як вынік, у парламенце стыхійна паўстала беспрэцэдэнтная апазіцыйная група, да якой далучыліся амаль усе: ад экс-рэгіяналаў да нацыяналістаў ад партыі «Свабода». Удзельнікі фронды патрабавалі змякчыць пункты пастановы і гарантаваць правядзенне выбараў 31 сакавіка.

Цяжка сказаць, ці пагадзіўся б Парашэнка на патрабаванні, калі б не рэакцыя Захаду. Заходнія палітыкі замест адназначнай падтрымкі на адрас Кіева заклікалі бакі канфлікту ўтрымацца ад эскалацыі. Лічыцца, што гэтую пазіцыю данесла да Парашэнкі асабіста Меркель, якая патэлефанавала ў Кіеў напярэдадні галасавання ў Радзе. У выніку прэзідэнту заставалася толькі шукаць спосаб захаваць твар. У фінале нарадзіўся новы варыянт пастановы пра ваеннае становішча, якое цяпер будзе дзейнічаць у 10 абласцях, і толькі 30 дзён. У дадатак парламент замацаваў 31 сакавіка як дзень прэзідэнцкіх выбараў.

Такую развязку большасць палітолагаў разглядае амаль як катастрофу для ўкраінскага гаранта. Ніякі вялікі дыктатар з Парашэнкі не атрымаўся. Замест новага Пінахэта мы пабачылі слабага палітыка, які не ў стане «пэратрахваць» нават свой парламент. Плюс, як высветлілася, ён не мае асаблівай падтрымкі на Захадзе. Кажуць, што 26 лістапада таксама стане сігналам для чыноўнікаў на месцах, якія пачнуць бегчы з прэзідэнцкага карабля, намагацца нейкім чынам прымазацца да Цімашэнкі, якая цяпер становіцца фаварытам. Праўда, тут трэба аддаць належнае ўкраінскаму грамадству, якое здольнае кансалідавацца супраць аўтарытарных пагроз.

На гэтым, падавалася, сюжэт скончаны. Хіба што шкада звычайных украінцаў, якія сталі ахвярамі скачкоў грыўні. На чутках пра ваеннае становішча ўкраінская валюта перайшла мяжу ў 28 грыўняў за долар і пакуль гэтую планку трымае.

Аднак на самай справе ўсё не так прадказальна. Па-першае, наўрад ці Парашэнка капітулюе так проста. Лічыцца, што ў яго ёсць нейкі «план Б». Па-другое, хаця ваеннае становішча дзейнічае толькі ў 10 рэгіёнах, гэта можа мець непрадказальныя наступствы. Закон аб увядзенні ваеннага становішча, а таксама дзеючы закон аб прававым рэжыме ваеннага становішча ствараюць прастору для інтэрпрэтацый.

І інтэрпрэтаваць іх будуць сілавікі — на ўзроўні загадаў і інструкцый. Як яны гэта зробяць, незразумела. Але, верагодна, кіраваць замест звычайных органаў улады ім спадабаецца. Прычым у большасці сілавікі, якія атрымліваюць паўнамоцтвы, — супрацоўнікі Мінабароны. Гэта значыць, што ў краіне можа ўзняцца роля войска, якое фактычна выступае як асобная палітычная сіла. Нарэшце, ва ўлады багаты паслужны спіс нерэалізаваных абяцанняў, і не факт, што будзе выконвацца абяцанне пра тое, што абмежаванняў грамадзянскіх свабодаў не будзе.

Не менш цікавае пытанне, як будзе рэагаваць на ваеннае становішча гаспадарка. У новых умовах бізнес у згаданых 10 абласцях дакладна будзе намагацца закансервавацца. Пра інвестыцыі туды і казаць няма сэнсу. Гэта, у сваю чаргу, адаб'ецца на выкананні бюджэту, што пісалі пад крэдыты МВФ.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Даля Грыбаўскайтэ



Прэзідэнтку Літвы працягваюць абвінавачваць у разбурэнні балтыйскага адзінства. Усё таму, што яна праігнаравала святы з нагоды 100-годдзя незалежнасці суседняй Латвіі.

Паводле афіцыёзу, літоўская дэлегацыя не змагла трапіць на ўрачыстасці праз паломку прэзідэнцкага самалёта. Такое тлумачэнне выклікала шквал абурэння. На думку крытыкаў, у Грыбаўскайтэ было мноства варыянтаў выхаду з цяжкага становішча: адправіцца ў Латвію на пасажырскім авіярэйсе ці на аўтамабілі — дарога да суседняй краіны заняла б некалькі гадзінаў.

Ёсць меркаванне, што за нежаданнем ехаць у Рыгу хаваецца крыўда на Латвію. Грыбаўскайтэ, маўляў, пакрыўджаная на краіну-суседку праз шэраг праблемаў — спрэчка вакол праекту Rail Baltica, некрытычнае стаўленне Латвіі адносна БелАЭС, намер перахапіць транзітныя беларускія грузы.

### Ідрыс Дэбі



Прэзідэнт Чада, дзе большасць насельніцтва вызнаюць іслам, наведаў Ізраіль у рамках афіцыйнага візіту, які ўжо назвалі гістарычным.

Па-першае, Ізраіль прарваў дыпламатычную ізаляцыю з боку мусульманскіх краін. Падтрымліваў рэжым ізаляцыі і Чад, разарваўшы адносіны з ізраільцянамі яшчэ 42 гады таму. Аднак гэта ўжо гісторыя: вядома, што дыпламатычныя кантакты паміж краінамі будуць адноўленыя.

Па-другое, па выніках візіту стала зразумела, што ў Тэль-Авіву ёсць свае інтарэсы на Чорным кантыненце. Ізраіль намагаецца наладзіць партнёрства з Суданам, Чадам і Нігерам. Чакаюць, што Чад і Нігер хутка дазволяць ізраільскім пасажырскім самалётам пралёт над сваёй тэрыторыяй у накірунку Лацінскай Амерыкі.

Трансфармацыя Чада з праціўніка Ізраіля ў яго саюзніка амаль фантастычная, калі ўзгадаць, што менавіта праз гэты рэгіён адбываўся трансфер нелегальнай зброі для тэрарыстычнай групоўкі «Хамас», што кантралюе сектар Газа і рэгулярна канфліктуе з ізраільскімі сілавікамі. Радыкальна змяніць арыентацыю Чад прымусіла актывізацыя радыкальнай групоўкі «Boko Haram». Прычым экстрэмісты дэманстравалі такія поспехі, што ўлады нават вырашылі звярнуцца па дапамогу да Ізраілю, які мае добры вопыт барацьбы з ісламскім радыкалізмам.

Застаецца дадаць, што Ізраіль яўна мае намер працягваць сваю экспансію ў арабскім свеце. Падчас перамоваў з Дэбі прэм'ер Нетаньяху анансаваў свой хуткі візіт у нейкую арабскую краіну, назва якой застаецца ў сакрэце.

### Сіндзі Хайд-Сміт

Экс-міністарка экaномікі ЗША, кандыдатка ад партыі рэспубліканцаў у сенат ад штату Місісіпі перад другім турам выбараў нечакана апынулася ў цэнтры ўвагі.

Такая ўвага дастаткова дзіўная, калі ўзгадаць, што вынік галасавання ў Місісіпі нічога не зменіць ў агульных раскладаў. Нават калі Хайд-Сміт прайграе, рэспубліканцы захаваюць большасць у верхнім палаце амерыканскага парламенту. Аднак па ходзе кампаніі адбылося пару інцыдэнтаў з расавай падаплёкай, якія і выклікалі буйны інтарэс да кандыдата рэспубліканцаў.

Агульнанацыянальны рэзананс справакавала з'яўленне фатаграфіі Хайд-Сміт у капелюшы салдата рабаўладальніцкай Канфедэрацыі. Не меншы ажыятаж зрабіла відэа, на якім яна заяўляе, што будзе «ў першым шэрагу», калі атрымае запрашэнне на публічнае пакаранне смерцю праз павешанне.

Ліберальная Амерыка ўспрыняла гэтыя фокусы як выклік, паколькі канкурэнт Сіндзі — афраамерыканскі палітык Майк Эспі, а ў паўднёвых штатах пакаранне праз павешанне практыкавалася ў асноўным для рабоў. У сувязі з гэтым зноў шмат кажуць, што рэспубліканцы за часамі Трампа ператвараюцца ў партыю правых радыкалаў.

Дарэчы, Трамп асабіста падтрымаў Хайд-Сміт — наведаў мітынг рэспубліканцаў, які быў вытрыманы ў калядным стылі. Як вынік, Трамп выйшаў на сцэну праз комін, як Санта-Клаўс. Праўда, на гэтым казка скончылася. У сваёй прамове Трамп замест калядных віншаванняў актыўна крытыкаваў дэмакратаў, якія, па яго словах, навязваюць ЗША сацыялізм.

# «Дзеці, плачце!..»



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Калі я рыхтавала новую кнігу, звярнулася да жыхаркі вёскі Янушкавічы Людмілы Мацкевіч. Гартаем з ёй сямейныя альбомы і знаходзім стары матчын здымак. Хтось сфатаграфаваў гіганцкі помнік «бацьку ўсіх народаў» у Мінску, завалены вянкамі і аздоблены жалобнымі стужкамі. Пры ім, спінай да нас, гараджане, найбольш — жанчыны. На пастаменце помніка — беларускі ўзор.**

Рукой Людзінай матулі Тацціяны Ігнацьеўны напісана, што фота зроблена 9.03.1953 года пасля жалобнага мітынгу. Уражвае факт, што здымак захаваўся ў сям'і праз столькі дзесяцігоддзяў, цяпер ён выглядае музейнай рэдкасцю. Прыгожым почыркам старannай студэнткі на зваротным баку картачкі напісана: «Да! Вот уже почти месяц, как ушел от нас самый дорогой всем, всем, всем. Не понятное для наших умов сейчас творится в стране. Поднять бы всевидящего, нашего любимого И.В.Сталина. Пусть бы он многих вывел из тупика».

Я пачала распытваць ураджэнцаў Лагойшчыны і проста знаёмых, хто мог заспець тую лёсавызначальную падзею або чуць пра яе ад старэйшых.

Лідзія Васільеўна Курто распавяла, як студэнтаў Барысаўскага педвучылішча сабралі ў актавую залу з выпадку смерці «самага дарагога». «Сказаць, што мы былі разгубленыя — мала. Мы не разумелі, як нам жыць далей».

На працы Ніны Яўстаф'еўны Жардзецкай, у брэсцкім радзільным доме, таксама адбылося жалобнае мерапрыемства: «Горкімі слязьмі плакала галоўны ўрач Каралёва, жонка афіцэра, а мы ўсе за ёй следам».

Валянціна Іванаўна Гарачка вучылася ў дзявятым класе Лагойскай школы. На сцяне калідора вісеў партрэт правадыра ў поўны рост, у форме генералісімуса, пад ім — кветкі ў вазе. Вучні стаялі ў ганаровай варце. З «чорнай талеркі» перадавалі суровым голасам жалобны тэкст. Жанчыны заліваліся слязамі.

Мінчанка Вольга Анатольеўна Далгачова сведчыць: у іх дашкольным дзіцячым доме ўключалі радыё, каб дзеці слухалі зводкі пра стан здароўя Сталіна. Разам з іншымі арганізацыямі і прадпрыемствамі павялі да манументу і загадалі: «Дзеці, плачце!» У газетах паведамлялі, які з калектываў гараваў больш.

Мой новы знаёмы Міхаіл Фёдаравіч Саўчыц, што родам з Вілейшчыны, з гумарам распавёў, як вучнем ледзьве не пацярпеў за непаважлівае абыходжанне з партрэтам усенароднага любімца.

«Сябра мне даў капірку, яе належала праверыць. Пад рукой не знайшлося іншай паперкі, акрамя газеты з партрэтам Сталіна. Ну я і праверыў капірку на гэтым партрэце — перакрэсліў крыж-накрыж. Знайшлася малая «сексотка» і далажыла настаўніцы: «Фаіна Сямёнаўна, а Міша папсаваў партрэт Сталіна».

Настаўніца разгубілася і не ведала, як рэагаваць. А рэагаваць належала, інакш мог быць розгалас і наступствы для яе самой. Праз некалькі дзён настаўніца наведала бацькоў вучня ў іх вёсцы. Самой гаворкі хлапчук не чуў, бачыў толькі, як плакала маці. Справу, на шчасце, замялі.

«Дзень пахавання я запомніў добра, бо тады мы з сябрам узялі санкі-«козачкі» і паехалі катацца на мясцовыя горкі. У гадзін 12 пачулі гудок на лесазаводзе. Тады гадзіннікаў не мелі, дык арыентаваліся па такіх гудках — на пачатку рабочага дня, у абед, увечары. Гудкі-сірэны паўсюль былі ўключаныя і азначалі жалобу. З Вілейкі прыбыла раённая каманда для правядзення мітынгу. Наша хата падалася начальству самай прасторнай. Да нас ад суседзяў нанасілі лавак, склікалі людзей. Саўчыц за Саўчыцам выступалі з развітальным словам — у нас у вёсцы ўсе былі Саўчыцы. Балтыйскі матрос Ігнась як старшыня калгаса таксама меўся штось сказаць, пасада абавязвала. Ажно пык-мык — нічога не атрымліваецца! З таго, што ён з цяжкасцю звязаў, мы разабралі наступнае: «Выйшаў дух, і больш мы яго не ўбачым». Дарослыя баяліся смяяцца, хоць і падмывала. А вось хлапчукі на печы стрымацца не маглі».

Была і зларадная рэакцыя. «Неяк да маці прыйшла суседка, і я звыкла натапырыў вушы. Пагаварыўшы пра справы гаспадарчыя, тая паведаміла: «Сталін здох». На мой дзяціны погляд, пра чалавека трэба было б сказаць неяк іначай», — кажа Жураўскі з Радашковіч.

У 1990-я гады загадчык клуба Аляксандр Давідовіч абыходзіў Янушкаўскі сельсавет і ўдакладняў спісы ахвяраў сталінізму. Сярод іх быў ляснічы Прахаровіч. Яго катавалі ў сутарэннях палаца Тышкевічаў, заганялі іголкі пад пазногці. Вадой абліюць — і зноў катуюць. Пры пасмяротнай рэабілітацыі ахвяр у КДБ выклікалі зяця Прахаровіча — настаўніка Марцынкевіча. І так з ім «пагутарылі», што ён адмовіўся ад належнай па законе кампенсацыі.

Да 1939 года край Лагойскага раёна прымыкаў да дзяржаўнай савецка-польскай мяжы. Жыхары па сваяцкіх або гаспадарчых справах усялякімі шляхамі зрэдзьчасу пераходзілі яе. Палюбоўна дамаўляліся з пагранічнікамі прадпрымальныя людзі з таго боку. Хто «засвечваўся» на мяжы або на каго даносілі, аўтаматычна залічваўся да польскіх шпіёнаў.



**Помнік Сталіну ў Мінску.**
Фота з сямейнага архіву Людмілы Мацкевіч

З невялікай вёсачкі Якубавічы Баравыя за адну ноч органы забралі дзевяць мужчын. Лістом абазваўся толькі адзін, лёс іншых невядомы. І дарма мы робім вінаватым толькі ведамства Яжова—Берыі: усё, што рабілася, рабілася з дазволу і ведама адзінай кіруючай партыі, якая не мела механізму стрымлівання. Кулакі, шкоднікі, трацкісты, нацыяналісты, духавенства, чальцы міфічных антысавецкіх арганізацый — заўсёды знаходзілася прычына, каб забяспечваць дармавой рабочай сілай будоўлі, руднікі і лесапавалы, а таксама загрузіць працай катаў — тых, што выцiралі акрываўленыя рукі аб уласную галаву (жудасная дэталь з кнігі Святланы Алексіевіч. — Г.К.)

**Давялося чуць, што моцна пакрыўдзіўся адзін з аўтараў помніка Заір Азгур: чаму не параіліся з ім? А яшчэ адзін аблашчаны ўладамі скульптар, Бембель, перажыў знос спакойна. Ён ляпіў толькі ногі, ганарар жа не адбяруць...**

Распаўсюджанай практыкай былі і даносы: на суседзяў, аднавяскоўцаў, калег і каляжанак па рабоце, на сваякоў, нават на мужоў і жонак. Гэтае масавае вар'яцтва ўсяляк заахвочвалася, хаця пад «пільнасцю» часам хавалася банальная зайздрасць. Даносы пісалі на ўдарніка працы Сямёна Фёдаравіча Маеўскага (бо заможна жыў), на мясцовага маладога ўрача Кулакоўскага, на сакратара сельсавета Алёшачку Жардзецкага...

«Бяскрыўдны мужык» Алёшачка адбыў на лесапавале ад званка да званка. У чым заключалася яго віна, дакладна не вядома; не тое сябраваў з сынам бацюшкі, не тое з ім жа вынес з сельсавета патэфон на танцы. Адбыўшы тэрмін, Алёшачка прыходзіў да суседзяў і плакаў, успамінаючы лагерныя пакуты. Гаварыў, што на сібірскай катарзе нават не ведаў, што ідзе вайна з немцам.

Алёшачка быў другім мужам Вольгі Кавэцкай, чыіх дачок я ведаю. Выпадак дапамог сустрэцца з малодшай, Галяй. Што на долю бацькі выпала шмат пакут, яна даведалася дарослай — калі з мужам збіраліся ў ГДР на месца службы (у такіх выпадках запаўняліся падрабязныя анкеты). Светлых успамінаў пра дзіцячыя гады ў яе мала. Бацька піў і біўся, ганяў жонку разам з дочкамі, не раз яны начавалі ў сельсавеце, дзе Кавэцкая прыбірала (значыць, не такі ўжо і «бяскрыўдны»). Самай большай абразай у бок сямейнага тэрарыста была рэпліка жонкі: «Цюрэмшчык!»

Між тым, у адрозненне ад многіх, Цюрэмшчык быў пісьменным чалавекам, нездарма яго ўзялі ў сельсавет сакратаром. Галя памятае прыгожы почырк з завіткамі, якім бацька пісаў заявы і іншыя паперы па просьбе наведвальнікаў.

Вязень ГУЛАГу, паэт Сяргей Грахоўскі, вярнуўся ў Мінск у 1956 годзе. І здзівіўся: «...пасярод Цэнтральнай плошчы на пастаменце з цёмна-чырвонага граніту ўсё яшчэ стаяў высачэзны Генералісімус». Правая рука за бортам шыняля, у левай — шапка, арліны погляд скіраваны на заўсёды асветленыя вокны ЦК (якраз ля гэтага пастамента стаяла маладзенькая Таццяна Ігнацьеўна. — Г.К.) Бронзавы помнік разлічаны быў на вякі: «на восем метраў у зямлю загнаны таўравыя бэлькі, залітыя самым трывалым бетонам, пастамент абліцаваны зіхоткім гранітам...»

З аднаго боку, на XX з'ездзе КПСС культ развянчалі, а што рабіць з рукатворнай спадчынай — помнікамі, бюстамі, партрэтамі, тамамі прац — мясцоваму начальству не давялі. Манумент Сталіну на ранейшай Цэнтральнай, а зараз Кастрычніцкай плошчы працягваў аглядаць горад са сваёй 10-метровай вышыні — да таго часу, пакуль цела правадыра не вынеслі з маўзалея.

Грахоўскі стаў сведкам, як у ноч на 3 лістапада 1961 года грамілі звыштрывалае збудаванне.

«Па асветленай плошчы мітусіліся высокія вайсковыя чыны, аддавалі ўзмоцненыя мегафонам каманды. Сапёры ў пастаменце свідравалі адтуліны, у іх закладалі тол. Па лесвіцы папаўзла постаць у бліщчастай касцы і накінула пятлю з тоўстага тросу на шыю таварыша Сталіна. Прызнаюся, па скуры пабеглі мурашкі, апанаваў страх, а потым узрадаваўся, што дацярпеў, што дажыў і ўбачыў, хоць бронзавага, свайго ката з пятлёю на шыі.

Змоўклі адбойныя малаткі, трос прычапілі да танка. Па камандзе грымнуў выбух, помнік завалакло шызым дымам, па бруку заляскацелі гусеніцы, напяўся трос і... пасярэдзіне лопнуў, ад пастамента пасыпаліся дробныя аскабалкі, дым асеў, а ЁН як стаяў, так і стаіць нерухома з пятлёю на шыі. Відовішча жахлівае».

У прэстыжным раёне, на вуліцы Кірава, жыў з жонкай Міхаіл Саўрыцкі. Самы цэнтр сталіцы. У двары знаходзілася цэкоўская сталоўка. Бамбасховішча для партыйнай вярхушкі і склады сістэмай падземных ходаў былі звязаны з будынкам ЦК КПБ. Дзень, калі бурылі помнік, ён запомніў. Яшчэ б не запомніць! Нагналі ваенных, цяжкай тэхнікі, грукат стаяў на тры кварталы. Праз ачапленне было відаць, як за манумент зачапілі тросы.

Давялося чуць, што моцна пакрыўдзіўся адзін з аўтараў помніка Заір Азгур: чаму не параіліся з ім? У Азгура і раней былі падставы крыўдзіцца на ўладу: яму, прызнанаму творцу, не хацелі верыць, што на здымку сярод павешаных падпольшчыкаў знаходзіцца не хтось невядомы, а яго пляменніца Маша Брускіна. Яшчэ адзін аблашчаны ўладамі скульптар, Бембель, перажыў знос спакойна. Ён ляпіў толькі ногі, ганарар жа не адбяруць...

Гігантаманія сацрэалізму да сёння ўяўляе сабой тэхнічную праблему: помнікі разбураюцца і становяцца аварыйнымі. У Балгарыі ў славутага Алёшы адна галава важыць 16 тон. Збіраліся зносіць, але не дазволілі ветэраны. Галаву савецкаму воіну-вызваліцелю ў Трэптаўпарку ўлады аб'яднанай Германіі мусілі замяніць. Што пацягнула на кругленькую суму ў еўра. Польшча рашуча развітваецца са спадчынай сацыялізму і зносіць у гарадах яшчэ прыдатных да эксплуатацыі Ленінаў...

# Геніюш і Урублеўская: перакрыжаванні лёсаў



Сяргей ЧЫГРЫН

**Вядомая беларуская паэтка Ларыса Геніюш (1910–1983) і яе муж Янка Геніюш у 1948 годзе былі арыштаваныя органамі МДБ. Ларысу Геніюш у Мінску дапытваў сам міністр дзяржбяспекі БССР Лаўрэнцій Цанава. Паэтка мужна вытрымала ўсе катаванні і допыты.**




Лагерная паштоўка Ларысе Геніюш ад Васіля Супруна



Яўгенія Урублеўская

**Хаця зэкам забаранялася перадаваць адзін аднаму «ксівы», запіскі, пісьмы, паштоўкі — нелегальна лагерная пошта дзейнічала пастаянна. Не баяліся людзі ні карцэраў, ні БУРы, ні бязлітасных допытаў**

Ларысу і Янку Геніюшаў 7 лютага 1949 года асудзілі на 25 гадоў кожнага. Пакаранне паэтка адбывала ў лагерах Інта і Абедзе (Комі АССР). Там жанчына смела паказвала прыклад фенаменальнай духоўнай трываласці, яднала вакол сябе не толькі беларусаў, але і вязняў іншых нацыянальнасцей, а таксама пісала вершы. Сярод вязняў Ларысу Геніюш клікалі Маці, яе вершы называлі глюкозай, завучвалі іх на памяць, як малітвы.

З Ларысай Геніюш у Інце і Абезе знаходзіліся тысячы людзей. Са многімі паэтка моцна сябравала, з іншымі — проста адбывала тэрмін да лепшых часоў. Шмат прозвішчаў тых людзей, якія прайшлі сталінскі ГУЛАГ, прыгадвае паэтка ў сваёй кнізе ўспамінаў «Споведзь». Сярод іх — Яўгенію Урублеўскую, якая перадавала «ксівы» тым, каму яны былі адрасаваныя.

У «Споведзі» Ларыса Геніюш успамінае: «Пачалася перапіска. Тоненькія запісачкі насілі дзяўчаты, якія хадзілі на бліжэйшыя аб'екты. Насіць запіскі было небяспечна, але жыць без іх было немагчыма зусім, і кожная з нас гэта разумела. Цярпелі дзяўчаты БУР, і голад, і гора, але спагадалі адна адной. Мне запіскі насіла пераважна нейкая Жэня Врублеўская з Варшавы. Была гэта маладая прыгожая дзяўчына, расейка...».

Я памятаю гэту жанчыну, бо быў некалькі разоў на яе сустрэчах у Слоніме ў 1990-х гадах. Была яна па нацыянальнасці беларуска, а родам з Беласточчыны. Вязень сталінскіх лагераў сустракалася тады шмат са сваімі землякамі, да яе прыязджалі сябры па сталінскіх лагерах, яна перапісвалася, ёй пастаянна тэлефанавалі журналісты з Беларусі, Польшчы і Расіі. Гэту жанчыну звалі Яўгенія Урублеўская (1923–1996). У маім Слоніме яна пасялілася ўжо пад старасць. Тут і пражыла апошнія гады, дзе і памерла, і пахавана.

А жыццё Яўгені Урублеўскай было цяжкім і пакутлівым. Спачатку тры гады няволі ў гітлераўскіх лагерах і турмах, а потым дзесяць — у сталінскіх. У Інце Яўгенію Урублеўскую пад канец тэрміну зняволення пачалі зваць «бунтаркай Урублеўскай». У нямецкім канцлагеры «Равенсбрук» і ў сталінскіх лагерах у самых цяжкіх умовах яна знаходзіла магчымасць увязвацца ў самыя розныя справы. Ёй заўсёды хацелася нечага высокага і ідэальнага, справядлівасці і дабра. А іх там было мала. Дзеля гэтага ў 1941 годзе Яўгенія Урублеўская ўступіла ў камсамол, а будучы ў нямецкім палоне — у антыфашысцкую арганізацыю «Чырвоная капэла», у сталінскіх лагерах арганізавала перасылку лістоў.

У нямецкім канцлагеры Яўгенія Урублеўская пазнаёмілася і пасябравала з жонкай Юліуса Фучыка, у савецкім — з жонкай кампазітара Сяргея Пракоф'ева, а таксама з Ларысай Геніюш...

Якія нечалавечыя ўмовы ні ставарала лагернае начальства ГУЛАГу, падпарадкоўваючыся чыёй-небудзь волі, людзі імкнуліся там жыць і ствараць, думаць і марыць, любіць і кахаць, змагаліся за сваё выжыванне. Хаця зэкам забаранялася перадаваць адзін аднаму «ксівы», запіскі, пісьмы, паштоўкі — нелегальна лагерная пошта дзейнічала пастаянна. Не баяліся арыштаваныя людзі ні карцэраў, ні БУРы (барак узмоцненага рэжыму), ні бязлітасных допытаў.

Падчас нелегальнай лагернай пошты і пазнаёміліся ў Інце Ларыса Геніюш з Яўгеніяй Урублеўскай. А пазнаёміла іх Зося Андрушкевіч з-пад Шчучына. Зося працавала ў лагернай пральні прачкаю. Ларыса Геніюш у той час шукала дзяўчыну, якая выходзіла б з зоны і змагла б перадаваць «ксівы». Зося сказала, што яна ведае адну дзяўчыну па прозвішчы Урублеўская, якая ўсё гэта зробіць акуратна і надзейна.



**Ларыса Геніюш:**

**«Насіць запіскі было небяспечна, але жыць без іх было немагчыма зусім, і кожная з нас гэта разумела»**


Анатолий
БОГДАНОВИЧ

КОГДА ЭПОХА ВЗДЫБИЛАСЬ ВОПРОСОМ...

стихотворения, поэмы

«МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ»
Москва, 1993

Кніга з аўтографам ад лагернага сябра

Неяк Ларыса Геніюш зайшла ў барак да дзяўчат і спытала Жэню Урублеўскую. Жэня, сядзячы на нарах, сказала, што гэта яна. Паэтка падышла да яе бліжэй і ціха паведаміла, што яе прыслала Зося Андрушкевіч. А потым удакладніла: «Вы ходзіце на док?». «Хаджу», — адказала Жэня. «Вы зможаце перадаваць пошту ад мяне?» — зноў спыталася шэптам Ларыса Геніюш. «Вядома ж змагу, чаму не», — адказала Урублеўская.

Яўгенія Урублеўская зрабіла спецыяльны пояс, а ў ім непрыкметную шчыліну. Туды і клала запісачкі. А калі яе ахоўнікі правяралі, аглядалі, то ніхто нават і не змог здагадацца, што там у поясе ляжаць «ксівы», ды і сам пояс не чапалі. Так Жэня Урублеўская і насіла пошту з зону на зону.

З Ларысай Геніюш Яўгенія сустракалася даволі часта. Шмат размаўляла з ёй, спрачалася. Урублеўская была шчымліва знаёмая беларуская мова, а калі паэтка размаўляла па-руску, то вельмі выразна адчуваўся заходнебеларускі акцэнт. Пры жыцці Яўгенія Урублеўская ўспамінала і казала, што ў ГУЛАГу Ларыса Антонаўна заўсёды хвалявалася за свайго сына Юрку, які заставаўся ў Празе, і перажывала за яго далейшы лёс.

Лагерная пошта запрацавала даволі актыўна, што нават ахова пачала нешта нядобрае прыкмячаць. Ахоўнікі пачалі правяраць мужчынскі лагер і знайшлі запіскі і вершы Ларысы Геніюш. Выклікалі на допыт Урублеўскую. І Урублеўская прызналася, што гэта яна насіла пошту.

— Што ты ў мужчынскі лагер насіла яшчэ? — пыталася начальства.

— Любоўныя запіскі і лірычныя вершы, — казала Жэня. — Яна — паэтка. Яна не магла і не можа не пісаць, разумееце. А яе вершы людзей цікавяць, іх усе чытаюць.

— А што яшчэ насіла, — не супакойваліся ўпаўнаважаныя.

— Адзін раз прынесла кісет для тытуню.

— Што гэта Геніюш за чалавек? — пыталіся зноў.

— Яна жыве вершамі і будзе пісаць іх усё жыццё. Больш паэтка нічым не цікавіцца, — сказала Урублеўская.

Пасля допыту Урублеўскую адпусцілі і не пакаралі. І Ларысу Геніюш не чапалі. Бо і мужчыны ў сваёй зоне таксама нічога не сказалі, акрамя вершаў.

Свае запіскі Ларыса Геніюш перадавала Сымону Раманчуку (1916–1952?). Гэта ён пазней арганізуе ў Інце паўстанне і будзе расстраляны. Яўгенія Урублеўская сустракалася і з ім часта, а калі яго не прыводзілі на док, перадавала для яго запіскі праз іншых зэкаў. Ларыса Геніюш пра Сымона Раманчука напісала ў «Споведзі», што «гэта наш светлы герой, які ведаў адно толькі — сваю Радзіму й жыў толькі для яе і ёю».

Сама Яўгенія Урублеўская, як піша Геніюш, ёй не падабалася, бо «яна не была дружнаю й часта цвердзіла, што каб выжыць, дык кожны павінен глядзець толькі сябе і йсці напралом праз лагер, не звяртаючы ўвагі на рэшту зняволеных...».

Але не ведала, а можа і ведала Ларыса Антонаўна, што Яўгенія Урублеўская да сталінскіх лагераў, была сябрам Берлінскай антыфашысцкай падпольнай арганізацыі «Чырвоная капэла». А аднойчы гестапа даведалася пра сувязь дзяўчыны з антыфашысцкай арганізацыяй. Яе арыштавалі. І пачалося жыццё за кратамі. Сядзела ў пяці турмах, у тым ліку і ў Маабіце, дзе яе кінулі ў камеру-адзіночку. Там дзяўчына прачытала на сцяне прозвішча Мусы Джаліля (1906–1944) — татарскага паэта і журналіста. Яна таксама лацінскімі літарамі напісала сваё імя. Толькі потым, праз шмат гадоў, Яўгенія Урублеўская даведалася насамрэч, хто такі быў Муса Джаліль. І яна таксама пісала вершы, але на рускай і часам на польскай мовах. Вось так гучыць яе адна страфа па-беларуску:

*Я ведаю ад, была я ў ім,*
*Спазнала ада мукі.*
*Пад сінім небам, на зямлі*
*Ў фашысцкім Равенсбруку...*

30 красавіка 1945 года Яўгенія Урублеўская аказалася на волі. Праўда, ненадоўга... Яе арыштавалі асабісты ў Ваўкавыску. Дапытваў дзяўчыну следчы Бяляеў шмат гадзін, біў яе, замыкаў у халодны каменны мех памерам 1,5х1,5 метры. Выбіваў з яе тое, чаго не было. Праз тыдзень яна не змагла падняцца. І толькі дзякуючы сумленнасці доктара Васільевай, яе вылечылі і праз некалькі тыдняў адправілі на ўсход у спецлагер, а потым у Інту. На яе робе быў нумар Щ-270. Просты падлік паказваў, што там знаходзілася каля 40 тысяч арыштаваных.

У апошнія гады свайго жыцця жанчына жыла ў Слоніме. Прымала ўдзел у грамадскім жыцці Слонімшчыны, нават узнагароджвалася граматамі Слонімскага гарсавета.

# 60 беларускамоўных хітоў сучаснасці

**Прапануем суб’ектыўны спіс ад TuzinFM і Letapis.by**




Да свайго 15-гадовага юбілею галоўны музычны партал краіны TuzinFM.b у разам з Letapis.by склаў спіс песень, без якіх немагчыма ўявіць незалежную беларускую музыку. У яго ўвайшлі 40 самых важных беларускамоўных песень з хіт-параду «Тузіна» (2003–2018) і яшчэ 20 хітоў за папярэднія 15 гадоў (1988–2003).

Рэйтынг уклалі кіраўнік TuzinFM Сяргей Будкін і аўтар праекту «Мапа станаўлення Беларусі» Аляксей Чаранкевіч. Да кожнага з 60 трэкаў напісаныя анатацыя і гісторыя ягонага стварэння, падабраныя выявы, відэа і спасылкі на рэсурсы, дзе можна болей даznaцца пра выканаўцу, паслухаць і набыць ягоныя трэкі. У спіс увайшлі тыя песні, якія перамагалі ў чарце на «Тузіне Гітоў» і называліся найлепшымі песнямі сезону цягам 15 гадоў існавання партала, а таксама 20 хітоў за папярэднія 15 гадоў, без якіх немагчыма ўявіць беларускую музыку.

«З аднаго боку, гэта падсумаванне для нас саміх — у рэйтынг увайшлі песні, якія паўплывалі на нас асабіста і на развіццё айчыннай сцэны ў цэлым. На нашу задуму, гэты рэйтынг таксама мае стаць кропкай уваходу ў беларускую музыку для тых, хто толькі пачынае ёй цікавіцца», — заўважае Сяргей Будкін.

«Спачатку мы хацелі зрабіць спіс з 15 трэкаў, потым пашырылі яго да 20, а па выніку ён разросся да 60, і ў ім далёка не ўсё, што хацелася ўключыць. У яго ўвайшлі пераважна рок-хіты нашых музыкаў. Поп-выканаўцы, барды, металісты, фолк-спевакі ды музыкі іншых кірункаў, безумоўна, вартыя асобных рэйтынгаў», — зазначае Аляксей Чаранкевіч.

Праект «60 песень беларускамоўных хітоў сучаснасці» прымеркаваны да 15-годдзя інтэрнэт-парталу TuzinFM. Юбілей будзе адзначаны канцэртам «Героі года» і ўручэннем прэміі найлепшаму гурту і найлепшаму адкрыццю 2018-га.

Паслухаць 60 беларускамоўных хітоў сучаснасці можна тут: http://tuzin.letapis.by/

**Інфармацыя пра стваральнікаў праекту:**

Праект TuzinFM.by («Тузін Гітоў») стартаваў у 2003 годзе з мэтай прасоўвання беларускай (перадусім беларускамоўнай) музыкі. Кіраўнік праекту — Сяргей Будкін. На старонках парталу можна знайсці інфармацыю пра песні, альбомы і кліпы айчынных выканаўцаў і фірмовыя чарты, якія пастаянна абнаўляюцца. Акрамя таго, партал самастойна і з партнёрамі ініцыюе і рэалізуе культурныя праекты. Сярод самых яркіх — «Тузін. Перазагрузка», «Тузін. Немаўля», «Радыё Тузін», «Заспявай», Belsat Music Live, «(Не) расстраляныя» ды іншыя.

Letapis.by — зборнік праектаў, прысвечаных Беларусі і беларускай культуры. Аўтар праектаў — Аляксей Чаранкевіч. Пачатак існавання — студзень 2016 года.

# Казкі вачыма падлеткаў і іх настаўнікаў

**У мастацкай галерэі «Універсітэта культуры» з 27 лістапада адкрываецца выстава «KAZKI». Ілюстрацыі да адной казкі стварылі падлеткі і іх настаўнікі.**




Гэта творчы праект навучэнцаў арт-студый «Зебрык» і «Зебра» адкрывае цікавы і разнастайны свет ілюстрацыі — ад традыцыйнай да наватарскай. Экспазіцыя запрашае гледачоў паназіраць за тым, як па-рознаму юныя аўтары ставяцца да казачнага твора і як па-рознаму яны ўяўляюць адных і тых жа дзеючых асоб.

Экспазіцыя не зусім звычайная, бо юныя мастакі і іх настаўнікі малявалі ілюстрацыі не да розных казак, а да адной і той жа, але кожны — у сваёй інтэрпрэтацыі.

Кожная з ілюстрацый дапоўнена адпаведным урыўкам тэксту, які плаўна «перацякае» з адной карціны на другую і запрашае гледачоў прачытаць і прагледзець казку ад пачатку да канца.

Мінскія арт-студыі «Зебрык» і «Зебра» з’яўляюцца студыямі малявання рэпетытарскага фармату для дзяцей, падлеткаў і дарослых. Мэта, да якой імкнуцца гэтыя мастацкія студыі, — даць паўнавартасную пачатковую мастацкую адукацыю ў рэпетытарскім фармаце, у мікра-групах, з максімальнай адпаведнасцю запытам кожнага вучня. «Зебрык» і «Зебра» — гэта і мастацкія школы, і творчыя майстэрні, і цэнтры творчага развіцця дзяцей адначасова. Студыі імкнуцца змяніць уяўленне людзей аб паняцці «дзіцячая творчасць», пераўтварыўшы яго ў «выяўленчае мастацтва». Сюды прыходзяць тыя, хто гатовы да большага: да большай індывідуальнасці ў навучанні, да большага камфорту, да большай свабоды ў пошуку сябе.

Наведаць выставу можна з 27 лістапада па 15 снежня

Адрас галерэі: Кастрычніцкая плошча, 1 (Палац Рэспублікі).

Час працы: 11.00–19.00.

Уваход вольны

# Літара «Ў» пад пагрозай

**Літара «Ў» пад пагрозай. Пакуль толькі ў казцы, дзе ёй пагражае злая чарадзейка Марана, якая разам з іншымі персанажамі прадстаўлена ў музычным альбоме для дзяцей «Неверагодныя прыгоды літары «Ў».**

На яго выданне ў Беларусі распачалася кампанія па зборы сродкаў на пляцоўцы Ulej.by.

«Неверагодныя прыгоды літары «Ў» — гэта не толькі тэатральна-музычны праект беларускага кампазітара і сцэнарыста Рамана Арлова, але і будучы музычны альбом. Галоўным героем тэатральна-музычнага праекту, складзенага з аўтарскіх дзіцячых казак, не выпадкова стала адна з літар беларускага алфавіта.

У чым адметнасць альбома?

У сваёй незвычайнасці. На сёння вельмі мала тэатральных і музычных праектаў для дзяцей на беларускай мове, тым больш з беларускім кантэкстам, які б датычыўся беларускай гісторыі і культуры.

Альбом складаецца з 12 трэкаў, сярод якіх «Ляцім мы вясну вызваляць», «Чароўны бор», «Ярыла-сонца», «Хіп-хап Бусліка», «Марана супраць літары «Ў».

Сярод герояў песень Воўк, Каза, Жыжаль, Лёля, Ярыла, Зюзя, Марана, Буслік, Стаўры і Гаўры — чарадзейныя персанажы, якія жывуць у казачнай краіне — Чароўным Бары.

Акрамя ўласна песень, на дыску можна будзе знайсці і музыку да іх (мінусоўкі), а таксама кніжку-ўкладыш з тэкстамі — для сямейнага і пазакласнага выканання. Альбом можна выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы святаў, школьных ранішнікаў.

Адным з варыянтаў яго распаўсюджвання стануць арыгінальныя памятныя паштоўкі з прома-кодам — спасылкай, праз якую можна будзе ў любы час спампаваць альбом.

Чаму варта падтрымаць выпуск музычнага альбома?

- Густоўны падарунак для дзяцей да Раства і Новага года!
- Цікавы дапаможнік для бацькоў і настаўнікаў па спевах і пастаноўцы народных святаў.
- Займальны шляхаводнік па свеце беларускай міфалогіі.
- Выдатны памочнік у вывучэнні беларускай мовы.

Падтрымайце выданне альбома і замоўце яго, а загадзя і квіток на калядняе прадстаўленне літары «Ў», што адбудзецца 30 снежня ў мінскім маладзёжным Тэатры беларускай эстрады.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1211

Падпісана да друку 30.11.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб’ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.